ЛіМ

ГАЗЕТА
ТВОРЧАЙ ІНТЭЛІГЕНЦЫІ
БЕЛАРУСІ

# ЛІТАРАТУРА І МАСТАЦТВА

17 МАЯ 1996 г. № 20 (3844) Кошт 2 500 руб.

## УРАБЛЯЦЬ СВАЮ НІВУ!

***Леанід ЛЫЧ: "Сама Кампартыя Беларусі мэтанікаравана расчышчала, пашырала на нашай зямлі палігон функцыянавання рускай культуры і мовы, зусім не задумваючыся над тым, як у такіх варунках будуць сябе тут адчуваць беларуская культура і мова".***

**5**

## АНКЕТА "ЛіМа"

***Сяргей ГРАХОЎСКІ: "Сёння паэзія і ўся літаратура павінны быць барометрам, кардыёграфам часу, звонам, што перад небяспекай становіцца набатам. Узораў даволі ў кожным мастацтве, а яно — слуга і павадыр народа".***
***Валянцін АКУДОВІЧ: "Здаецца, мы жывем якраз у такую эпоху татальнай перамены ўсяго сацыякультурнага дыскурсу. Цяжка меркаваць, мы яшчэ на пераправе, ці ўжо на другім беразе".***

**6—7**

## ВЕДАЎ І РАБІЎ БОЛЬШ, ЧЫМ ІНШЫЯ

***Матэрыялы пра Барыса Сачанку, якому 15 мая споўнілася б 60 гадоў.***

**7, 14—15**





***Маладыя гады, маладыя жаданні...***

*Фота М. ШМЕРЛІНГА*

# ЛіМ КОЛА ДЗЁН

***Дзень 14 мая яшчэ пакуль не ўказана лічыць на Беларусі дзяржаўным святам. Але назва яму, гэтаму "святу", напрошваецца зусім несвяточная: дзень ганьбы, ці што? Тое, што адбылося год таму, доўга яшчэ будзе крывавіць незажыўнай ранай на чале беларускай дзяржавы. Дасць Бог — не смяротнай ранай. Аднак, як кажуць, на Бога спадзявайся, ды і сам старайся. Сёлетняя вясна дае нам надзею, што не ўсё яшчэ страчана, што пастутова прачынаецца народ ад векавой спячкі, што абыякавых да сваёй будучыні застаецца ўсё менш і менш.***

## ВЫСНОВА ТЫДНЯ

Падчас наведання вытворчага аб'яднання "Гарызонт" прэзідэнт Беларусі, нарэшце, знайшоў панацэю ад усіх хвароб, што ахапілі нашу эканоміку. Дзеля таго, каб вывесці аб'яднанне з крызісу, на ім будзе створаны "прэзідэнцкі савет працоўнага калектыву" з рабочых і спецыялістаў, які будзе кантраляваць адміністрацыю прадпрыемства і мець "выхад" праз віцэ-прэм'ера непасрэдна на прэзідэнта. "Лічыце, што ад сёння на "Гарызонце" прэзідэнцкае кіраванне", — сказаў А.Лукашэнка. Падобнае, "двайное" кіраванне ў бліжэйшай будучыні будзе ўведзена і на іншых буйнейшых прадпрыемствах краіны. А ў перспектыве — "як бы мяне ні папракалі, я прыйшоў да высновы, — сказаў прэзідэнт, — што патрэбна ўсё шырэй уводзіць дзяржаўнае кіраванне"... Усё новае — гэта яшчэ не забытае старое. Перад "развалам Саюза" і пасля заводамі якраз і кіравалі Саветы працоўных калектываў і дзяржава. Да чаго гэта прывяло, мы добра ведаем... Палітыкі пацiскаюць цяпер плячамі, эканамісты — смяюцца, а народ — верыць...

## ПРАЖЭКТ ТЫДНЯ

Ветэраны вайны напярэдадні 9 мая атрымалі ад прэзідэнта персанальны падарунак — указ аб кампенсацыі іх укладаў. Грошы, якія "ляжалі" на ашчадкніжках да 1 студзеня 1992 года, будуць павялічаны ў 1000 разоў. Гучыць! Але 5000 рублёў — былі некалі вельмі вялікія грошы, а што сёння значаць 5 мільёнаў? Аднак на забеспячэнне гэтага чарговага папулісцкага ўказа прэзідэнта грошай у дзяржавы Беларусь няма. Бюджэт і без таго дыхае на ладан. Так што паважаным ветэранам пакуль давядзецца пачакаць паабяцанай кампенсацыі. Да 1 студзеня 1997 года. А там — пабачым.

## ПРАТЭСТ ТЫДНЯ

Пікет каля рэзідэнцыі прэзідэнта з патрабаваннем вызваліць затрыманых 26 красавіка Ю.Хадыку, В.Сіўчыка і іншых палітычных зняволеных пастутова перарос у мітынг, а мітынг — у дэманстрацыю, што накіравалася да турмы на вуліцы Валадарскага. Нягледзячы на запалохванне ўлад, людзей сабралася шмат. Да "беспарадкаў" справа не дайшла, бо міліцыянеры паводзілі сябе стрымана. Відаць, і сапраўды беларускія турмы і КПЗ перапоўненыя і без таго.

## ПАВЫШЭННІ ТЫДНЯ

Адразу тры новыя генералы займела днямі беларуская міліцыя. Паводле ўказаў прэзідэнта генерал-маёрамі міліцыі сталі палкоўнікі Б.Тарлецкі, І.Юркін, Ю.Сівакоў. Некаторыя прозвішчы знаёмыя — падчас і пасля вясновых мітынгаў і "беспарадкаў" гучалі яны не раз. Цяпер вось, так бы мовіць, таварышы "заўважаны" і "адзначаны"...

## ПАПАЎНЕННЕ ТЫДНЯ

Зноў пачаўся прызыў на службу ў войска. Пакуль — у беларускае войска, а не нейкае там аб'яднанае ці СССР. А значыць, магчыма, сёлетнія прызыўнікі не патрапяць на службу ў "гарачыя" кропкі. Магчыма... бо "аб'яднанне" Беларусі з Расіяй якраз найхутчэйшымі тэмпамі ідзе ў ваеннай сферы, а не ў эканоміцы. Між тым, у той жа Расіі на вайну ў Чачню і Таджыкістан паедуць ужо хлопчыкі, якія ў першы клас пайшлі некалі пасля пачатку перабудовы...

## ЦЫТАТА ТЫДНЯ

"Тое, што адбылося 14 мая мінулага года, нельга па закону кваліфікаваць як "спосаб прыняцця грамадзянамі рашэнняў па найбольш важных *пытаннях дзяржаўнага і грамадскага жыцця*". Пры жаданні заплюшчыць вочы на некаторыя абставіны, гэта можна расцаніць толькі як "спосаб выяўлення меркаванняў грамадзян па гэтых пытаннях". Што з гэтага вынікае? Напрыклад, тое, што сімволіка, якая лічыцца афіцыйнай, — незаконная, таму што не грунтуецца на дзеючым (не адмененым) законе".

*(З артыкула Сяргея ЛЯЎШУКОВА "Рэферэндум: рашэнне не адбылося", "Свабода", 14 мая г.г.).*

## ПАПЯРЭДЖАННЕ ТЫДНЯ

Міністэрства юстыцыі вынесла папярэджанне некаторым грамадскім арганізацыям (у тым ліку і Федэрацыі прафсаюзаў Беларусі) за тое, што падчас першамайскага мітынгу іх прадстаўнікі карысталіся "незарэгістраванай" сімволікай: бела-чырвона-белымі, бела-чорна-жоўтымі і чырвонымі (былымі савецкімі) сцягамі. Якім законам кіравалася Міністэрства юстыцыі, выносячы папярэджанне, якім чынам вызначала "законнасць" і "незаконнасць" сцягоў, цяжка зразумець. Хіба што — указамі прэзідэнта. Бо вынікі рэферэндуму ў нас дагэтуль афіцыйна не зацверджаны. І гістарычную (дзяржаўную!) сімволіку пакуль ніхто не забараняў.

## ПЫТАННІ ТЫДНЯ

"Даравала" Расія Беларусі даўгі за энерганосьбіты ці не? Працуе "нулявы" варыянт ці ўжо забыты? Прынамсі, афіцыйныя сродкі масавай інфармацыі забылі пра яго дакладна, а неафіцыйныя паведамляюць, што зрухі з часу "скасавання" Расіяй даўгоў Беларусі ёсць толькі ў адным: гэтыя самыя даўгі, пачынаючы з нуля, зноў растуць. Толькі за тры месяцы запазычанасць за энерганосьбіты расійскаму "Газпрому" ўзрасла на 440 мільёнаў долараў.

## ПРОСЬБА ТЫДНЯ

Малы бізнес на Беларусі паціху канае. Прычына — тэлеграма прэзідэнта, згодна якой з пачатку гэтага года прыпынена рэгістрацыя (і перарэгістрацыя) суб'ектаў гаспадарання і выдача ім адпаведных ліцэнзій. Міністр эканомікі Беларусі Г.Бадзей назваў загад аб прыпыненні рэгістрацыі "малога бізнесу" — "абсалютна няправільным ходам". Кабінет Міністраў прыняў рашэнне хадайнічаць перад прэзідэнтам Беларусі аб адмене дзеяння названай тэлеграмы. Дажыліся: левая рука стала крытыкаваць правую, якая не ведае, што робіць...

## БЯСПАМЯЦТВА ТЫДНЯ

Швейцарцы вырашылі прафінансаваць будаўніцтва ў Кобрыне новай гасцініцы на 40 месц. Беларусы адразу ж прыдумалі гатэлю новую, абсалютна свежую назву. Якую? Ну, вядома ж, — "Сувораў"... Колькі ўжо гаварылася і пісалася пра "подзвігі" графа на беларускай зямлі, і тым не менш...

Ніл ГІЛЕВІЧ

## МАЛАДОЙ БЕЛАРУСКАЙ МАЦІ

**Ты — маці, ты свайму дзіцяці**
**Не для пакут жыццё дала —**
**Для долі-шчасця ў роднай хаце,**
**У царстве праўды і святла.**
**Каб гэтым правам заручыцца,**
**Каб промень веры не пагас —**
**Аддай дзіця сваё вучыцца**
**У беларускі клас!**

**Хай з самай першай**
**парты школьнай**
**Распазнаваць яно пачне**
**У лёсе Бацькаўшчыны вольнай**
**Свой лёс — як вечнасць у вясне.**
**Не дапусці, каб цень злачынца**
**Зацьміў душы яго алмаз:**
**Аддай дзіця сваё вучыцца**
**У беларускі клас!**

**Хай змалку прыйдзе да высновы,**
**Прызнанай людствам нездарма:**
**Мілей, чым гукі роднай мовы —**
**На свеце радасці няма.**
**Каб не запозна далучыцца**
**Да векавых яе акрас —**
**Аддай дзіця сваё вучыцца**
**У беларускі клас!**

**Узнагароду будзеш, маці,**
**Ты атрымоўваць кожны дзень:**
**Любоў і ўдзячнасць — ад дзіцяці,**
**Хвалу і славу — ад людзей.**
**Каб ёй давеку ганарыцца**
**І стрэць спакойна судны час —**
**Аддай дзіця сваё вучыцца**
**У беларускі клас!**

*1996*

## ПРА БЕЛАРУСЬ І ЎВЕСЬ СВЕТ ПА-БЕЛАРУСКУ...



У гэты нялёгкі для кнігавыдання час аматары беларушчыны атрымалі яшчэ адну цікавую і вельмі патрэбную сёння кнігу: у выдавецтве "Беларуская энцыклапедыя" імя Петруся Броўкі выйшаў першы том 18-томнай універсальнай "Беларускай Энцыклапедыі".

Як вядома, аналагічнае выданне ўпершыню прыйшло да чытачоў у 1969—1975 гадах — 12-томная "Беларуская Савецкая Энцыклапедыя", якая мела, без перабольшання, сусветны рэзананс. Аднак, як вядома, за апошнія дваццаць гадоў адбыліся значныя змены ва ўсім свеце, не кажучы ўжо пра саму Беларусь. Таму Кабінет Міністраў Рэспублікі Беларусь і прыняў 23 жніўня 1993 года пастанову, у якой абгрунтаваў неабходнасць выдання *новай універсальнай энцыклапедыі* — "у сувязі з кардынальнымі зменамі, якія адбываюцца ў эканоміцы, палітыцы, культуры Беларусі, неабходнасцю сістэматызацыі звестак аб гэтых сферах грамадскага жыцця, а таксама ў мэтах задавальнення патрэбнасці насельніцтва рэспублікі ва ўсебаковых ведах..."

Калі ў папярэдняй энцыклапедыі было каля 35 тысячы тэрмінаў, дык у новай іх колькасць павялічылася да 80 тысяч. І што самае важнае — у 18-томніку (а кожны том будзе памерам прыкладна 100 уліковa-выдавецкіх аркушаў) асноўнае месца зоймуць матэрыялы, што тычацца непасрэдна шматграннага жыцця нашай дзяржавы, яе гісторыі, яе сённяшняга дня. Для прыкладу: у 12-томнай энцыклапедыі беларускай тэматыцы прысвечана больш за 40 працэнтаў інфармацыі.

Адным словам, як сказана ў прадмове, апублікаванай у першым томе: "Беларуская энцыклапедыя — гэта ўсё пра Беларусь і ўвесь свет па-беларуску, гэтая першая нацыянальная. энцыклапедыя суверэннай дзяржавы Рэспублікі Беларусь..."

# ХТО ЎРАТУЕ ЦЯБЕ, КНІГА?

Што становішча з выданнем беларускай літаратуры склалася, мякка кажучы, трывожнае, пагодзіцца, бадай, кожны, хто сочыць за з'яўленнем чарговых кніжных навінак. Дастаткова завітаць у кнігарні, каб упэўніцца: часы, калі штомесячна выходзілі дзесяткі кніг з маркаю вядучых дзяржаўных выдавецтваў "Мастацкая літаратура" і "Юнацтва" (не кажучы пра іншыя), даўно мінуліся. У тэматычных планах малюнак таксама мала радасны: многія выданні пераносяцца з году ў год, а калі ўвогуле яны прыйдуць да чытача — адно Богу вядома. Ды Бог — далёка, а вось ці руляцца належным чынам аб кнігавыданні тыя, хто гэтым мусіць займацца па абавязку сваёй службы?

На гэтае і іншыя пытанні і спрабавалі знайсці адказы ўдзельнікі *пашыранага пасяджэння рады* Саюза беларускіх пісьменнікаў сумесна з Дзяржаўным камітэтам Рэспублікі Беларусь па друку, на парадку дня якога і стаяла: "Беларуская мастацкая кніга: праблемы яе выдання".

З гасцей у канферэнц-залу Дома літаратара завіталі толькі выдаўцы *ды начальнік аддзела выдавецкай* дзейнасці Дзяржкамдруку С. Палякоў. Сам старшыня камітэта У.Бельскі не змог прысутнічаць, паколькі быў выкліканы ў Кабінет Міністраў. Чамусьці на такую актуальную імпрэзу не трапілі прадстаўнікі Міністэрства культуры, "Белкнігі", "Белсаюздруку" і іншыя, хто мае да распаўсюджвання кнігі самае непасрэднае дачыненне.

Гаворку (пасля ўступнага слова старшыні Саюза пісьменнікаў В. Зуёнка, які вёў пасяджэнне) пачаў дырэктар "Мастацкай літаратуры" С. Андраюк. Летась, сказаў ён, выдавецтвам выпушчана 91 назва кніг, з іх 73 на беларускай мове агульным тыражом 216 тысяч экземпляраў. Гэта, зразумела, мала, бо яшчэ нядаўна "Мастацкая літаратура" выпускала ў год па 140, 130 назваў. Сёлета становішча і ўвогуле пагоршылася: за чатыры месяцы пабачылі свет толькі 16 кніг. Запазычанасць выдавецтву склала больш чым адзін мільярд рублёў, ды і сама "Мастацкая літаратура" не можа своечасова разлічвацца з паліграфістамі. Трывожыць і тое, што пастаянна памяншаецца колькасць заказаў на літаратуру, а тая, якая выходзіць, часам застаецца на складзе выдавецтва. Для прыкладу: цяпер яе *сабралася на мільёнаў 300...*

Сённяшні стан з кнігавыданнем дырэктар выдавецтва "Юнацтва" В.Лукша назваў не проста крытычным, а востра крытычным. За 15 апошніх гадоў нічога падобнага не назіралася. зноў жа, асноўная бяда — адсутнасць абаротных сродкаў. "Юнацтву" *павінны паўтара мільярда* рублёў, выдавецтва ж — яшчэ большы даўжнік. У прыватнасці, яшчэ з лютага 1995 года ніяк не можа разлічыцца з "Юнацтвам" Міністэрства адукацыі і навукі. За чатыры месяцы сёлетняга года выйшла толькі 12 назваў кніг. В. Лукша *ў сваім выступленні вылучыў*, на яго думку, галоўныя праблемы, без вырашэння якіх становішча з кнігавыданнем не палепшыцца. Сярод іх — заканадаўчае зніжэнне падаткавага прэсінгу (цяпер выдавецтва плаціць 13 відаў падаткаў). Гаварыў Валянцін Антонавіч і пра захады, што *прымаюцца па паляпшэнні* становішча непасрэдна самім калектывам. Гэта і прапаганда, продаж літаратуры сваімі сіламі, і прыцягненне да выпуску літаратуры спонсараў і выпуск многіх кніг па арыгінал-макеце, што робіць іх больш таннымі, і стварэнне банка дыяпазітываў, які аказвае добрую паслугу пры перавыданнях і, зноў жа, спрыяе зніжэнню кошту кнігі.

У гаворцы прынялі ўдзел А. Русецкі, Д. Бічэль-Загнетава, сакратар рады СП А. Пісьмянкоў, народны пісьменнік Беларусі Я.Брыль, галоўны рэдактар часопіса "Бярозка" В.Адамчык, А. Дзеружынскі, загадчык рэдакцыі выдавецтва "Мастацкая літаратура" *Л. Дранько-Майсюк*, галоўны рэдактар "Мастацкай літаратуры" М.Кусянкоў і іншыя. Выступоўцы не хавалі свайго непакою ў сувязі з тым становішчам, у якім апынулася кніга, уносілі свае прапановы па паляпшэнні. У прыватнасці, узнімалася пытанне аб *аднаўленні дзейнасці Бюро прапаганды* мастацкай літаратуры з абавязковым продажам літаратуры ў час выступленняў пісьменнікаў. Хоць мелі рацыю і апаненты гэтай прапановы: а ці магчыма гэта, калі такія дарагія сёння транспартныя затраты? Прагучала прапанова (*Л.Дранько-Майсюк, А.Пісьмянкоў*) на некаторы час адмовіцца ад выпуску збораў твораў, выбраных твораў і г.д., якая, аднак, падтрымкі ў прысутных не знайшла.

Пра тое, што робіцца для паляпшэння становішча з кнігавыданнем, расказаў С.Палякоў. Робіцца, *відавочна, мала. Адзінае — з зацвярджэннем* бюджэту пачнуць паступаць сродкі на кнігі, што выпускаюцца па дзяржаўным заказе і для масавых бібліятэк, якія, як вядома, фінансуюцца на сто працэнтаў. Пэўныя надзеі ўскладаюцца на Закон аб выдавецкай дзейнасці, аднак ён *пакуль прыняты толькі ў першым* чытанні.

На пасяджэнні было прынята пагадненне аб супрацоўніцтве паміж Саюзам беларускіх пісьменнікаў і Дзяржаўным камітэтам Рэспублікі Беларусь па друку.

По прапанове А. Вярцінскага і Н. Гілевіча прыняты зварот аб вызваленні з турмы Ю. Хадыкі.

# "УНІЮ" ПАСЛУХАЮЦЬ У ФРАНЦЫІ

Пра міжнародны фестываль харавой музыкі з прыгожаю назвай "Фларылеж вакаль дэ Тур" у нас мала хто і мала што ведае. Хіба толькі тое, што адбываецца ён у гэтыя чароўныя майскія дні, праходзіць ужо ў 25-ты раз, а ў французскі горад Тур збіраюцца на яго ўдзельнікі ці не з усяго свету. Прынамсі, сёлета гэта харавыя калектывы з Аргенціны, Злучаных Штатаў Амерыкі, Расіі, заходнееўрапейскіх краін... Але ёсць спадзеў, што будзем ведаць пра гэты музычны фэст больш, бо ўпершыню сярод яго ўдзельнікаў — беларускі калектыў, знаны мужчынскі камерны хор "Унія" пад кіраўніцтвам Кірылы Насаева. Адметна, што ў абавязковай конкурснай праграме падчас фэсту "Унія" будзе выконваць фрагмент новага беларускага твора "Імшы" Аляксандра Літвіноўскага. Дай Бог поспеху і — цікавых падарожных уражанняў!

**Н. К.**

# ФРАГМЕНТЫ

***"Мысли в переулках по дороге с Чипсайд на Фаррингтон" — такую назву мае артыкул кандыдата юрыдычных навук Васіля Еўдакімава. Яго радзіма — Беларусь, цяперашняе месца пражывання і працы — Лондан. Імя для нас новае і невядомае, затое думкі яго "па дарозе" падаліся цікавымі. Як на наш погляд, дык многія з іх і ўвогуле недалёка ад ісціны. Вось чаму мы пераклалі іх і прапануўваем увазе чытачоў.***

"Калі барацьба з нацыяналізмам паспяхова завершана, грошы на ўмацаванне ўзброенага сацыялізму ад буржуяў ракой не цякуць, а вялыя спробы рэформ бясслаўна правалены, трэба ж нечым зацікавіць грамадзян. І тады на свет божы з куфраў маскоўскай гісторыі выцягваецца ідэя, прымітыўная, як большасць яе носьбітаў, — славянафільства, гэты *фашызм у лапцях.* (...).

Для чаго і, галоўнае, супраць каго славянам трэба аб'ядноўвацца? Нам, наадварот, не замыкацца ў сабе трэба, а да людзей ісці, і чым актыўней, тым лепш. Славяне, якія заўжды знаходзіліся на ўскраіне еўрапейскай цывілізацыі і не атрымалі культурнага імпульсу Рыма, з'яўляюцца самай адсталай з буйнейшых этнічных супольнасцей кантынента. І вось зараз лёс прадстаўляе наш шанц прыйсці ў свет, прыпасці да вытокаў цывілізацый, стаць відушчымі, зразумець, навучыцца і вырасці.

Асноўнай ідэалагічнай альтэрнатывай масквамaніі выступае *беларускі нацыяналізм.* Што абнадзейвае, бо нацыяналізм яшчэ ў XIX ст. лічыўся элементам лібералізму, г. зн. складовай часткай дэмакратыі. Аднак (...) "голай" дэмакратыяй народ не спакушаецца, гэтаксама як і "голым" нацыяналізмам. Нацыяналізмам, зрэшты, не спакушаўся і раней. На тое ёсць прычыны.

Па-першае, для беларусаў усё яшчэ чужое паняцце "сваё". Каштоўнасць нашай гісторыі, нашай культуры і нашай мовы — гэта не прадмет вучоных дыскусій і не пытанне навукі. Гэта — пытанне пачуццяў. Хто любіць — знойдзе процьму аргументаў на карысць беларускасці, хто не любіць — знойдзе процьму супраць. І абодва бакі будуць правымі. Пры элементарнай любові да сябе наша мова і наша культура былі б для нас самымі лепшым і без патрабавання доказаў. (...) Недахоп любові да сябе адчуваецца ў нас на кожным кроку: без любові і душы будуюцца дамы (шэраг адносна новых будынкаў у Мінску — гэта проста архітэктурнае хуліганства з асаблівым прымітывізмам), без любові і выдумкі гатуецца і падаецца ежа, без любові абслугоўваем адзін аднаго. Усё робіцца як быццам не для сябе, усё нейкае часовае, усё як быццам не жывём, а чагосьці вычэкваем.

Другая прычына вялых адносін да беларускасці — палітыка саміх нацыянал-дэмакратаў і іх радыкальнага крыла — БНФ. Бэнээфаўцы, не маючы ўласнай выразнай канцэпцыі работы ў спецыфічных умовах Беларусі, дзейнічалі метадамі прыбалтыйскага нацыянальнага адраджэння. І самі пайшлі на канфрантацыю з грамадствам, пачаўшы дзяліць людзей на "свядомых" і "несвядомых" (...).

Палітычнай сілы, здольнай расправіць плечы беларусаў, пакуль не відаць. Народ сам сябе з убогага жыцця таксама не выцягне. Бо мы, не любячы і не цэнячы ўласнай своеадметнасці, пакуль яшчэ ўяўляем з сябе сурагат нацыі. Можна быць камуністам або антыкамуністам, але *нельга быць бомжам па нацыянальнасці.* Стваральная, эфектыўная дзяржаўнасць можа быць узведзена толькі на трывалым нацыянальным фундаменце".

*"Свабода", N 8*

# ВІНШАВАННІ — МАЙСТРУ

Як мы паведамлялі, мастацкі кіраўнік балета ДАВТа Беларусі Валянцін Елізар'еў атрымаў вышэйшы прыз і дыплом Міжнароднай Асацыяцыі дзеячаў харэаграфіі — за пастаноўку балета "Страсці" ("Рагнеда") на музыку Андрэя Мдзівані. 13 мая са знаным харэографам сустрэўся Старшыня Вярхоўнага Савета Беларусі Сямён Шарэцкі, які павіншаваў майстра з высокай міжнароднай узнагародай і ўручыў яму памятны адрас Прэзідыума Вярхоўнага Савета. Падчас сустрэчы быў зроблены гэты здымак.

*Фота В. ТАЛОЧКІ, БЕЛТА*



# ПАМЯЦІ ВЯЛІКАГА МАСТАКА

14 мая ў Магілёве адкрыўся Першы міжнародны пленэр па жывапісе імя В.К.Бялыніцкага-Бірулі. У ім бяруць удзел мастакі з шэрагу гарадоў Беларусі — Магілёва, Віцебска, Гомеля, Гародні, Маладзечна, Мінска, замежныя госці (Балгарыя, Літва, Польшча, Расія, Сербія, Украіна, Францыя). Праграма пленэру ахоплівае ўсю Магілёўшчыну. Мастакі атрымалі магчымасць папрацаваць у Бялынічах і Асіповічах, Бабруйску, Мсціславе. Кожны знойдзе для сябе нешта цікавае, пабачыць зблізку жыццё беларускай правінцыі. Будуць сустрэчы з калегамі-мастакамі ў іхніх майстэрнях, нефармальнае сумоўе.

Прынцыповае адрозненне магілёўскага пленэру ад ужо, лічы, легендарнага Шагалаўскага, што летась праходзіў у Віцебску, — у крыніцах фінансавання гэтых вельмі дарагіх культурніцкіх акцый. Свята ў Віцебску стала магчымым, дзякуючы спонсарам. Грошы на Першы міжнародны пленэр імя В. К. Бялыніцкага-Бірулі выдаткаваны з абласнога бюджэту. Калі ўлічыць, што Магілёўшчына сёння мае ўсе тыя ж праблемы, што і краіна ўвогуле, такая павага да культуры, разуменне, што "не хлебам адзіным..." выклікае павагу да кіраўніцтва горада Магілёва і вобласці. Прыклад — варты пераймання.

На заканчэнне пленэру ў Магілёве будзе адкрыты бюст-помнік славутаму земляку, народнаму мастаку Беларусі і Расіі В. К. Бялыніцкаму-Бірулю і выставы работ удзельнікаў пленэру. Частка створаных на магілёўскай зямлі палотнаў будзе падорана абласному мастацкаму музею імя П.В.Масленікава. Дарэчы, менавіта Павел Васільевіч Масленікаў калісьці першым падняў пытанне аб ушанаванні памяці вялікага мастака, ураджэнца Магілёўшчыны. Яму належыць ідэя пленэру ў памяць Бялыніцкага-Бірулі.

**П.ВАСІЛЕЎСКІ**

Фестывалі

# РАЗМОВА "НАЧЫСЦІНЮ"

## НЕВЯСЁЛЫЯ НАТАТКІ

*"Свабода друку гарантуе свабоду народу".*
Дэвіз фестывалю беларускай журналістыкі "Залатое пяро-96"

Пачатак травеня багаты на самыя розныя святы, як местачковыя, так і міжнародныя: што ні дзень — свята. Асабліва на іх пашанцавала супрацоўнікам розных галін СМІ. Толькі скончыўся Міжнародны дзень салідарнасці працоўных 1 мая (панашаму — Свята працы), а ўжо на парозе — Сусветны дзень свабоды друку. Яшчэ два дні — і Дзень савецкага друку, які ў нас зараз называецца сціпла Дзень друку, і г. д., і г. д.

Сёлетні Сусветны дзень свабоды друку і прыўрочаны да яго традыцыйны фестываль беларускай журналістыкі "Залатое пяро" як ніколі былі дарэчы. Бо ўсе мы памятаем, што здарылася ў Мінску зусім нядаўна — 26 красавіка. Многія з удзельнікаў фестывалю былі сведкамі гэтых падзей, а некаторыя нават іх ахвярамі. Сталі вядомы абуральныя факты грубага фізічнага ўціску з боку прадстаўнікоў сілавых структур не толькі на сваіх, але і на замежных журналістаў.

Фестываль пачаўся, як звычайна, з невялікім спазненнем. Можа, таму, што чакалі шаноўных гасцей — прадстаўнікоў адміністрацыі рэспублікі і членаў сакратарыята Канфедэрацыі журналісцкіх саюзаў (амаль у поўным складзе) на чале з яе прэзідэнтам, старшынёй Усерасійскай дзяржаўнай тэлерадыёкампаніі Э. Сагалаевым.

Як звычайна, гучалі прывітальныя прамовы, уручаліся ўзнагароды лаўрэатам прэмій БСЖ за лепшыя журналісцкія работы 1995 года, называліся імёны тых, хто зрабіў "выдатны ўклад у развіццё беларускай журналістыкі", стаў "Заслужаным журналістам БСЖ". Лаўрэаты і ўшанаваныя казалі словы ўдзячнасці ў адказ, стараліся разварушыць залу артысты эстрады, а... пачуцця ўзнёсласці, урачыстасці, святочнасці ніяк не ўзнікала.

Лаўрэатамі прэміі імя Д. Холадава "за мужнасць і прафесіяналізм у журналістыцы" сталі трое. Першым, пад апладысменты прысутных, гадзіннік з выявай Д. Холадава з рук Э. Сагалаева атрымаў народны артыст СССР М. Яроменка, які адразу ж запэўніў прысутных што прыкладзе ўсе сілы, каб аб'яднацца.

У свой час савецкая грамадскасць з вялікім уздымам зрабіла выдатнейшым пісьменнікам Генеральнага сакратара КПСС; зусім нядаўна стаў дзеячам кінематаграфіі прэзідэнт нашай краіны; зараз у кагорту журналістаў прыняты і адзначаны народны артыст. Толькі пры чым тут мужнасць і ці варта называць падобныя прэміі прафесійнымі?

Мімаволі з'явіліся і пачалі расці пачуцці раздражнення і смутку. Мы ніяк не расстанемся з часамі незабыўнага Леаніда Ільіча, калі даводзілася думаць — адно, гаварыць — другое, а рабіць — трэцяе, ніяк не перастанем займацца мешанінай божага дару з яешняй...

Нарэшце надышла доўгачаканая фестывальная лятучка на тэму "Грамадства — улада — прэса", на якой па праграме і павінна была адбыцца "размова начысціню". Вялі яе старшыня Беларускага СЖ Л. Екель і Э. Сагалаеў. Усім, зразумела, не цярпелася даведацца, аб чым яны гаварылі раніцой з прэзідэнтам Беларусі А. Лукашэнкам. Але больш таго, што шчырая гаворка з вельмі нераўнадушным і няпростым чалавекам доўжылася дзве гадзіны, што свабоду друку нельга дараваць, яе трэба заслужыць і адчуваць адказнасць перад уладамі, мы не пачулі. На ўсе пытанні (рэдактара газеты "Беларуская маладзёжная", выканаўчага дырэктара Беларускай асацыяцыі журналістаў і іншых), ці будуць якія-небудзь заявы і дзеянні Беларускага СЖ і Канфедэрацыі СЖ у абарону правоў пабітых і арыштаваных 26 красавіка журналістаў, быў адказ — не. Л. Екель заявіў, што лепей не заявы пісаць, а "глядзець адзін аднаму ў вочы". Што датычыць Канфедэрацыі, то аказалася, што яна ўвогуле не ўмешваецца ў справы саюзаў, якія ўваходзяць у яе склад, а толькі дапамагае ім.

Дзеля аб'ектыўнасці трэба адзначыць, што сярод удзельнікаў лятучкі было многа такіх, каго ўсе гэтыя пытанні, мякка кажучы, "не цікавілі". Яны спрабавалі абарваць падобныя пытанні дэманстратыўнымі апладысментамі, што толькі абвастрала абстаноўку ў зале. У рэшце рэшт гэта вымусіла Э. Сагалаева заклікаць прысутных "к единству" на прафесійнай аснове. Ён выказаў думку, што беларускай інфармацыі будзе месца ў асяродку расійскіх СМІ, што ў Сусветны дзень свабоды друку напярэдадні Дня друку трэба папрасіць улады выпусціць на волю арыштаванага калегу. Апошняе меркаванне было сустрэта апладысментамі.

Нават апошняя мажорная нота не развеяла сумных высноў з такой адносна напружанай размовы "начысціню": простаму журналісту прыйдзецца "глядзець у вочы" (дакладней, "у рот") начальству, якога ягоная (журналіста) асабістая думка зусім не цікавіць, бо ніякай дапамогі ад свайго саюза не дачакаешся, а Канфедэрацыя зойме пазіцыю неўмяшання.

Закрываючы фестываль, Л. Екель падзякаваў Богу, што мы ёсць, што наш саюз не расколаты.

Толькі ці патрэбны простаму журналісту і такі саюз, і такая канфедэрацыя?

**Генадзь ШЭРШАНЬ**

Варункі

# СУПОЛЬНАСЦЬ

*Проч Жыгімонта караля!*
З "Прамовы Мялешкі"

Развал Саюза адкрыў перад Беларуссю бліскучыя магчымасці. Маючы выдатнае геапалітычнае становішча і высокі эканамічны патэнцыял, мы маглі б даволі хутка справіцца з цяжкасцямі рэструктурызацыі нашай прамысловасці. Ды тысячу разоў быў правы У. Караткевіч, які бедаваў, што такому народу і на такой зямлі былі дадзеныя Богам такія аніякія кіраўнікі!

Тое ж ЦК, якое кіравала пры Саюзе, не паспеўшы адчуць смак волі, зноў запрасілася ў агульную клетку і пачало змагацца з незалежнасцю. Не важна, што яны схавалі партыйныя білеты. Па сутнасці, яны заставаліся камуністамі з іхняй ідэалагічнай устаноўкаю — аднавіць Саюз.

З іхняга трэцяга эшалона выйшаў вылучэнец, які пасля двух гадоў ці не свядомага разбурэння незалежнасці, змагання з моваю, культурай, нацыянальнай свядомасцю беларусаў, пасля поўнай няздольнасці паставіць эканоміку на торны шлях, урэшце далучыў Беларусь да Супольнасці. Зляпліваючы Супольнасць, ён адкрыта назваў нашую незалежнасць — "гістарычнай памылкаю 1991 года", адначасова заяўляючы: "не верце тым, хто крычыць аб здачы суверэнітэту, гэтага няма і ніколі не будзе".

Ці можна тут адшукаць элементарную логіку? Бо што такое суверэнітэт, як не магчымасць цалкам вызначаць знешнюю і ўнутраную палітыку дзяржавы, як не магчымасць будаваць на дзяржаўніцкіх падвалінах грамадскую супольнасць у краіне?

Які ў нас быў суверэнітэт перад "гістарычнай памылкаю", мы добра памятаем. Верагодна, мы па-іншаму разумеем гэтае слова? Добра вядомая псіхалогія зэка-рэцыдывіста, для якога ўвесь нармальны свет уяўляецца варожым, але вось турма — гэта родны дом, а ў ёй — так званы суверэнітэт — свая камера.

Довады, якія прыводзяцца ў абарону Супольнасці, не вартыя крытыкі. Агульная эканамічная прастора з хворай эканомікай Расіі? Гэта не выгода. Неабсяжны рынак? Пачытайце эканамістаў-аналітыкаў. Яго даўно ўжо няма. Танныя энергарэсурсы? У гэтым годзе на іх у Расіі ўводзяцца сусветныя цэны, а ўсё, што прадавалася раней — ішло з умоваю платнага транзіту праз нашу тэрыторыю і значыць — не дарма. Больш таго, у гэтым натуральным абмене традыцыйна выйграваў мацнейшы — Расія. Сумесныя чарнобыльскія праграмы? Дык яна (гл. "Известия") у Расіі завалена на ўсе сто. Відаць па ўсім, не нам, а ад нас яшчэ пацягнуць. Вайсковае супрацоўніцтва? Пэўна што, яно выгоднае для Расіі з яе імперскімі амбіцыямі. А няўжо нашым беларускім коням мала вады ў Дняпры?

Дык што ж за такая маліна — гэта Супольнасць? Расійскія палітыкі ўсіх акрасаў непрыхавана гавораць пра стратэгічныя інтарэсы і выгоду для Расіі. А што нам з усяго гэтага?

Дарэмна шукаць чалавечую логіку там, дзе працуе логіка камуністаў — ненавіснікаў усяго беларускага. Яны ўжо не раз гандлявалі Беларуссю. Гандлююць і зараз. І калі мы не спынім гэты гандаль, могуць прадаць канчаткова.

Адзінае, што выклікае аптымістычную выснову з сённяшняй паныла рэчаіснасці, дык гэта тое, што ўсе дэмакратычныя сілы на Беларусі сёння стаяць на незалежніцкіх пазіцыях. Гэта значыць, што нашая незалежнасць сёння, як ніколі, звязана з дэмакратычным рухам.

**Алесь БЯЛЯЦКІ**

ЛіМ
ЧАСАПІС



# КУЛЬТУРА — ГЭТА ДЗЯРЖАВА

## ЗВАРОТ РАБОТНІКАЎ КУЛЬТУРЫ І МАСТАЦТВА ДА ВЯРХОЎНАГА САВЕТА, УРАДА РЭСПУБЛІКІ, МЯСЦОВЫХ ОРГАНАЎ ДЗЯРЖАЎНАГА КІРАВАННЯ І ГРАМАДСКАСЦІ РЭСПУБЛІКІ БЕЛАРУСЬ

Мы, работнікі культуры і мастацтва, сярод якіх дзеячы прафесійнага мастацтва, культасветработнікі, кіраўнікі і супрацоўнікі органаў упраўленння культурай рознага ўзроўню, сабраўшыся разам на сустрэчу ў Вярхоўным Савеце, усебакова прааналізавалі ход выканання заканадаўства ў сферы культуры і асноўныя шляхі яе прыярытэтнага развіцця. Занепакоеныя сучасным станам — Культуры і Мастацтва, з болем у сэрцы адзначаем, што наша нацыянальная культура паступова пачынае траціць свае лепшыя духоўныя традыцыі, высокі адметны гонар і былую славу. Як ні цяжка гаварыць аб гэтым, але культура і мастацтва зараз замест росквіту ледзь выжываюць і практычна пераходзяць на жабрацкае існаванне.

З году ў год на развіццё культуры і мастацтва з бюджэту рэспублікі выдзяляецца ўсё менш і менш фінансавых сродкаў, якія нават не складаюць і палову таго, што гарантавана Законам "Аб культуры ў Рэспубліцы Беларусь". І як вынік — у заняпадзе апынулася матэрыяльна-тэхнічная база галіны, катастрафічна не хапае сродкаў на капітальнае будаўніцтва, рэстаўрацыю. Не поўнасцю выконваюцца законы, якія датычаць культуры, што прыводзіць да стварэння неабходнага прававога поля для нармальнай дзейнасці сферы культуры і яе работнікаў і іншых парушэнняў.

Мы з'яўляемся сведкамі беспадстаўнага самавольнага закрыцця многіх раённых і сельскіх клубаў і бібліятэк, распаду кінасеткі, асабліва ў сельскай мясцовасці. Толькі за пяць апошніх год у рэспубліцы спынілі сваё існаванне 865 масавых бібліятэк, 977 клубных устаноў, 3136 кінаўстановак. І гэты непажаданы для культуры працэс, на жаль, працягваецца.

Сёння нас не могуць не хваляваць пытанні стану айчыннага прафесійнага мастацтва — нашых тэатраў, кіно, музычнага выканання, усяго таго, што з'яўляецца сапраўдным індыкатарам нацыянальнай культуры нашага народа. Не са слоў, а з асабістай дзейнасці нам вядома, колькі ў тэатрах нявырашаных праблем і цяжкасцей, якія патрабуюць перш за ўсё значных матэрыяльна-фінансавых сродкаў, наяўнасці адпаведнай інфраструктуры. Адсутнасць належнага клопату з боку нашай дзяржавы і грамадства, недастатковая іх увага да развіцця руху мецэнацтва, фундатарства і іншых дабрачынных ахвяраванняў прывяло да таго, што ў значнай колькасці калектываў тэатраў усё больш пачынае акрэслівацца нізкі рэпертуарны ўзровень, адсутнічаюць добрыя мастацкія праграмы, нярэдка ідзе адмова ад п'ес на сучасную тэматыку.

Цяжкія дні перажывае сёння і наша кіно, выяўленчае і музычнае мастацтва, што рэзка збядняе духоўнае жыццё краіны, прыводзіць да ўсталявання жорсткасці, насілля і амаральнасці на экранах кінатэатраў і тэлебачання, у літаратуры і іншых мастацкіх творах. Тэрміновых практычных мер падтрымкі патрабуе адзіная ў краіне кінастудыя, магчымасці якой па стварэнні поўнаметражных і іншых фільмаў не выкарыстоўваюцца нават напалову.

Не хапае грашовых сродкаў на правядзенне масавых культурных мерапрыемстваў — розных фестываляў, конкурсаў, выставак, якія б спрыялі вызначэнню новых талентаў. Востра недастае прафесійных спецыялістаў ва ўстановах культуры, вялікая іх цякучасць. Нездавальняюча праводзіцца матэрыяльна-тэхнічнае забеспячэнне вучэбнага працэсу навучальных устаноў культуры. Адсутнасць належных сацыяльна-бытавых умоў у педагагічных работнікаў і студэнтаў прыводзіць да зніжэння ўзроўню навучання маладых кадраў.

Па прычыне несвоечасовага прыняцця на дзяржаўным узроўні канкрэтных практычных мер па абароне і забеспячэнні сацыяльна-эканамічных, працоўных і прававых гарантый шматлікай арміі артыстаў, музыкантаў, рэжысёраў тэатраў і кіно, кампазітараў, мастакоў, пісьменнікаў, канцэртных выканаўцаў, бібліятэкараў, работнікаў музеяў, клубаў, кінатэатраў, паркаў культуры і адпачынку, навучальных устаноў і работнікаў сферы народных промыслаў і рамёстваў самым нізкім у краіне апынуўся заробак усіх катэгорый работнікаў культуры, які за мінулы год у сярэднім па галіне склаў 510 тыс. рублёў, а навуковага супрацоўніка музея — усяго 340 тыс. руб., бібліятэкара I катэгорыі — 350 тыс. руб., работніка клубнай установы — 374 тыс. руб.

А ў якую непралазную даўгавую яму заціснула культуру і ўсе яе віды, перш за ўсё прафесійнае мастацтва, народную творчасць, прадпрыемствы і арганізацыі, якія знаходзяцца на балансе творчых саюзаў і культурных фондаў, дзеючая сёння сістэма падаткаабкладання, згодна з якой духоўныя творцы культуры пазбаўляюцца права на льготы, страчваюць стымул для працы.

Толькі па адной гэтай прычыне многія творчыя саюзы ўжо зараз ледзь зводзяць канцы з канцамі і выжываюць толькі за кошт сваіх членскіх узносаў, практычна знаходзяцца на мяжы развалу і вымірання, што можа прывесці да знішчэння ўсёй нацыянальнай літаратуры і мастацтва. У любой сітуацыі гэтага допусціць нельга.

Мы разумеем, што ў значнай ступені ўзнікшыя негатыўныя тэндэнцыі ў сферы культуры абумоўлены станам нацыянальнай эканомікі, а таксама многімі відавочнымі супярэчнасцямі на шляху да рыначных рэфармацый. Вось чаму ўсе работнікі культурнага фронту вераць, што гэта справа часовая, пераходная. І мы, творцы нялёгкага духоўнага хлеба, аптымісты па натуры, яшчэ не адзін раз парадуем сваіх суайчыннікаў, увесь беларускі народ і сваю горача любімую Радзіму новымі шэдэўрамі нацыянальнай культуры і мастацтва, будзем самааддана служыць ім і надалей. І надзеі свае мы ўскладаем на дзяржаву, бо шчыра пераканаsuccessfully, што культура — гэта дзяржава. Толькі з яе паўсядзённай падтрымкай і сапраўднай дапамогай выжыве, будзе жыць і развівацца культура і мастацтва. Верым, што на небасхіле беларускай культуры зноў, як і раней, будуць ярка гарэць чароўныя зоркі Натхнення, Хараства, Гармоніі і іншыя добрыя духоўныя накапленні, якія нясуць людзям Культура і Мастацтва, іх Творцы, даючы нязгасны свет вечнаму жыццю.

Увабраўшы ўсе нашы думкі і пачуцці, выказаныя на сустрэчы, і імкнучыся надалей адраджаць, развіваць і ўдасканальваць нацыянальную культуру, высокі прадстаўнічы сход ад імя ўсіх работнікаў культуры і мастацтва рэспублікі звяртаецца з наступнымі прапановамі да Вярхоўнага Савета і ўрада рэспублікі, да ўсіх мясцовых органаў дзяржаўнай улады і кіравання, да грамадскасці з наступнымі прапановамі:

1. Прасіць паскорыць разгляд вышэйшым заканадаўчым органам краіны падрыхтаваны блок новых заканадаўчых актаў, якія датычаць сферы культуры і яе прававога рэгулявання: "Аб музеях і музейным фондзе Рэспублікі Беларусь", "Аб творчых саюзах", "Аб тэатрах і музычна-канцэртнай дзейнасці", "Аб нацыянальнай кінематаграфічнай дзейнасці", "Аб аўтарскім праве", "Аб народнай творчасці і рамёствах".

2. Міністэрству культуры сумесна з Канфедэрацыяй творчых саюзаў і культурных фондаў, БРК прафсаюза работнікаў галіны паскорыць распрацоўку комплекснай дзяржаўнай Праграмы далейшага развіцця ўсёй беларускай культуры, у тым ліку і прафесійнага мастацтва, а на пераходны перыяд — спецыяльнай Канцэпцыі развіцця мастацтва і культуры з выдзяленнем у ёй асноўных прыярытэтных накірункаў і іх дзяржаўнага фінансавання. Прасіць урад рэспублікі да канца 1996 г. разгледзець і зацвердзіць адзначаныя праграмныя дакументы ў сферы культуры.

3. Камісіі Вярхоўнага Савета па адукацыі, навуцы і культуры на аснове хадайніцтва Міністэрства культуры і Кабінета Міністраў унесці ў Вярхоўны Савет Рэспублікі Беларусь у спецыяльны Кодэкс аб падатках, які зараз рыхтуецца, канкрэтныя прапановы аб ільготах на падатак для сферы культуры і мастацтва, іх прадпрыемстваў і арганізацый.

Асобныя льготы ў вобласці падаткаабкладання для ўстаноў культуры таксама разгледзець ва ўсіх абласных Саветах і ў Мінгарсавеце.

4. У мэтах удасканальвання і больш якаснага стымулявання заработнай платы ў сферы культуры і мастацтва для ўсіх катэгорый работнікаў рэкамендаваць ураду рэспублікі стварыць у маі-чэрвені 1996 г. спецыяльную Пагаджальную камісію ў складзе адказных работнікаў Міністэрства культуры і БРК прафсаюза работнікаў культуры, Міністэрства працы, Міністэрства фінансаў і Міністэрства эканомікі з тым, каб напрацаваныя прапановы камісіі ў другім паўгоддзі бягучага года ўнесці на разгляд Кабінета Міністраў.

5. Ад імя работнікаў культурнага фронту заклікаем кіраўнікоў усіх прадпрыемстваў, калгасаў і саўгасаў рэспублікі, камерцыйных арганізацый, банкаў, прадпрымальнікаў, іншых прыватных структур, усіх юрыдычных і фізічных асоб узяць шэфства над культурай, развіваць шырокі рух мецэнацтва і фундатарства, а вылучаныя сродкі накіроўваць перш за ўсё на рэстаўрацыю, рамонт і аднаўленне святынь нашай культуры — помнікаў гісторыі і культуры рэспубліканскага значэння, а таксама на правядзенне розных міжнародных фестываляў, конкурсаў і выставак, замежных гастроляў і абмен творчымі калектывамі.

6. У мэтах захавання ўсіх тыпаў традыцыйнай беларускай культуры і яе ўстаноў, усебаковай дзяржаўнай падтрымкі прафесійнага мастацтва, умацавання матэрыяльнай базы творчых саюзаў і культурных фондаў у сучасных складаных сацыяльна-эканамічных умовах прасіць Прэзідэнта Рэспублікі Беларусь стварыць у краіне адзіны грамадскі Нацыянальны савет па культуры і мастацтве з шырокімі правамі і паўнамоцтвамі ў каардынацыі ўсёй дзяржаўнай палітыкі ў культурнай сферы, правядзенні адпаведнай кадравай работы, фінансавання прыярытэтных напрамкаў, а пры міністэрствах — ведамасную сетку грамадска-дзяржаўных мастацкіх саветаў па асобных відах прафесійнай творчасці (тэатральным, музычным, выяўленчым, экранным) з адпаведнымі правамі і абавязкамі па забеспячэнні правядзення дзяржаўнай палітыкі ў мастацкім жыцці краіны. Рэкамендаваць мясцовым органам улады ўсіх узроўняў спыніць укараніўшуюся ў апошні час практыку беспадстаўнага закрыцця бібліятэк, клубных устаноў, кінаўстановак і іншых масавых ачагоў культуры.

Спадзяёмся, што наш Зварот знойдзе шырокую падтрымку як з боку дэпутатаў Вярхоўнага Савета, так і з боку урада рэспублікі, а таксама дзяржаўных органаў улады і кіравання, культурнай грамадскасці.

*Зварот прыняты аднагалосна на рэспубліканскай сустрэчы работнікаў культуры і мастацтва 24 красавіка 1996 г.*

## ПРА БЫТ ЛІТАРАТАРАЎ ...

**Сакратарыят Саюза беларускіх пісьменнікаў і праўленне Беларускага літаратурнага фонду правялі агульны сход членаў фонду. З часу папярэдняга аналагічнага мерапрыемства мінула два гады. Тады старшынёй праўлення Беллітфонду быў выбраны А. Жалязоўскі, а паколькі ён з'яўляецца і сакратаром праўлення СП, то гэтую работу выконвае на грамадскіх пачатках. Ён і трымаў справаздачу перад таварышамі, расказаўшы аб тым, што зроблена па сацыяльнай абароне літаратараў, стварэнні належных умоў для іх жыцця. На жаль, тут мала чым можна пахваліцца. Праўда, пэўныя захады для паляпшэння становішча прымаліся. І не без садзеяння саміх літаратараў. У прыватнасці, дапамогу аказвалі Я. Будзінас і Л. Дайнека, а ў выніку хворым пісьменнікам, удовам літаратараў бясплатна былі выдзелены лекі. Па меры магчымасці пэўную дапамогу аказвае літаратарам і Літфонд. І дзякуючы таму, што некаторыя сродкі паступаюць з Масквы (а Беллітфонд, як вядома, уваходзіць у міжнародную суполку аналагічных арганізацый), і за кошт уласнай дзейнасці. Прыбытак, няхай і не такі вялікі, дае кафэ, што працуе ў Доме літаратара. Літфонд аказвае дапамогу і тым, хто жадае адпачыць ці папрацаваць творча. Дом творчасці "Іслач" пад Мінскам цяпер набыў статус санаторыя-прафілакторыя. І хоць пуцёўкі туды не такія і танныя, але значную частку выдаткаў бярэ на сябе Літфонд. І ўсё ж, як зазначыў А. Жалязоўскі, становішча на сённяшні дзень вельмі няпростае. Хоць бы з утрыманнем таго ж санаторыя-прафілакторыя. Падрабязней пра гэта расказаў дырэктар "Іслачы" С. Лысуха. Найбольш крытычнае становішча складваецца зімой, калі трэба вельмі шмат плаціць за ацяпленне. Ды і на рамонт памяшканняў, замену абсталявання, іншыя справы нямала патрабуецца сродкаў. А да ўсяго існуюць праблемы і з жыллём для тых, хто абслугоўвае санаторый-прафілакторый. Калі ён быў узведзены, не паклапаціліся, каб дамы для абслугі мелі статус інтэрнатаў. У выніку ў іх цяпер жывуць сем'і даўно звольненых з працы. Абслугу ж даводзіцца штодня прывозіць з Мінска.**

**У абмеркаванні ўзнятых пытанняў прынялі ўдзел А. Майсееў, Г. Васілеўская, А. Русецкі, І. Капыловіч, А. Васілевіч, старшыня СБП В. Зуёнак. Гаворка вялася пераважна пра становішча санаторыя-прафілакторыя, пра размеркаванне сродкаў, якія атрымліваюцца ад здачы ў арэнду памяшканняў Дома літаратара, пра работу паліклінікі, якая знаходзіцца пад пагрозай закрыцця.**

## РАЗВІТАЛІСЯ... З АНШЛАГАМ!

**На прэстыжны музычны фестываль, што ўжо аж два стагоддзі існуе ў Англіі, выправіліся беларускія выканаўцы. Хто ж спадобіўся такога гонару — трапіць у сузор'е сусветна вядомых гасцей свята? Сапраўды таленавітыя і сапраўды перспектыўныя: выхаванцы Рэспубліканскага ліцэя пры Беларускай акадэміі музыкі. Рыхтуючыся да вандроўкі, яны далі бліскучы аншлагавы канцэрт у Вялікай зале філармоніі.**

**Увесь вечар цараваў на сцэне Камерны аркестр пад кіраўніцтвам артыстычнага і элегантнага маэстра Уладзіміра Перліна. Дзівосны гукавы баланс, эмацыянальная пластычнасць, чысцюткія унісоны, падобныя да грання аднаго-адзінага інструмента, найтанчэйшае піцыката... Што тут казаць — публіка слухала прагна, а потым не стрымлівала ні воплескаў, ні воклічаў "брава!" Моцарт, Элгар, Бах, Вівальдзі, Альбіноні, Бернстайн, Андэрсен, Качыні... У аркестра былі і выдатныя салісты, для якіх ён стаўся далікатным партнёрам: юныя лаўрэаты міжнародных конкурсаў флейтыстка Даша Бельцюкова, цымбаліст Міша Лявончык, скрыпач Алег Яцына, габаіст Дзмітры Маргулец, віяланчэліст Гарык Анішчанка.**

**Адбылася прэм'ера канцэртнай п'есы Сяргея Бельцюкова "Крэда" для флейты, цымбалаў і камернага аркестра. Прагучала некалькі эфектных віртуозных твораў у сольным выкананні Мішы Лявончыка, які пераканаў публіку ў невычэрпных "галасавых магчымасцях" свайго інструмента. Што ні твор — то свая тэмбравая і штрыхавая палітра: скажам, у папулярнай "Зязюльцы" Дакена саліст прадэманстраваў дзівоснае клавесіннае гучанне цымбалаў, а яго канцэртмайстар Любоў Пятрова, здавалася, неверагодным чынам імітавала на раялі... папеўкі флейты! Ну, а флейта — сапраўдная флейта Дашы Бельцюковай кранала праніклівымі інтанацыямі чалавечага пяяння, калі аркестр выконваў "Марш", "Менуэт" і "Паланез" М. Кл. Агінскага ў аркестроўцы Вячаслава Кузняцова — фрагменты з арыгінальнага балета "Паланез".**

**Звычайна юным беларускім музыкантам у замежных вандроўках спадарожнічае поспех. Хай жа не здрадзіць нашым "зорачкам" іх сталы спадарожнік і на гэты раз!**

**С. БЕРАСЦЕНЬ**

# УРАБЛЯЦЬ СВАЮ НІВУ!

## ЯШЧЭ РАЗ ПРА ДЭНАЦЫЯНАЛІЗАЦЫЮ НАШАЙ КУЛЬТУРЫ

Леанід ЛЫЧ

### 1. РУСКАЙ — ПАЛІГОН, БЕЛАРУСКАЙ — ЗАГОН

У наш нялёгкі час, калі даводзіцца самым сур'ёзным чынам гаварыць пра біялагічнае выжыванне беларускай нацыі, мы, натуральна, менш за ўсё турбуемся пра яе культуру. А стану ж апошняй ніяк не пазайздросціш. Асабліва хворымі з'яўляюцца яе нацыянальныя асновы. Калі ўзяць толькі прафесійную культуру, дык тут, акрамя мастацкай літаратуры, такія асновы нават удзень трэба шукаць са свечкай.

Я добра разумею алімпійскі спакой за беларускую нацыянальную культуру нашых урадоўцаў, даволі шырокіх мас народа, у тым ліку многіх інтэлігентаў. Нацыянальныя ж асновы беларускай культуры, скажуць яны кожнаму, размываюцца не якімі-небудзь чужымі духоўнымі элементамі, а блізкароднаснымі рускімі, прычым не забудуцца падкрэсліць: больш развітымі і прагрэсіўнымі, чым нашы ўласныя, айчынныя. Таму, на іх погляд, не аплакваць і бедаваць, а радавацца трэба такім "заканамерным прагрэсіўным працэсам" у духоўным жыцці беларускай нацыі. І абавязкова заўважыць, што з яе ж боку аніякага пратэсту няма супроць дэфармацыі прыродных і замены іх духоўнымі каштоўнасцямі суседняга народа; нагадаюць, якія цесныя і плённыя культурныя сувязі з ім існуюць яшчэ ад часоў старажытнарускай дзяржавы, калі на чале яе стаялі Рурык і Алег, Ігар і Вольга.

Неабходнасць самых шырокіх сувязяў у галіне культуры з любым народам я заўсёды прызнаваў і прызнаю за станоўчую з'яву, а вось калі яны набываюць такі характар, што вядуць да культурна-моўнай асіміляцыі, — рашуча выступаю супраць гэтай пачварнай з'явы, нават калі яна датычыць і небеларусаў. На нашу бяду, па віне высокіх палітыкаў і ў значнай ступені дзякуючы намаганням пэўных асоб з інтэлігентных колаў Расіі і Польшчы такія сувязі нам, акрамя карысці, прычынялі яшчэ і вялікую, нічым не заменную страту. Вось чаму гэтакую рэзкую адмоўную рэакцыю і раней і цяпер выклікаюць у нацыянальна-самасвядомых беларусаў такія з'явы, як паланізацыя і русіфікацыя. Супроць іх заўсёды ўпарта бараніліся найлепшыя сыны і дочкі беларускага народа, добра разумеючы, якую пагрозу гэта нясе не толькі іх культуры, але і захаванню сябе як самабытнай этнічнай супольнасці.

З радасцю можна адзначыць, што такія апантаныя вялікай любоўю да нацыянальнай культуры людзі былі ў нас ужо і не ў гэтак далёкім мінулым: у першыя пасляваенныя гады. Перажыўшы трагедыю вайны, нямецкай акупацыі фізічна, ім, зразумела, цяпер хацелася больш раскутымі адчуваць сябе і палітычна, і духоўна, ну хоць трохі наблізіцца да Еўропы, з якой многія з іх няблага пазнаёміліся, трапіўшы туды ў ролі салдата. Вельмі падабалася і нават трохі зайздросцілі, бачачы, як невялікія па колькасці народы Еўропы (чэхі, балгары, славакі, румыны, харваты) ладзяць сваё жыццё ў поўнай адпаведнасці з гістарычнымі, нацыянальна-культурнымі традыцыямі. Усяго гэтага не бачылі яны ў сябе на радзіме: самую высокую ў рэспубліцы партыйную пасаду ўзначальвае прысланая Масквой асоба небеларускай нацыянальнасці, у аўдыторыях вышэйшай і сярэдняй спецыяльнай школы амаль не гучыць беларуская мова, не дэманструюць на ёй кінафільмаў, вельмі мала ўжываюць яе ў час правядзення рознага роду культурна-масавых, святочных мерапрыемстваў. Хаця ўсе гэтыя хібы, перакосы ў палітычным, культурным жыцці беларусаў абмяркоўваліся ў вузкім коле нашых інтэлігентаў, пры шчыльна зачыненых дзвярах, аднак многае з таго, што іх хвалявала, пра што яны гаварылі, станавілася здабыткам спецыяльных службаў Беларусі, якія, дарэчы, узначальвала, як мы сёння сказалі б, асоба каўказскай нацыянальнасці — Лаўрэнцій Цанава. Ён-то рэгуялрна і перадаваў нягласна здабытую аб настроях інтэлігенцыі інфармацыю ў ЦК КП(б)Б.

Трэба сказаць, што найвышэйшы партыйны орган і без такой інфармацыі стала цікавіўся ўсім тым, што датычыла паводзін інтэлігенцыі, асабліва мастацкай, навуковай, бо ведаў, што ніхто, як яна, так глыбока не разумеў, так рэзка і прынцыпова, праўда, толькі патаемна, не асуджаў дзяржаўнай нацыянальна-культурнай палітыкі на Беларусі ў 30-я і першыя пасляваенныя гады. Не чакаючы, калі хоць трохі палепшацца справы ў эканоміцы, камуністычная партыя вырашыла даць бой інтэлігенцыі за яе нібыта празмернае імкненне забяспечыць на Беларусі прыярытэтнае становішча нацыянальнай культуры і мове. Бальшавікоў пужала, што пры такіх адносінах да духоўнага жыцця краю ў ім немагчыма будзе захаваць шырокую прастору за рускай культурай, якая ўжо і тады разглядалася ў якасці асяродка культуры зусім рэальнага ў агледнай перспектыве камуністычнага грамадства. На абарону рускай культуры на Беларусі быў кінуты ўвесь ідэалагічны апарат ЦК КП(б)Б, які змог уцягнуць у гэты працэс падначалены яму камсамол, партыйную праслойку інтэлігенцыі. Пытанням культуры на Беларусі прысвячаюцца спецыяльныя пасяджэнні Бюро і пленума ЦК КП(б)Б, і кожны раз на іх больш гаворкі ішло аб умацаванні ў нас пазіцый не беларускай (а іх жа аніяк нельга было назваць трывалымі, надзейнымі), а рускай культуры. Надзвычай культуралагічным у партыі атрымаўся яе XIV пленум, які праходзіў 3—6 чэрвеня 1947 г. Галоўнае яго пытанне — "Аб стане і мерах паляпшэння партыйна-арганізацыйнай і партыйна-палітычнай работы ў органах КП(б) Беларусі".

На гэтым пленуме, спрытна маскіруючыся клопатамі аб стане духоўнага жыцця беларускай нацыі, шмат зрабіў па абгрунтаванні неабходнасці шырокага распаўсюджвання і развіцця на нашай зямлі рускай культуры і мовы галоўны партыйны ідэолаг Беларусі Міхаіл Іаўчук (ураджэнец Кобрыншчыны). Тым, хто сумняваўся ў мэтазгоднасці такой практыкі, ён даводзіў: "Развіццё беларускай нацыянальнай культуры зусім не панясе страты, а наадварот, выйграе ад таго, што інтэлігенцыя Беларусі і працоўныя Беларусі, якія глыбока паважаюць рускую культуру і ўсю агульнасавецкую культуру, будуць вывучаць рускую культуру, рускую літаратуру, чытаць працы на рускай мове і знаёміцца з творамі рускага мастацтва.

Мы залучаем кваліфікаваныя рускія кадры ў галіне навукі, мастацтва і друку для працы ў Беларускай ССР, <u>шырока распаўсюджваем</u> (падкрэслена мною. — **Л. Л.**) рускую навуковую і мастацкую літаратуру, бо такое законнае і справядлівае жаданне (невядома, кім і калі яно вызначана? — **Л. Л.**) беларускага народа, які імкнецца поўнасцю авалодаць усімі дасягненнямі агульнасавецкай культуры". Думаю, кожнаму зразумела, які пасля гэтага вузенькі палігончык заставаўся на нашай зямлі для беларускай навуковай і мастацкай літаратуры, калі партыя збіралася тут шырока распаўсюдзіць (!) такога роду рускія кампаненты. Бедным беларусам ой як нялёгка было развіваць сваю нацыянальную культуру, калі ўжо партыя намерылася дапамагчы яму не проста ў меру рэальнага і неабходнага далучыцца да агульнасавецкай культуры, а ажно "поўнасцю авалодаць усімі" яе дасягненнямі. Не веру, што гэтага дамогся нават сам Міхаіл Іаўчук.

Далей гэты ж прамоўца працягваў актыўна і напорыста схіляць удзельнікаў пленума да падтрымкі яго захадаў па селекцыі на нашай ніве культуры суседняга народа наступнымі словамі: "... дапамога рускага народа ў развіцці беларускай культуры ні ў якім разе не ўяўляе сабой якога-небудзь ушчамлення беларускай нацыянальнай культуры (толькі нацыяналістычна абмежаваныя людзі накшталт Алісіевіча* могуць разглядаць гэтую дапамогу рускага народа, як русіфікатарства), а праводзіцца выключна ў мэтах найхутчэйшай... падрыхтоўкі беларускіх нацыянальных кадраў ва ўсіх галінах дзяржаўнага і культурнага жыцця, у мэтах усямернага развіцця беларускай нацыянальнай культуры. Да таго ж распаўсюджванне рускай культуры ў нашай рэспубліцы вынікае з карэннага і глыбокага імкнення інтэлігенцыі Беларусі і шырокіх пластоў працоўных мас авалодаць перадавымі дасягненнямі рускай культуры. У гэтым няма аніякага парушэння супроць развіцця беларускай нацыянальнай культуры і аніякага яе ўшчамлення". Для надання яшчэ большай перакананасці сваім словам М. Іаўчук не зусім удала спаслаўся на прыклад Янкі Купалы і Якуба Коласа, бо іх гуманістычныя адносіны, сувязі з рускай культурай, у адрозненне ад таго, што прапаноўвала партыя, і сапраўды не вялі да дэфармацыі беларускай нацыянальнай культуры, а, наадварот, садзейнічалі яе развіццю. Прычым гэтыя выдатныя сыны беларускага народа, і зноў-такі ў адрозненне ад партыйнай установкі, гэтак моцна не прывязвалі беларускую культуру толькі да адной рускай, а імкнуліся да шырокага ўзаемаабмену духоўнымі набыткамі і з іншымі славянскімі народамі.

Не будучы цвёрда ўпэўненым, што інтэлігенцыя цалкам падтрымае лінію партыі ў даным пытанні, М. Іаўчук палічыў неабходным сказаць і пра магчымыя ў сувязі з гэтым вынікі і санкцыі: "Мы аддаем сабе справаздачу аб тым, што развіццё беларускай савецкай культуры ў цеснай і арганічнай сувязі з рускай культурай будзе і ў далейшым сустракаць злоснае супраціўленне стоеных ворагаў беларускага народа — беларуска-фашысцкіх нацыяналістаў, якія служылі раней немцам, а зараз перайшлі на службу да новага гаспадара — да англійскіх і амерыканскіх імперыялістаў". З гэтых пагрозлівых слоў кожны змог зрабіць такую выснову: калі ў сувязях беларускай культуры і рускай буду адстойваць інтарэсы першай, каб не даць ёй растварыцца ў больш магутнай рускай, абавязкова залічаць у разрад людзей блізкіх да тых, што згадваюцца ў вышэйпрыведзенай цытаце М. Іаўчука.

Быць празмерна асцярожным, абачлівым у абароне інтарэсаў беларускай нацыянальнай культуры абавязвалі і наступныя пагрозлівя словы М. Іаўчука: "Мы павінны быць пільнымі да ўсялякага роду выступленняў паўнацыяналістычных элементаў накшталт Алісіевіча, якія, хаваючыся лжывым флагам "абароны беларускай мовы і культуры", спрабуюць супрацьдзейнічаць распаўсюджанню рускай мовы і культуры ў БССР, супрацьпаставіць беларускую культуру рускай культуры, па сутнасці выконваючы рэакцыйную ролю, бо імкнуцца цягнуць нашу рэспубліку назад, перашкаджаюць беларускім нацыянальным кадрам авалодаць высокімі дасягненнямі рускай і ўсёй агульнасавецкай культурай, адасабляюць беларускую культуру ад усёй агульнасавецкай культуры і тым самым прыніжаюць беларускую нацыянальную культуру. Алісіевіч і падобныя яму людзі выкарыстоўваюць у сваіх антыпартыйных мэтах розныя недахопы ў нашай практыцы культурнага будаўніцтва, у прыватнасці той факт, што частка нашых партыйных і савецкіх работнікаў і выкладчыкаў навучальных устаноў рэдка выступаюць на беларускай мове. Паўнацыяналістычныя элементы накшталт Алісіевіча спрабуюць пасварыць Камуністычную партыю бальшавікоў Беларусі і беларускую інтэлігенцыю. Але з гэтага нічога не выйдзе, бо няма большага і надзейнага абаронца інтарэсаў беларускай нацыянальнай культуры і беларускай мовы, чым Усесаюзная Камуністычная партыя бальшавікоў і таварыш Сталін". Каб ніхто не сумняваўся ў прагрэсіўнасці лініі бальшавікоў Беларусі ў галіне нацыянальнай палітыкі, М. Іаўчук так запэўніваў прысутных у зале пасяджэння пленума: "Уся дзейнасць Камуністычнай партыі (бальшавікоў) Беларусі заключаецца менавіта ў тым, каб усяляк развіваць, падтрымліваць і ўмацоўваць беларускую савецкую культуру, рабіць яе набыткам усяго нашага народа". У гэтых словах праўда была толькі ў тым, што партыя падтрымлівала ход аднаўлення матэрыяльнай базы культуры і мела ў гэтым таксама дапамогу ад Масквы. Але ж матэрыяльная дапамога ад апошняй магла і разбураць нацыянальныя асновы беларускай культуры, што вынікае, да прыкладу, з прыведзеных ў прамове М. Іаўчука звестках аб штогадовым атрыманні ад Саюзнага ўрада больш за 6 млн. экземпляраў літаратуры, зразумела, на рускай мове, з якіх 2/3 агульнай колькасці накіроўваліся на вёску, г. зн. туды, дзе яшчэ беларуская мова мела трывалыя пазіцыі.

Зробленага ў 40-я гады гістарычнага экскурсу, думаю, дастаткова, каб бачыць, як сама Кампартыя Беларусі мэтанакіравана расчышчала, пашырала на нашай зямлі палігон функцыянавання рускай культуры і мовы, зусім не задумваючыся над тым, як у такіх варунках будуць сябе тут адчуваць беларуская культура і мова. Партыя ці не разумела, ці не хацела разумець — у абодвух выпадках гэта не здымае з яе адказнасці, — што на адной і той жа прасторы, тым больш, калі яна адносіцца да пэўнага нацыянальна-дзяржаўнага ўтварэння (саюзнай рэспублікі) нельга ў адначассе займацца селекцыяй дзвюх культур, бо ў канчатковым выніку адна з іх засімілюе другую. На дзяржаўным узроўні заўсёды трэба ствараць прыярытэты, развіваць пераважна толькі родную культуру карэннай нацыі данай краіны, а ўсім астатнім культурам адводзіць такое месца, якое іх прыродныя носьбіты займаюць у яе жыцці. У Францыі, да прыкладу, ні тады, ні цяпер не было і няма нямецкай, у Германіі — французскай культуры, хаця носьбіты кожнай з названых культур пражываюць не тэрыторыі гэтых дзяржаў. У нас жа Камуністычная партыя высунула зусім нерэальную задачу: развіваць паралельна дзве культуры — рускую (стаўлю на першае месца з-за большай увагі да яе з боку партыі і ўрада) і беларускую. Што з гэтага апошняя не зможа атрымаць аніякай выгады, многія зразумелі вельмі даўно, але з-за страху трапіць у разрад нацыяналістаў ці ў горшым выпадку быць знятым з працы альбо панесці судовае пакаранне маўчалі. І паколькі ні партыя, ні дзяржава ў гэтых неспрыяльных для духоўнага жыцця краю варунках не збіраліся рабіць якіх-небудзь канкрэтных захадаў па выпраўленні становішча, з беларускай культурай непазбежна адбылося тое, што і павінна было адбыцца: яна аказалася з моцна дэфармаванымі нацыянальнымі асновамі і, натуральна, шмат страціла пасля гэтага з сваёй прывабнасці, а таму пазбавілася многіх сваіх носьбітаў, якія цяпер сталі куды лепш пачуваць сябе ў такой ролі ў дачыненні да рускай культуры на Беларусі. На сёння ўжо не адно пасляваеннае пакаленне беларусаў больш інтэгравана ў рускую, чым у сваю нацыянальную культуру. А калі б хтосьці і пажадаў жыць пераважна яе здабыткамі, дык гэта аказалася б зусім нерэальным, бо дзяржава, грамадства не ў стане былі забяспечыць яму такой магчымасці, узяўшы цвёрды курс на празмернае расшырэнне ў нас сеткі рускамоўных устаноў культуры, навукі і асветы без усялякага ўліку нацыянальнага інтарэсу краю. Каб сфера культуры запрацавала на беларускі інтарэс, трэба было стварыць ёй адпаведнае навуковае забеспячэнне. Менавіта толькі вучоныя, дзякуючы сваім глыбокім ведам аб ролі нацыянальнага фактару ў культуры, могуць давесці яго значэнне да ведама ўсіх тых, хто заняты творчай дзейнасцю ў данай галіне ці кіруе ёю. Так традыцыйна складвалася, што навуковае забеспячэнне культуры Беларусі ажыццяўлялі зусім не прадстаўнікі яе карэннага насельніцтва. У канцы 50-х гадоў, напрыклад, сярод вучоных устаноў Управы па справах мастацтваў пры Савеце Міністраў БССР на беларусаў даводзілася толькі 18% іх агульнай колькасці. Пры такой неспрыяльнай этнічнай структуры навуковай інтэлігенцыі данай катэгорыі зусім мала верагодным з'яўлялася, што нам удасца на належным узроўні распрацаваць шляхі ўмацавання нацыянальных асноў беларускай культуры. Хутчэй, наадварот, яны глабальна ігнараваліся, таму ў ёй ужо і ў той перыяд гэтак моцна запанаваў інтэрнацыяналізм у сваёй самай уродлівай форме.

Прыняўшы такі інтэрнацыяналізм за норму, стала зусім неабавязковым забяспечваць культурнае развіццё пераважна сіламі ўласнай нацыянальнай мастацкай інтэлігенцыі. Калі ў духоўнай творчасці не на першым месцы стаіць нацыянальнае, сюды можна шырока прыцягваць і людзей любой этнічнай прыналежнасці. Тут галоўнае, каб у чалавека былі толькі адпаведныя мастацкія здольнасці. Каго і адкуль толькі не брала Беларусь да сябе з дзеячаў культуры?! І калі хтосьці з запрошаных хоць на паўтона мог вышэй узяць за беларуса пры выкананні опернай арыі, апошняму ўжо не знаходзілася месца на размешчаным на яго роднай зямлі тэатры. Па розных прычынах беларусы давалі фору многім запрошаным здымацца ў кіно, выступаць на сцэне тэатра музычнай камедыі, у вакальна-інструментальных ансамблях, балеце і г. д. У самым што ні ёсць адмысловым пласце нацыянальнага жыцця кожнага цывілізаванага народа — прафесійнай культуры — у нас на Беларусі ў колькасным плане, на вядучых месцах апынуліся асобы не з карэннага насельніцтва, якія не маглі ўвасабляць і не ўвасаблялі каларыт, змест яго культуры. Пераважная большасць гэтых асоб была ўзгадавана ў рускай культурна-моўнай стыхіі, аб распаўсюджванні, умацаванні пазіцый якой яны добра паклапаціліся — і не марна! — тут, на беларускай зямлі. З запрошаных з іншых рэспублік асоб працаваць у беларускай культуры толькі адзінкі сталі яе носьбітамі. Многія ж з іх да канца свайго творчага жыцця так і засталіся проста выканаўцамі — хтосьці і досыць таленавітым — у беларускай культуры, і адначасова ганарыліся, што яны ў сем'ях, зносінах з блізкімі застаюцца адданымі духоўным каштоўнасцям свайго народа, практычна ніколі не ўжывалі па-за службовай дзейнасцю беларускай мовы. Спаўна выкарыстоўваючы самыя слабыя бакі менталітэту беларускай нацыі, такія асобы даволі хутка дамагаліся заняцца высокіх службовых пасад у розных сферах культуры, што дазваляла ім зусім не ў тым напрамку ўплываць на стан яе нацыянальнага патэнцыялу, прычым не ў малых маштабах.

*(Працяг будзе)*

**Загадваў кафедрай у Гомельскім педагагічным інстытуце і актыўна выступаў за арганізацыю навучальна-выхаваўчага працэсу на беларускай мове.*

Анкета "ЛіМа"

***Працягваем друкаваць матэрыялы "ЛіМаўскай" анкеты.***
***Рэдакцыя прасіла адказаць на наступныя пытанні:***
***1. Што такое "паэзія чыстае красы" ў кантэксце сучаснай беларускай літаратуры — васілёк, які прыўкрашае ніву, званіца, якая ўзвышаецца над мітуснёй быцця, ці нешта іншае?***
***2. Ці варта сёння творцу думаць пра сваю папулярнасць, і як у цяперашніх варунках дамагчыся папулярнасці беларускамоўнага твора?***
***3. Што такое змена пісьменніцкіх пакаленняў? У вас ёсць папярэднікі і наступнікі ў літаратуры?***

# ВЕРШ МІКОЛЫ МЯТЛІЦКАГА...

**вынесены на вокладку чацвёртага нумара часопіса "Пралеска": "Маем пустэльную зону — Чорную памяць бяды. Меншае ў небе азону, Большае ў свеце жуды". Тут жа словы: "Чарнобыль: 10 гадоў немачы". Самай страшнай у гісторыі чалавецтва катастрофе прысвечаны і асобныя матэрыялы. Сярод іх — ліст галоўнага рэдактара "Пралескі" А. Сачанкі "Раскіданае гняздо", вытрымкі са зборніка лепшых сачыненняў школьнікаў "След чорнага ветру". В. Шырко ("Сэнс дзейнасці — дабрачыннасць") гутарыць са старшынёй фонду "Мы — дзецям" У. Грыдзюшкам.**

**Шырока адзначана 85-годдзе В. Віткі. На развароце змешчана добра вядомая ўжо не аднаму пакаленню маленькіх яго казка "Вавёрчына гора", слова пра юбіляра "Рысы дарагіх аблічча" прамаўляе А. Сачанка, а поруч — асобныя раздзелы з кнігі В. Віткі "Азбука душы".**

**На працягу пяці гадоў "Пралеска" рэгулярна друкавала пад рубрыкай "Азбука і лічылка" матэрыялы З. Кустовай, дзякуючы чаму былі змешчаны варыянты заняткаў на кожную літару беларускага алфавіта. І вось заключная публікацыя. А напрыканцы яе песня "Лічыльніца" (музыка У. Казбанава, словы У. Паўлава).**

**"Новая праграма выхавання і навучання дзяцей вачыма маці" — падзагаловак артыкула пісьменніцы Г. Багданавай "Генетычны код "Кропелькі".**

**Вінцук Каваленка расказвае пра выдатнага казачніка — "Гэты дзіўны летуценнік Гофман". Л. Клышка ("У сталіцы быў кірмаш") знаёміць з работай міжнароднага кніжнага кірмашу.**

# ДУМАЮ І АДЧУВАЮ ТАК

1. Трохі здзівілі мяне пытанні вашай анкеты. Чаму? Выходзіць, у наш трывожны час, калі на планеце кожную хвіліну гінуць юнакі, жанчыны, старыя і дзеці, растуць горы галавешак і друзу на месцы гарадоў і сёл, калі страляюць і страляюць лепшых людзей нанятыя кілеры, пры дзікай нестабільнасці ладу і жыцця, калі наша Краіна існуе ў напружанай невядомасці, а аддзел крытыкі хвалюе кардынальнае пытанне: "што такое "паэзія чыстай красы", васілёк ці званіца?"

Няўжо невядома, што недзе васілёк заліла гарачая кроў і горкія слёзы? А такі васілёк, які з яраслаўскай далечы ўгледзеў геніяльны Максім, больш ніхто і не ўбачыў. Колькі сказана трыма словамі апошняга радка. Забыўшыся, рука тчэ не квяцісты персідскі дыван па заказе, а "цвяток радзімы васілька". А колькі сказана!? Удумайся, тым і жыві, п а т р ы ё т! Сей дабро і дабрату, любоў і радасць.

А васількі, што "прыкрашаюць ніву", мільгалі ў соцень паэтаў, даўно завялі, як і вядомыя Апухцінскія, што **"сбирали** для Оли". А ў пік сацыялістычнага росквіту і **тыя** верхаводы ўсё звальвалі на прыдуманых ворагаў — кулакоў, падкулачнікаў, нядоімшчыкаў, нехацімцаў. Нарэшце ворагам абвясцілі "сорняк" васілёк. Выполвалі ў полі і ў паэзіі. У 1929 годзе зборнік вершаў Дарожнага і Плаўніка "Васільковы россып" быў выпаланы, як самае небяспечнае пустазелле.

А званіца? Апошнім часам развялося больш у вершах і ў прозе, чым у хрысціянскіх храмах. Званіцы сталі папулярным атрыбутам самага рознага ўжытку ўчарашніх ды і сённяшніх атэістаў, яны шчыруюць у розных таварыствах і фондах з імёнамі кананізаваных святых розных узроўняў і канфесій. І самі каля іх няблага сябе адчуваюць. Мне здаецца (дай жа, Божа, памыліцца), што з пачатку так званай дэмакратызацыі некаторыя іерархіі пачалі выконваць абавязкі ідэалагічных аддзелаў. Аглухлі званіцы, бо тыя срэбразвонныя вестуны даўно скінуты і перапла́ўлены ў больш грозную прадукцыю. Ці не званы і васількі "прыхарошваюць" наватарскую "заумь" некаторых маладых талентаў, накшталт "твора", які не так даўно ўпрыгожыў цэлую часопісную старонку:

**Аса шукае**
**нешта**
**салодкае ў маіх штанах.**

і знамянальная дата нараджэння "твора" — 31.08.95. Іслач. Каб так напісаць, трэба было ехаць у Дом творчасці! Ці не гэта "паэзія чыстае красы"? Няхай мне даруюць маладыя таленты, што не разумею іх высокіх дум і пачуццяў. Хоць памятаю футурыстаў, імажыністаў, акмеістаў, "ничевоков", сацрэалізм. Чаго толькі не было, а засталася класіка.

Захварэўшы з маленства, як воспаю, невылечнай літаратурай, кіруюся запаветам архангельскага акадэміка Міхайлы Ламаносава з яго "Риторики": "Паэт — гэта натхнёны прарок, настаўнік народа, голас народнага сумлення, выказнік самасвядомасці нацыі". Не кожнаму гэта дадзена, але кожны павінен імкнуцца, адчуваць абавязак.

Сёння паэзія і ўся літаратура павінны быць барометрам, кардыёграфам часу, звонам, што перад небяспекай становіцца набатам. Узораў даволі ў кожным мастацтве, а яно — слуга і павадыр народа.

2. Вядомасць і папулярнасць заваёўваюць толькі творы. А таму, хто больш за ўсё дбае пра сваю папулярнасць, лепш заняцца рэкламаю. Цяпер гэта модна і даходна. Былі ў нас "стараце́лі" званняў, ордэнаў, пасадаў. Выбівалі і хутка знікалі, як бурбалкі пасля дажджу.

А як дамагчыся папулярнасці беларускамоўнага твора, трэба павучыцца ў Васіля Уладзіміравіча Быкава, а ў высокіх інстанцый спытаць, чаму і дзеля чаго беларуская мова

# ГУСОЎСКІ ... ЛЯ ДОМА ЛІТАРАТАРА



**Ва ўтульным дворыку пісьменніцкага дома паўстаў... помнік. Помнік самому Міколу Гусоўскаму — выдатнаму беларускаму паэту-лаціністу.**

**Здавалася б, двор нават і Дома літаратара не надта прыдатнае месца для ўвекавечвання памяці слаўнага сына Бацькаўшчыны. Пагаджаецца з падобным меркаваннем і старшыня мінскага асветніцкага клуба "Спадчына" А. Белы, які, як аказалася, да з'яўлення помніка менавіта ў гэтым месцы мае самае непасрэднае дачыненне. Даведаўся ён, што дыпломная работа колішняга выпускніка Беларускага тэатральна-мастацкага інстытута скульптара Уладзіміра Панцялеева (а ёй і быў акурат помнік М. Гусоўскаму) аказалася, мякка кажучы, не запатрабаванай. Дзякуючы намаганням А. Белага, адшуканы твор быў давелзены да ладу — у Калодзішчах помнік адлілі з медзі. Але — дзе яго паставіць? Вось і ўзнікла ў А. Белага думка размясціць яго ў двары Дома літаратара. Балазе, кіраўніцтва Саюза беларускіх пісьменнікаў да падобнай прапановы аднеслася з разуменнем.**

**Зразумела, гэта часовае прыстанішча помніка, які, думаецца, з цягам часу упрыгожыць нашу сталіцу. А пакуль А. Белы вядзе перамовы з галоўным архітэктурным упраўленнем Мінска, дзе думаюць аб стварэнні свайго роду пантэона выдатных дзеячаў нацыянальнай культуры і дзе знойдзецца месца і помніку М. Гусоўскаму...**

**Н. К.**

# НА ПЕРАПРАВЕ ЦІ ЎЖО НА ДРУГІМ БЕРАЗЕ?

1. Пытанне пра "паэзію чыстай красы" ёсць пытаннем XIX стагоддзя (у нас яно актуалізавалася на пачатку XX стагоддзя). Праўда, з прычыны таго, што сацрэалізм надоўга зацугліў мастацтва сацыяльнай заангажаванасцю, "чыстая краса" раз-пораз брала на сябе ролю калі не апазіцыянера, то легальнага апанента афіцыйна канстытуяванага мастацтва, і тым самым працягнула сваё існаванне ў якасці праблемы да гэтай пары.

Але насамрэч сёння "чыстая краса" ўжо не ёсць праблемай. Сёння няма праблемы "паэзіі чыстай красы", а ёсць праблема паэзіі ўвогуле.

На цяперашні дзень разважаць пра апазіцыю "паэзія чыстай красы — сацыяльная паэзія" (хоць гэтая апазіцыя і не пазначаная ў анкеце, аднак унікнуць яе немагчыма, бо інакш пытанне губляе сваю праблематычнасць і адпаведна ўсялякае значэнне) мае сэнс хіба адно дзеля таго, каб вызначыць яе месца ў каталозе літаратурнага архіва.

Недарэчнасць падзелу мастацтва на "чыстае" і "нячыстае" ў постмадэрновым дыскурсе настолькі відавочная, што ідэя "мастацтва дзеля мастацтва" тут можа быць аб'яўлена толькі як чарговая містыфікацыя ці правакацыя. Калі б у якога "слупа" літаратурнага руху Бум-Бам-Літ запытацца пра нешта падобнае, ён, напэўна, толькі сцепануў бы плячыма, як гэта звычайна робіць той, каго пытаюцца аб нечым, што яго зусім абыходзіць.

Але і для тых, хто здуменнем і пісьмом яшчэ таясаміцца ў эстэтычнай прасторы запозненага рэалізму ці прыпозненага мадэрнізму, апазіцыя "прыгажосць — сацыяльнасць" таксама цалкам страціла сваё значэнне, бо ў які бок не быў бы скіраваны вектар творчых інтэнцыяў беларускіх літаратараў, яны ўсе апынаюцца ў адной той самай пустцы, дзе нікога, акрамя іх саміх, няма. Няма — якой бы актуальнай праблематыкай не забяспечвалі свае творы "сацыялісты-этыкі" і як бы не абстрагаваліся ад рэальнасці "ідэалісты-эстэтыкі".

Уласна, апазіцыя "прыгажосць — сацыяльнасць" і ўзнікла толькі таму, што грамадства ўвесь час спрабавала ўзваліць на паэзію (і паспяхова ўзвальвала) розныя сацыяльныя функцыі. (Зрэшты, зусім не выключана, што паэзія паўстала з сацыяльных запатрабаванняў; а "прафесійная" — дык напэўна: вербальны жэст да боства, ваярскі гімн, ухвала валадара і да т. п.)

Аднак з цягам часу, для рэалізацыі сацыяльных функцый, якія выконвала паэзія, вынайшліся больш эфектыўныя сродкі, з чаго паэзія перастала быць запатрабаванай грамадствам і засталася сам-насам.

Калі ў XIX стагоддзі (пачатку XX) апалагеты мастацтва дзеля мастацтва казалі, што сацыяльнасць прафануе паэзію (так яно і было на самой справе, бо праз "сацыялагізацыю" паэзія набывала прафанныя якасці і з гэтай сваёй прафаннасці магла "з усім народам гутарку весці"), то сучасная "чыстая" паэзія ўжо, наадварот, ратуецца сацыяльнасцю, падладжваецца пад сацыяльнасць, як цень падладжваецца пад рэальны аб'ект, каб хоць штосьці азначаць і тым самым хоць нешта значыць... Адным словам, калі раней паэтычнае начынне выкарыстоўвалася грамадскасцю (прынамсі, дэмакратычнай) дзеля выяўлення сацыяльных праблем, то сёння, наадварот, паэзія выкарыстоўвае сацыяльнасць, — у якасці метапаэтычнага тропа (да прыкладу, рамантыка пластыкавых бомбаў і ваярскага змагання ў Славаміра Адамовіча; гэта значыць, не вершы паслугуюцца "змаганню", а "змаганне" — ці яго паэтыка, — вершам).

Мне здаецца, пераважная большасць беларускіх паэтаў усё яшчэ не зразумела, што адбылося і па старой завядзёнцы непасрэдна грувасціць у сваіх "паэтызмах" сацыяльную праблематыку, такім чынам спадзеючыся завабіць да сябе сацыяльна заклапочаных грамадзян. Дарэмна — вершам газету ці тэлевізію не заслоніш. Сацыяльна заангажаваная паэзія ўжо, здаецца, не мае шанцаў прарваць аблогу літарацкага асяродка і выйсці да "ўласна" чытача. Як ні дзіўна, сёння трохі болей гэтых шанцаў якраз у "паэзіі чыстай красы". Таму прыклад — Леанід Дранько-Майсюк. Магчыма, я залішне катэгарычны, але, як мне ўяўляецца, цяпер ён адзін з нямногіх, хто прарваў вось гэтую аблогу літарацкага асяродка (філалагічна падрыхтаванага чытача) і займеў хоць колькі чытача (чытачак) сярод паспалітага людства. Эстэтычна вытанчаныя вершы Леаніда Дранько-Майсюка чытаюць нармальныя беларускія дзяўчаты ды цёткі, у якіх сацыяльнасць яшчэ дарэшты не запрудзіла прагу хараства; і гэтыя нармальныя беларускія дзяўчаты ды цёткі не чытаюць і ніколі ўжо не будуць чытаць сацыяльныя вершы, дзе паэты рыфмуюць іх гаротную долю з гаротным лёсам беларускага народа.

2. У нашай сітуацыі, дзе "піша" літаратуру, пэўна, болей людства, чым яе чытае (бо далёка не кожны, хто піша — чытае другіх, а "непішучых" чытачоў, лічы, няма) — амаль усе літаратары адзін другому вядомыя. Хтосьці трохі менш вядомы, нехта трохі больш. А вось папулярных няма — і быць не можа. Этымалогія слова "папулярнасць" досыць празрыстая і таму няма патрэбы звяртацца за тлумачэннем да адпаведных слоўнікаў... Натуральна, пры вялікім жаданні не забараняецца сказаць пра паэта (празаіка), прозвішча якога памятае 200-300 чалавек, што ён папулярны. Але навошта псаваць слова?

Папулярным можна будзе назваць толькі таго паэта (празаіка), як выдрукуе уласным коштам кніжку і прадасць яе з ладным для сябе барышом. А пакуль, здаецца, нават самыя вядомыя хоць пра які барыш не могуць і марыць.

3. Пакаленне, безумоўна, досыць выразная фігура на сацыяльным тле часу. Але істотныя змены ў літаратуры не залежаць ад змены пакаленняў. Каб патлумачыць сваю думку, я мушу звярнуцца да спадчыны Ралана Барта, якая яшчэ толькі пачынае засвойвацца беларускім літаратуразнаўствам.

Р. Барт, не без уплыву лінгвістычных канцэптаў Ф. Боэнса, у свой час выснаваў ідэю, сутнасць якой, калі казаць спрошчана, у тым, што сацыякультурныя практыкі замацоўваюцца ў розных моўных фармацыях, якія ён пазначыў тэрмінам "пісьмо". Згодна Р. Барту, "пісьмо" — гэта абнаяўленая ў мове ідэлагічная сістэма, якую культура змяшчае паміж чалавекам і рэчаіснасцю, — з чаго вынікае, што мова прымушае думаць чалавека ў пэўных катэгорыях, заўважаць і ацэньваць адно тыя аспекты рэальнасці, якія гэтая ідэалагічная сістэма лічыць вартымі ўвагі. Адсюль атрымліваецца, што не пісьменнік (чалавек увогуле) карыстаецца мовай, а мова "карыстаецца" пісьменнікам; што незалежнасць пісьменніка, яго свабода ў скіраванасці на тыя ці іншыя ідэалагічныя, сацыяльныя, этычныя і эстэтычныя каштоўнасці — ёсць ілюзія. І хаця сам Р. Барт пазней схіляўся да думкі, што якраз у

апынулася ў замураваным тупіку, даведзена да паўлегальнага існавання, успрымаецца, як мулета ў руках тарэра. Трэба дазнацца, чаму беларускія выдавецтвы сталі безнайдзейнымі банкрутамі. Безганарарныя кніжкі адпужваюць аматараў літаратуры астранамічнымі цэнамі. На іх не збярэ суму зацяты кнігалюб. Логіка простая: не купляюць, значыць, яны непатрэбны, таму няма сэнсу выдаваць і трымаць выдавецтвы. Вось дэтэктывы — гэта "Да!" Гатовыя падручнікі злачынцам розных спецыяльнасцей. А да бессаромнасці аголены і разбэшчаны секс у лакіраваных вокладках — узор бездухоўнасці, падзення элементарнай прыстойнасці і сумлення, рэклама тавару для куплі і продажу. Закрэслена паэзія кахання і любові, павагі да жанчыны, узвышанае даведзена да жывёльнай бессаромнасці. Кнігі і фільмы з бруднае "ямы" разбэшчваюць моладзь і падлеткаў, штурхаюць у вір злачыннасці. Няўжо адказных за маральнае здароўе нацыі не жахае страшэнная крымінальная статыстыка?

Паэзія павінна ўзвышаць прыгажосць, высакародства чалавечых адносін з імем — каханне.

3. У кожнага пакалення ёсць свае вышыні і пуцяводныя зоркі. Не было б Купалы, Коласа, Багдановіча, Гаруна, Бядулі і іх паплечнікаў, наўрад ці з'явілася б шырокая, не заўсёды глыбокая, плынь маладнякоўскай пары. Яна выявіла сапраўдныя таленты свайго пакалення (Чорны, Зарэцкі, Дубоўка, Пушча, Калюга, Хадыка, Мрый ды іншыя), якое павяло за сабою наступнікаў не паўтараць, не пераймаць гатовыя формы, стылі і сутнасць, а па іх зверараць свой узровень, зрок і слых, сумленне і магчымасці таленту. Важна ведаць сваё месца.

А наступнікі будучай нашай літаратуры, **а яна будзе,** выберуць па закліку душы сабе эталоны, да якіх будуць імкнуцца, на якія раўняцца.

Не прэтэндую на ісціну сваіх меркаванняў і назіранняў, але думаю і адчуваю так.

**Сяргей ГРАХОЎСКІ**

пісьменніка (у адрозненне ад звычайнага паспалітага) ёсць магчымасць унікнуць татальнай залежнасці ад таго тыпу пісьма, у якім ён сфармаваўся (якім быў сфармаваны), падмануць пісьмо, схаваўшыся ад яго ўлады ў літаратурнае словатворства, але з гэтым, апошнім я адважуся не пагадзіцца і паспрабую падмацаваць сваю нязгоду выказамі Г. Якабсона і самога Р. Барта. "Граматычныя значэнні кожнай мовы скіроўваюць увагу прамаўляючага калектыву ў пэўны бок і з сутнасці свайго абавязковага прымусовага характару ўплываюць на паэзію, веру і нават на філасофскае мысленне" (Г. Якабсон). "Мова — гэта не рэакцыянер і не прагрэсіст; мова — гэта фашыст, бо сутнасць фашызму не ў тым, каб забараняць, а ў тым, каб панукаць гаварыць нешта" (Р. Барт).

Дык вось, калі пісьменнікі розных пакаленняў быційна адбываюцца ў адным тыпе пісьма, то змена пакаленняў амаль нічога не мяняе ў літаратурнай сітуацыі, прынамсі, сутнасна. Каб увідавочніць сваю думку, спашлюся, да прыкладу, на Янку Брыля і Андрэя Федарэнку (нехта можа ўзяць іншую "пару" ці нават цэлы шэраг аднатыповых персаналіяў). Хаця Янку Брыля і Андрэя Федарэнку рассоўвае ў часе як мінімум яшчэ адна генерацыя і па гадах яны належаць да далёка адлеглых літаратурных перыядаў, але паколькі абодва сфармаваныя адным "вяскова-гуманістычным" (назавём яго так) тыпам пісьма, то паміж іх творчасцю няма прыкметнай розніцы, натуральна, акрамя стылёвай (дарэчы, "пісьмо" і "стыль" у Р. Барта гранічна адрозныя катэгорыі). Разам з тым пагодкі, "выгадаваныя", скажам, адзін "вяскова-гуманістычным" тыпам пісьма, а другі — "урбаністычна-нігілістычным", размежаваныя ў часе і прасторы той самай літаратуры, як розныя галактыкі.

Найбольш складаная для літаратуры (і літаратара) сітуацыя ўзнікае пры эпахальных зменах тыпаў пісьма, калі ўся (і ўсюды) сацыякультурная практыка мяняецца і ў парадыгме і ў канкрэтыцы, і з гэтага прапаноўваецца адпаведны зменам тып пісьма, — а літаратар (і чалавек увогуле) ужо завершана сфармаваны пісьмом папярэдняй эпохі.. Тут і паўстае праблема, як апазнаць мовай, якая абапіраецца на прамінулую рэчаіснасць, — сучасную рэальнасць?.. Здаецца, мы жывём якраз у такую эпоху татальнай перамены ўсяго сацыякультурнага дыскурсу. Цяжка меркаваць, мы яшчэ на пераправе, ці ўжо на другім беразе. Канчаткова пра гэта можна будзе сказаць адно тады, калі новае пісьмо выразна акрэсліцца і сфармуе літаратараў, якія адпаведна распавядуць пра тое, што робіцца ў свеце.

А нам пакуль застаецца глядзець і не бачыць, слухаць і не чуць. Незалежна ад прыналежнасці да таго ці іншага пакалення — і ад змены пакаленняў...

**Валянцін АКУДОВІЧ**

Угодкі

# ВЕДАЎ І РАБІЎ БОЛЬШ, ЧЫМ ІНШЫЯ

Пакаленне Барыса Сачанкі — пакаленне дзяцей вайны. І лепш, чым сам ён сказаў пра сябе, наўрад ці скажаш: "У таго пакалення, да якога належу я, было асаблівае маленства. Досвітак нашай памяці захаваў крывавыя раны пажараў небывалае ў гісторыі чалавецтва вайны, плач мільёнаў абяздоленых людзей, выбухі бомбаў і посвіст куль. Замест радасці піянерскіх лагераў мы пазнавалі пакуты лагераў смерці. Рэальнае жыццё з усімі яго жахамі на доўгі час замяніла нам фантазіі Майна Рыда, Фенімора Купера, Жуля Верна, Стывенсана і ім падобных. Змалку мы змушаны былі думаць не пра тое, як і чым забавіць час, а як ацалець, выжыць. Недасяжным шчасцем уяўляліся кавалак хлеба, конаўка малака ці, скажам, ласка сну ў пасцелі, у хаце. Фашысцкія вылюдкі адбіралі ў нас не толькі бацькоў, матак, але і радзіму, мову. Трагедыя была яшчэ і ў тым, што мы бачылі, адчувалі, ведалі куды больш, чым можна было бачыць, адчуваць, ведаць у нашым узросце. Парог звычайнае школы мы пераступалі, прайшоўшы не адзін клас мудрае школы жыцця".

Асаблівы сэнс сёння, калі ўжо хутка год, як Барыса Іванавіча няма з намі, набываюць вось гэтыя словы: "...мы бачылі, адчувалі, ведалі куды больш..." Праўда, з пэўнай карэкціроўкай — у дачыненні да яго лёсу, яго біяграфіі, яго жыцця. Ён і на самай справе ведаў, бачыў, адчуваў куды больш, чым іншыя. І не толькі з яго пакалення. Не сумняваючыся ў высокай прафесійнасці шмат каго з беларускіх пісьменнікаў, не адмаўляючы іх цудоўнае веданне жыцця, не сумняваючыся ў іх высокай начытанасці, усё ж трэба прызнаць: з сучасных літаратараў рэдка хто мог паспрачацца з ім у эрудзіраванасці. Яшчэ задоўга да таго, як узначаліць калектыў выдавецтва "Беларуская энцыклапедыя" імя Петруся Броўкі, Б.Сачанка праявіў сябе самым што ні ёсць энцыклапедыстам. І гэта, безумоўна, не магло не накласці адбітку і на яго творчасць, якая надзіва шматгранная і жанрава багатая. І што немалаважна, і ён па праву шмат у чым можа лічыцца першапраходцам. На жаль, ці то па звычайным няведанні, а мо яшчэ і па нейкіх іншых прычынах, многія пра гэта забываюць, не хочуць памятаць.

А дастаткова ўважліва пазнаёміцца яшчэ з першымі творамі пісьменніка, каб адчуць, наколькі неабыякавым ён быў да нацыянальнай мінуўшчыны, як настойліва імкнуўся ўважліва асэнсоўваць яе, як апантана хацеў, каб беларусы перасталі заставацца людзьмі без памяці, без ведання ўласных каранёў.

Прыгадайма ў сувязі з гэтым трэцюю кнігу Б.Сачанкі "Зямля маіх продкаў", што выйшла ў 1964 годзе (дзве папярэднія "Дарога ішла праз лес" і "Барвы ранняй восені" пабачылі свет адпаведна ў 1960 і 1962 гадах), перачытаем у ёй аднайменны нарыс і адразу ўпэўнімся, што і Барыс Іванавіч належаў да тых, хто стаяў у нашай літаратуры ля вытокаў гістарычнага жанру.

Калі многія і многія нічога лепшага не маглі прыдумаць, як пісаць творы- аднаднёўкі, у патрэбнасці якіх, магчыма, і самі сумняваліся, але разумелі, што падобным чынам можна звярнуць на сябе ўвагу з боку партыйна-ідэалагічнага кіраўніцтва, а тым самым лягчэй будзе дабіцца пэўных выгад і льгот, ужо тады Б.Сачанка імкнуўся спасцігнуць беларускае Палессе — і Палессе Мележа, і Палессе яго, Б.Сачанкі, у суаднесінах дня сённяшняга і ўчарашняга. А як цяпер, з адлегласці відаць, што Палессе сучаснае выступала толькі як свайго роду "прывязка".

Канечне, не абышлося і без прызнання: "Было і яшчэ адно жаданне, таемнае, вельмі асабістае: мне чамусьці здавалася, што ўсё тое, што я ўбачу, пачую, дапаможа мне глыбей зразумець самога сябе, зразумець тыя змены, што за апошнія гады адбыліся ў жыцці маёй роднай вёскі Вялікі Бор, у жыцці кожнага калгаса, горада, чалавека і ўсёй краіны наогул". Ды, калі перачытваеш нарыс, разумееш — важна не гэтае, галоўнае глыбей і, як гэта бывае неадночы ў па-сапраўднаму высокамастацкім творы, "праяўляецца", быццам на той плёнцы, што яшчэ патрабуе сваёй апрацоўкі, праз шмат часу.

Вось яно, гэтае галоўнае, глыбіннае: "Даўняя гэта мара — паглядзець на ўсё Палессе адразу. І не збоку, а з... Прыпяці..." Таму і накіраваўся тады, на пачатку 60-х гадоў, Б.Сачанка з калегамі-пісьменнікамі на цеплаходзе па той жа Прыпяці, а таксама па іншых рэках, што пралеглі па Палессю — Сожы, Днепры, Піне, Мухаўцу. Але ўсё ж найбольш прыцягнула ўвагу Прыпяць: "Менавіта адсюль, з гэтай ракі, упершыню глядзелі на Палессе тыя, хто пасля назваў яго морам, морам Герадота. Менавіта адсюль, з гэтай ракі, глядзелі на Палессе і мае далёкія продкі, якія ў пошуках шчасця і долі аб'ехалі тысячы вёрст і ўсё ж лепшага, як тут, месца не знайшлі нідзе".



*Барыс Сачанка. 1980 г.*



*Маці Барыса Іванавіча — Вера Міхайлаўна. 1983 г.*

Са старонак нарыса чутно дыханне самой гісторыі. Як цяпер. дык у нечым ужо і вядомай. А тады... "Палессе! Хто толькі не хадзіў па тваіх землях! І татары, і палякі, і шведы, і французы, і немцы..." Для так званага масавага чытача гэта было сапраўднае адкрыццё. Беларусі праз Палессе... Палешукоў праз іх родны край... І адкрыццё цэлага рэгіёна Бацькаўшчыны багатага на культурныя традыцыі. Б.Сачанка не прамінуў сказаць ухвальнае слова і пра многіх знакамітых людзей, чые лёсы ў той ці іншай ступені судакраналіся з Палессем. Ніколькі не чужымі сталі ў творы Купрын, Тургенеў, Блок, а таксама Шпілеўскі, Сержпутоўскі, Сербаў... Не кажучы ўжо пра нашых сучаснікаў Коласа, Мележа, Паустоўскага. Але канстатуючы гэта, ён не забывау: "І ўсё ж напісана пра палешукоў вельмі, вельмі мала — яны заслугоўваюць куды большага. І тыя, што жылі тут да нас, і тыя, хто лёг касцямі, каб абараніць гэты край ад варожай навалы, і тыя, хто жыве і працуе тут сёння і каго, на жаль, мы ведаем яшчэ недаравальна мала".

в Могилеве и в Витебске 1752—1823 гг. в трех частях" і "Дыярыушам" Багуслава Казіміра Маскевіча, якія і пакладзены ў аснову гэтых твораў, што ўзнаўляюць малавядомыя старонкі беларускай даўніны, а калі канкрэтней, даўніны палескай. А што Б.Сачанка прытрымліваўся дакументальнай асновы, сведчыць і падзагаловак "Англіцкай сталі" — "Палеская быль". Гэта, аднак, не значыць, што пісьменнік абмяжоўваў сябе рамкамі дакументальнага жанру. У той жа "Англіцкай сталі", у прыватнасці, вельмі праўдзівым і пераканаўчым атрымаўся літаратурны персанаж палясоўшчык Лявон Капа — як увасабленне беларуса, які, нягледзячы на самыя складаныя абставіны і варункі, застаецца перш-наперш чалавекам. Праўда, куды больш аўтарскай фантазіі ў "Дыярыушу Мацея Белановіча", што відаць ужо і з таго, што аўтар памяняў сапраўдные прозвішча галоўнага героя. Асноўны ж пафас гэтых двух твораў — барацьба беларускага народа за свабоду і незалежнасць. Барацьба з любымі прыгнятальнікамі, адкуль бы яны ні прыходзілі.



*Барыс Сачанка з жонкай Тамарай Андрэеўнай і дочкамі Галінай і Святланай. 1993 г.*

Гэта было ў нейкай меры і "падштурхоўванне" самога сябе. Як бы ўнутраны напамінак: "Пакуль іншыя не ўзяліся, сам бярыся за справу". І ён браўся... Ён спяшаўся сказаць тое, што мог сказаць. І не ў апошнюю чаргу дзякуючы таму, што быў чалавекам надзіва начытаным і эрудзіраваным. Інакш наўрад ці напісаліся б аповесці "Англіцкая сталь" і "Дыярыуш Мацея Белановіча". Бо не на пустым месцы з'явіліся яны... Бо папярэднічала ім дэталёвае знаёмства з літаратурна-гістарычнымі помнікамі — мемуарамі "Истинное повествование или жизнь Г.Добрынина, им самим писанная

Важкі сэнс набываюць словы, прамоўленыя ў "Дыярыушу" тым, хто сам смела і рашуча абараняе Радзіму ад чужынцаў: "Нас поле не насеяна, і ў пакоры ніхто нас не ўтрымае. Мы хочам волі і будзем, будзем яе мець!"

Ніхто да Б.Сачанкі так шмат і гэтак паслядоўна не пісаў пра тое, як лёсаў палешукоў кранулася падзеі Вялікай Айчыннай вайны. Пачынаючы з аднаго са сваіх ранніх апавяданняў "Дарога праз лес", што ўвайшло ў яго першую кнігу, ён грунтоўна найперш разбіраўся

*(Працяг на стар. 14-15)*

***Наш папулярны ансамбль “Верасы” сталеў і набіраўся творчых сіл літаральна на маіх вачах, калі мне давялося ў 70-я гады працаваць дырэктарам Беларускай дзяржаўнай філармоніі. Ля вытокаў стварэння гэтага ансамбля стаялі шырокавядомыя сёння эстрадныя выканаўцы, заслужаныя артысты рэспублікі Ядвіга Паплаўская і Аляксандр Ціхановіч. Цяпер яны ўзначальваюць Беларускі тэатр песні і сваімі канцэртнымі выступленнямі па-ранейшаму радуюць самых розных слухачоў.***

***У мяне было нямала сустрэч з гэтым таленавітым сямейным дуэтам, які заўсёды прываблівае артыстычнай абаяльнасцю, незвычайнай шчырасцю пачуццяў і свежым, нестандартным бачаннем і разуменнем навакольнага свету. Эстрадныя спевакі, выступаючы ў канцэртах, кожны раз ствараюць уражанне нейкай навізны ўспрымання чалавечых узаемаадносін і ўчынкаў, што надае іх праграмам асаблівую выразнасць і непаўторнае хараство.***

***Неўзабаве — юбілей творчай дзейнасці маіх сяброў-музыкантаў. Захацелася зноў сустрэцца з імі, успомніць іх былую канцэртную працу, лепшыя мастацкія здабыткі, пагаварыць пра сённяшнія надзённыя справы ў эстрадным жанры.***



# ШЧАСЛІВЫ ЛЁС ДУЭТА

**Г.З. Я ведаю, Ядзя і Саша, што пачатак вашага творчага шляху неадрыўна звязаны з “Верасамі”, дзе вы набывалі прафесійны вопыт, акцёрскае майстэрства і як вядучыя музыканты ў далейшым значна спрыялі заваёве гэтым ансамблем папулярнасці ў слухачоў. Якія старонкі яго біяграфіі дагэтуль захоўвае памяць, чым асабліва дарагое і блізкае ваша мінулае?**

**Я.П.** Наша штодзённае жыццё, як і ў кожнага мастака, літаратара ці музыканта, складаецца з пастаянных творчых пошукаў і няспыннай карпатлівай працы. А пачыналася яно сапраўды ў “Верасах”, калі мы яшчэ вучыліся ў Беларускай кансерваторыі: я на фартэпіянным факультэце, а Саша — па класе духавых інструментаў. У гэтым ансамблі прайшла наша маладосць, разам з яго музыкантамі-аднадумцамі здолелі дамагчыся значных поспехаў у эстрадным мастацтве. Нарэшце, у гэтым жа калектыве мы з Сашам ажаніліся, знайшлі сваё сямейнае шчасце.

Ніколі не забуду ўдзел “Верасоў” у I Рэспубліканскім і V Усесаюзным конкурсах артыстаў эстрады, якія прынеслі нам, маладым выканаўцам, у 1974 годзе адразу дзве перамогі. Асабліва шмат неспакойных дзён і хваляванняў было звязана з творчым спаборніцтвам, што адбылося ў Маскве. Помню, мы павінны былі паказваць сваю праграму на конкурсным праглядзе следам за чэлябінскім ансамблем “Арыэль”. Яго выступленне вельмі спадабалася публіцы ў маскоўскім Тэатры эстрады, і чэлябінцаў ніяк не хацелі адпускаць са сцэны. А ўяўляеце, як цяжка выступаць пасля выканаўцаў, упадабаных публікай. І ўсё ж беларускі калектыў з гонарам вытрымаў экзамен на творчую сталасць, заваяваўшы на ўсесаюзным конкурсе лаўрэацкае званне.

Потым былі ў нас не менш адказныя выступленні на іншых музычных аглядах-конкурсах і фестывалях, у тым ліку міжнародных, у Фінляндыі, Балгарыі, Германіі; шматлікія гастролі па гарадах былога Савецкага Саюза, незабыўныя канцэрты разам з вядомым амерыканскім акцёрам і спеваком Дзінам Рыдам для будаўнікоў БАМа...

**Г.З. А калі настаў “зорны час” для “Верасоў”, а значыць і для вас асабіста? Бо, наколькі мне вядома, спачатку вы мала чым адрозніваліся ад іншых удзельнікаў ансамбля, таму што песні, у асноўным героіка-патрыятычнага зместу, выконваліся, як правіла, усім змешаным складам. Хіба не так?**

**А.Ц.** Вы маеце рацыю. На першым этапе творчай дзейнасці нас ведалі слухачы толькі чыста візуальна, пакуль у канцы 70-х не з’явіўся ў рэпертуары “Верасоў” шэраг жанравых і лірычных песень Эдуарда Ханка і Васіля Раінчыка, прызначаных для спявання сола ў суправаджэнні ансамбля. Гэта быў іншы паварот у яго выканальніцкім кірунку. Мяне і Ядзю пачалі даволі часта выкарыстоўваць у канцэртах як салістаў, што адразу ўзняло наш творчы прэстыж у вачах публікі. Упершыню праспяваная мною сумесна з ансамблем новая неардынарная па настроі песня Э.Ханка “Малінаўка” ўмомант абляцела ўсю краіну, была запісана на пласцінку, увайшла ў праграму заключнага тэлеканцэрта “Песня-80”. Незвычайны поспех зазналі і дзве наступныя песні таго ж кампазітара — “Я ў бабулі жыву” (на словы І.Шаферана) у сольнай інтэрпрэтацыі Ядзі Паплаўскай і “Завіруха” (на словы Г.Бураўкіна), якую выконваў увесь склад артыстаў. Мне давялося саліраваць у песнях В.Раінчыка на словы У.Някляева (“Любві развітальны баль”, “Музыка для ўсіх”, “А жыццё ідзе” і іншыя).

**Я.П.** Многія з гэтых песенных твораў, вельмі прыгожыя і цікавыя па мелодыцы, рытмічнай структуры, дзякуючы ўдумліваму і шчыраму выкананню, зрабілі імідж “Верасам”, які па сутнасці адкрыў ім “зялёную вуліцу” на любую канцэртную пляцоўку, а галоўнае — на ўсесаюзны тэлеэкран.

**Г.З. А чым быў выкліканы ваш разрыў з ансамблем? Ці не сталася прычынай жаданне стварыць сваю інструментальную групу і працаваць самастойна на эстрадзе?**

**Я.П.** З цягам часу ў мяне і Сашы ўзніклі ўласныя спробы ў песенным жанры, а рэалізаваць іх у “Верасах”, на жаль, не было магчымасці. Калі не здраджвае мне памяць, адна з першых Сашавых песень “Неферціці” на словы М. Траццякова, прысвечаная мінскай гандбольнай камандзе, упершыню прагучала ў выкананні аўтара музыкі і эстраднай групы “Вітамін” падчас правядзення ў Таліне “Гульняў добрай волі” ў 1985 годзе. І, дарэчы, гэтая песня атрымала тады ўхвальныя водгукі. На аснове яе мелодыі, але ўжо з тэкстам А.Жукава, пазней узнікла наша “Сінявокая скрыпачка”, якую і сёння можна нярэдка пачуць па рэспубліканскім радыё. Творчыя і агульначалавечыя канфлікты, якія неўзабаве ўзгарэліся ў “Верасах”, прымусілі нас пакінуць ансамбль, каб распачаць самастойнае жыццё ў мастацтве і здзейсніць на практыцы свае кампазітарскія задумы.

**Г.З. Але ж раптам вы трапілі ў Дзяржаўны канцэртны аркестр Беларусі пад кіраўніцтвам Міхаіла Фінберга. Прычым, не ў інструментальны склад, хаця вы, Ядвіга, цудоўная піяністка, Саша — добры духавік і гітарыст, — а ў групу салістаў-спевакоў, не маючы спецыяльнай вакальнай падрыхтоўкі. Чым можна растлумачыць такі нечаканы крок?**

**Я.П.** У той час мы яшчэ не паспелі стварыць свой музычны калектыў. З дапамогай знаёмых музыкантаў-прафесіяналаў запісвалі на рэспубліканскім радыё асобныя песенныя навінкі беларускіх аўтараў. Так, быў зроблены запіс новай, надзвычай прывабнай і тэмпераментнай песні Эдуарда Ханка на словы Ларысы Рубальскай “Шчаслівае здарэнне”, спецыяльна напісанай для нашага вакальнага дуэта. Адсюль потым пайшла і назва эстраднай групы.

І вось аднойчы нас сустрэў Міхаіл Якаўлевіч Фінберг і прапанаваў увайсці ў склад салістаў толькі што створанага ім аркестра. Мы адразу ж згадзіліся і лічым, што зрабілі правільна. Праца ў такім найвыдатнейшым аркестравым калектыве, які складаецца з цудоўных музыкантаў-віртуозаў, — гэта вялікая выканальніцкая школа для кожнага саліста-вакаліста. Яна дапамагла ў значнай ступені і нам авалодаць майстэрствам сольнага спявання ў суправаджэнні аркестра. І мы дагэтуль з удзячнасцю ўспамінаем той час, калі працавалі пад кіраўніцтвам таленавітага эстраднага дырыжора.

**А.Ц.** На мой погляд, нас хутчэй можна назваць музычнымі артыстамі, а не спевакамі. Мы імкнёмся не толькі пранікліва, з душой праспяваць тую ці іншую песню, але і сыграць яе, стварыць пэўны сцэнічны вобраз. Думаю, менавіта такімі прыкметнымі рысамі акцёрскага спявання вылучаліся Ядзіны песні жартоўнага характару “Ты чаму са мной жаніўся” і “Купэ на дваіх”, а таксама лірычная гарэзлівая песня І.Лучанка “Марскі прыбой” (тэкст М.Траццякова), што ўвайшлі ў першую праграму нашага дуэта, калі ён стаў працаваць разам з групай “Шчаслівае здарэнне” ў складзе Беларускага тэатра песні.

**Г.З. Калі ласка, раскажыце пра ваш тэатр. Для чаго ён створаны і якія асноўныя яго мэты і задачы? Нарэшце, ці ёсць ад яго ўжо творчая аддача? Бо ва ўмовах рынкавых адносін, калі нацыянальная культура сёння знаходзіцца ў цяжкім эканамічным становішчы, здзяйсненне кожнага новага праекта звязана з вялікай рызыкай.**

**Я.П.** Больш як шэсць гадоў таму, калі мы толькі адкрылі пры Беларускім аддзяленні “Союзтеатра” свой Тэатр песні, працаваць было цікава і значна лягчэй. Ён быў задуманы як канцэртнае аб’яднанне або міні-філармонія, куды ўвайшлі некалькі мабільных эстрадных калектываў і асобных выканаўцаў. Перад намі стаяла галоўная задача — дапамагчы творча здольнай моладзі набыць прафесійныя навыкі і знайсці свой шлях на эстраду.

Я цвёрда перакаfrom, што, калі малады выканаўца, маючы нават у наяўнасці свае відэазапісы, аўдыёкасеты, кліпы, даволі рэдка выступае на сцэне, ён не можа лічыць сябе сапраўдным артыстам. Трэба адпрацаваць шмат публічных канцэртаў, набрацца пабольш творчага вопыту, каб навучыцца адчуваць слухацкую аўдыторыю, яе настрой, каб умець наладжваць з ёю цесны кантакт. Вось чаму з першых дзён існавання Тэатра песні мы пачалі пастаянна праводзіць канцэртныя выступленні маладых артыстаў беларускай эстрады на буйных пляцоўках і ў самых прэстыжных залах Масквы, Санкт-Пецярбурга, Кіева, Кішынёва. Гэта з’явілася стымулам для творчага росту ўсіх удзельнікаў нашага калектыву. Адзін з лепшых яго выхаванцаў спявак Аляксандр Саладуха хутка стаў пераможцам на міжнародным фестывалі “Шлягер-90”, і зараз ён як “зорка” эстрады самастойна выступае з канцэртамі.

Праз наш тэатральны калектыў прайшлі таксама здольныя салісты Дзіма Смольскі, Сяргей Брыкса, поп-група “Рэфлекс”, арыгінальныя парадысты і канферансье Уладзімір Радзівілаў, Георгій Волчак.

**Г.З. А як цяпер ідуць справы ў вашым тэатры? Бо пасля развалу СССР гастрольны абмен артыстамі паміж былымі рэспублікамі па сутнасці зведзены да нуля...**

**А.Ц.** У апошнія гады наш калектыў трапіў у складаную сітуацыю. Не маючы фінансавай падтрымкі з боку дзяржавы, Тэатр песні, які працуе на гасразліку і поўнай самаакупнасці, пастаўлены ў вельмі жорсткія ўмовы і зусім нявыгаднае становішча ў параўнанні з іншымі мастацкімі калектывамі рэспублікі. Рынак, як вядома, дыктуе свае законы. Мы вымушаны плаціць вялікія падаткі за офіс, сваю абсталяваную студыю гуказапісу, электраэнергію, хоць тэатр асаблівых даходаў не прыносіць.Адзіная надзея на спонсараў, якія дапамагалі нам раней стаць на ногі і дапамагаюць цяпер у правядзенні асобных гастроляў і ў арганізацыі канцэртных выступленняў на тэлебачанні. Менавіта дзякуючы спонсарскай падтрымцы нашаму Тэатру песні ўдалося ажыццявіць даўно задуманы праект, звязаны з прапагандай творчасці лепшых эстрадных груп і салістаў на тэлеэкране.

**Г.З. Раскажыце пра гэты праект...**

**А.Ц.** Адзін раз у месяц пры маім і Ядзіным удзеле ў ролі вядучых на Беларускім тэлебачанні і ГРТ паказваецца праграма пад назвай “Поп-TV”, якая з аднаго боку прадстаўляе мастацтва лепшых выканаўцаў беларускай эстрады на рынку Расіі і краіны СНД, а з другога — знаёміць з папулярнымі расійскімі артыстамі гледачоў Беларусі. Такім чынам ідзе натуральны працэс узаемаабмену нацыянальнымі набыткамі. Ужо адбылося 12 выпускаў гэтай папулярнай праграмы. Прычым, яна таксама транслюецца па каналах спадарожнікавага тэлебачання, і яе могуць глядзець у 176 краінах свету. Мы вельмі ўдзячныя спонсарам-фірмам “Торвлад”, “Семіраміс”, НПА “Руст”, бабруйскаму АТ “Фандок” за дапамогу ў ажыццяўленні важнай для нас творчай задумы.

**Г.З. Вакальны дуэт Ядвігі Паплаўскай і Аляксандра Ціхановіча — новая з’ява ў беларускім эстрадным мастацтве. Таленавітыя музыканты-спевакі, якія валодаюць своеасаблівай манерай выканання, умеюць яшчэ пісаць для свайго дуэта вельмі шчырыя, меладычныя песні пра каханне і высокія чалавечыя пачуцці. Кампазітарскі дар Я.Паплаўскай асабліва ярка раскрыўся пасля таго, як яна скончыла кансерваторыю яшчэ і па класе кампазіцыі (1988 г.). Многія, напэўна, памятаюць яе лірычныя песні “Звонкія дажджынкі”, “Раман”, “Бо мы кахалі” і інш. Яна таксама цікава робіць аранжыроўкі песенных твораў.**

**Актыўна і даволі плённа працуе ў вакальным жанры А.Ціхановіч. Сярод апошніх яго лірыка-рамантычных песень на вершы Л.Дранько-Майсюка — “Ружа белая”, “Восень у Версалі”, якія ў выкананні дуэта набылі шырокую папулярнасць, часта гучаць у эфіры. А сапраўдны беларускі шлягер “Цыганка” гэтых жа аўтараў пазалетась на тэлефестывалі “Залатая ліра” прызнаны лепшай песняй года...**

**На заканчэнне гутаркі не магу не спытаць, а ці лічаць мае суразмоўцы свой творчы лёс шчаслівым?**

**Я.П.** Не стану крывіць душой, у жыцці бывае ўсялякае. Але на творчы лёс я і Саша не можам скардзіцца. Неяк вядучая ўсесаюзнай тэлеперадачы “У Ксюшы” спытала ў нас: “Як вам удаецца жыць разам, займаючыся ўдваіх адной і той жа справай?” Але ж менавіта мастацтва моцна зблізіла і назаўсёды аб’яднала нас. Калі мы спяваем пра каханне, стараемся быць да канца шчырымі і праўдзівымі ў раскрыцці душэўных пачуццяў. І гледачы гэта добра адчуваюць і разумеюць. А што можа быць даражэй для артыста, чым любоў і павага шырокай публікі? Хочацца пажадаць прыхільнікам нашага дуэта, усім, хто прыходзіць на канцэрты паслухаць новыя песні, вялікага шчасця, дабрыні і аптымізму ў жыцці.

**Георгій ЗАГАРОДНІ**

*Фота С. ЛАБАНДЗІЕЎСКАГА*

ЛіМ
ЧАСАПІС



## МАЙСКІЯ ФАНФАРЫ

**Колькі тыдняў таму "ЛіМ" распавядаў пра падрыхтоўку да фестывалю "Беларускія фанфары-96". І вось акурат сёння ў Баранавічах — урачыстае адкрыццё гэтага прыгожага музычнага свята. Яно прадоўжыцца 19 мая. За тры дні адбудуцца конкурсныя выступленні лепшых аматарскіх духавых калектываў, свае праграмы пакажуць узорныя прафесійныя аркестры — Міністэрства абароны і Міністэрства ўнутраных спраў Беларусі, а таксама госці з Аўстрыі, Расіі, Польшчы... Рыхтуецца маляўнічае свята горада — з карнавалам ды феерверкам, — прымеркаванае да 125-годдзя Баранавічаў.**

**С. Б.**

## "ЗОРНАЯ РОСТАНЬ-96"




**У Віцебску прайшоў фінал конкурсу маладых выканаўцаў "Зорная ростань-96". 22 маладыя прадстаўнікі мінска-віцебскай зоны аспрэчвалі права выступіць на конкурсе маладых выканаўцаў міжнароднага фестывалю "Славянскі кірмаш". У наступны этап саперніцтва выйшлі 8 чалавек. Сярод іх — Алена Сяргеева і Сяргей Крушынскі з Віцебска, Наталля Ігельчык з Мінска.**

*На здымку: фінал конкурсу "Зорная ростань-96"*

*Фота Аляксандра ХІТРОВА, БЕЛТА*

## ВЫРАБЫ КАРЫСТАЮЦЦА ПОПЫТАМ



**Асартымент вырабаў Магілёўскай фабрыкі мастацкіх вырабаў абнаўляецца штомесяц і складае ў сярэднім каля трыццаці назваў з лёну і столькі ж — з саломкі. А купляюць прадукцыю магілёўскіх умельцаў ахвотна і ў дальнім замежжы — у ЗША, Германіі, Францыі.**

*На здымку: мастак-умелец Вольга Сыцікава і мастак па саломцы Наталля Дамінікава за абмеркаваннем новых узораў.*

*Фота Сяргея ХАЛАДЗІЛІНА, БЕЛТА*

## ЯГО ПАМЯЦІ ПРЫСВЕЧАНЫ "АБЕЛІСК"

**20 мая — 60 гадоў з дня нараджэння педагога, літаратуразнаўцы і краязнаўцы Міколы Пашкевіча (памёр 14 сакавіка 1972 года). Ён працаваў настаўнікам, намеснікам дырэктара Сваткаўскай сярэдняй школы Мядзельскага раёна. З вершамі, літаратурна-краязнаўчымі артыкуламі выступаў у "ЛіМе", "Чырвонай змене", "Мінскай праўдзе", часопісе "Беларусь", іншых выданнях. Узначальваў літаратурнае аб'яднанне пры рэдакцыі мядзельскай газеты "Нарачанская зара".**

**Дзякуючы М. Пашкевічу ў Сваткаўскай школе пабывалі многія пісьменнікі, сярод якіх М. Танк, Я. Брыль, В. Быкаў, Н. Гілевіч, Р. Барадулін, Г. Бураўкін, В. Рагойша і іншыя. Пра гэта, дарэчы, М. Пашкевіч расказаў у сваёй кнізе "З вопыту работы літаратурнага гуртка...", што пабачыла свет у 1968 годзе.**

**Памяці настаўніка-адраджэнца В. Быкаў прысвяціў сваю аповесць "Абеліск". Яму ж прысвечаны верш А. Лойкі "Каліны", карціна А. Пупко "Памяць"...**

Віншуем!

# "...ЦІХАЯ ПЕСНЯ ДУБРАЎНАЯ"

## Ніне ТАРАС — 80



Ёсць у Ніны Тарас верш, напісаны яшчэ ў 1966 годзе. Да яго заўсёды хочацца звярнуцца, калі далучаешся да творчасці Ніны Міхайлаўны, задумваешся над яе жыццём, пражытым годна і сумленна, на карысць людзям, на карысць Бацькаўшчыне, на карысць беларускасці. Вось гэты верш — шчыры, прачулы, кранальны:

**Мая ціхая песня дубраўная,**
**Не святочная,**
**Не былінная,**
**З росных травак-былінак сабраная,**
**Медунічная**
**І палынная.**

**Неспакойная песня дарожная,**
**Навальніцам, вятрам сугучная,**
**Непакорная,**
**Пераможная**
**І для славы зусім не зручная.**

**Як валошка ў сінім вяночку,**
**Кропля светлая ў ручаёчку,**
**Ты — праўдзівае**
**І пяшчотнае**
**Слова матчына ў кожным радочку.**

**Не здалася віхурам у полі,**
**Не зайшлася ў бядзе ад жалю,**
**Мая радасць**
**І горкая доля...**
**Як хачу, каб цябе паважалі!..**

Што ні радок — ад душы сказана. Што ні слова, то кранае адкрытасцю і даверам. А за ўсім — жаданне быць такой, якой ты і ёсць. А яшчэ спадзяванне, што тваю "ціхую песню дубраўную, не святочную, не былінную", а "з росных травак-былінак сабраную, медунічную і палынную" — заўважаць. І не толькі заўважаць, а і будуць паважаць.

І заўважаюць, і паважаюць. Тыя, каму па-сапраўднаму дорага матчына слова. І хто паэзію любіць. Ды не розную там "бум-барашную", "тазікавую" ці яшчэ якую-небудзь іншую, на думку саміх стваральнікаў найсучасную, а калі лепей разабрацца, дык звычайнае "стуканне-груканне", а паэзію зямную, якая традыцыйнай завецца і ад самога сэрца льецца і спяваецца. А паважаюць яшчэ і таму, што само жыццё Н.Тарас вымагае акурат падобнага стаўлення, а не іншага. Жыццё актыўнае, а ў маладосці з рэвалюцыйным гартам, з настойлівым шуканнем не толькі сваёй пуцявіны, а і шляхоў-дарог для ўсіх, хто беларусам хацеў пачувацца і зусім няўтульна адчуваў сябе ў былой Заходняй Беларусі.

Родам Н. Тарас з вёскі Заполле, цяпер гэта Навагрудскі раён. З сям'і дружнай, працавітай. У аўтабіяграфіі "Зірнуўшы на пройдзены шлях" яна прызнаецца: "Нас было пяцёра: чатыры сястры і — самы малодшы — брат Віктар. Я ў сям'і была старэйшай. Раслі мы ўсе неяк разам, адно пад адным".

У бацькавай хаце любілі збірацца вяскоўцы. Найчасцей, каб паслухаць гаспадара Міхаіла Адамавіча, а ён "асвоіў прафесію сталяра... усё жыццё хадзіў па людзях у заробкі — будаваў масты, млыны, рамантаваў малатарні, наймаўся на розныя сталярныя работы". А калі шмат чалавек па свеце хадзіў, то пра многае мог і расказаць, даць добрыя парады. Помню, як у нашай хаце чыталі "Маланку", спрачаліся пра тое, як змагацца за родную беларускую школу, а пазней — пра падзел зямлі на хутары".

Бацька стаў для Ніны і першым настаўнікам. Хоць сам скончыў усяго чатыры класы прыхадскай школы, прыбдаў падручнікі і праводзіў з дачкой заняткі. А калі ў вёсцы адчынілася школа, адразу пайшла ў другі клас. Канечне ж, прадметы там выкладаліся па-польску. Па-польску напісала Н. Тарас і свой першы верш. Адбылося гэта яшчэ недзе ў трэцім класе. Магчыма б, і надалей працягвала б творчыя практыкаванні на чужой мове. Ды свет, як кажуць, не без добрых людзей. Прыгадвае: "Праз нейкі час затрымаў мяне беларускі настаўнік Шляхтун і параіў пісаць толькі на роднай мове". А яшчэ настаўнікам для юнай паэтэсы стаў бацька. Узяў неяк дачушку за руку, павёў за вёску, пачаў паказваць да болю знаёмыя краявіды: ...ты думаеш — ёсць дзе прыгажэй? Увесь свет прайдзі, а не знойдзеш такой вёскі, як наша. І такіх рэчкі, і лесу. І такіх узгоркаў зялёных. Яшчэ дзед твой, нябожчык, некалі казаў, што нідзе так, як у нас... Вось пра гэта, дачушка, і пішы".

Бацька вырашыў аддаць дачку ў Навагрудскую беларускую гімназію. У 1930 годзе Н. Тарас і стала вучыцца ў сценах, дзе панаваў дух вальналюбства і беларускасці. Па гэтых прычынах у 1934 годзе ўлады гімназію закрылі. Як цяжка ні даводзілася сям'і, але Міхаіл Адамавіч і тут пайшоў дачцэ насустрач. Н.Тарас перавялася ў Віленскую гімназію, дзе пазнаёмілася з Максімам Танкам, што, безумоўна, не магло не паўплываць на яе творчае жыццё. Менавіта дзякуючы М. Танку ў 1936 годзе ў газеце "Наша воля" быў апублікаваны першы верш Ніны Міхайлаўны "Яшчэ, веру, ты, вёска, устанеш...". Пазней ён друкаваўся пад назвай "Яшчэ, веру..."

**Яшчэ, веру, ты, вёска, устанеш,**
**Яшчэ веру, прачнешся ад сну,**
**І пабачыш сваё ты світанне,**
**І спаткаць яшчэ выйдзеш вясну.**

Радкі гэтыя вельмі ж адпавядалі тагачаснаму настрою і самой аўтаркі і ўсіх, хто вэрыў у лепшую і шчаслівую долю беларускага народа. Сёння мы ведаем, яны шмат у чым памыляліся, ускладаючы свае найлепшыя надзеі і спадзяванні "На Усход". А тады? Тады многія і многі сказанае Н. Тарас успрымалі як свае словы:

**На ўсходзе зазззяе зарніца,**
**Змые бляскам нядолі сляды.**
**Будзем воляю мы ганарыцца,**
**На ўвесь свет гімн сляём малады.**

Да волі было, аднак, далёка, а нядоля напаткоўвала на кожным кроку, пастаянна нагадвала аб сабе. Хацелася Н. Тарас працягваць вучобу ў Віленскім універсітэце (гімназію скончыла ў 1936 годзе), але за што жыць? І дома заставацца не выпадала. Сям'я і так ледзь зводзіла канцы з канцамі. У рэшце рэшт вырашыла шукаць шчасце ў Вільні. Апірышча знайшла ў рэвалюцыйнай барацьбе. А яшчэ па-ранейшаму атрымлівала падтрымку ад М. Танка: "Неўзабаве зноў сустрэўся са мною Максім Танк і параіў друкавацца ў любым легальным выданні, абы толькі наша слова трапляла ў масы, — іншага выхаду не было".

Поруч былі і іншыя добрыя, спагадлівыя людзі: "Асабліва хочацца ўспомніць і старэйшага нашага таварыша Рыгора Раманавіча Шырму, з якім таксама прыходзілася даволі часта сустракацца, чытаць яму свае вершы. Ён умеў знайсці ў патрэбную мінуту цёплае бацькоўскае слова, параіць, падтрымаць". Спрабавала рыхтавацца да паступлення ва універсітэт...

Увесну 1937-га сабралася адвеадзь родных. Цяжка хварэла любая сястра Марыська. Спадзяванняў на лепшае не было. Таму і затрымалася ў бацькоў. А ўвосень сястры не стала (ёй Н. Тарас прысвяціла некалькі вершаў, у асноўным напісаных у сталым узросце, і гэтыя творы вельмі кранальныя, па-мойму, няма ў нашай літаратуры яшчэ такога выпадку, каб гэтак прачула паэтэса пісала пра родную сястру). А тут яшчэ даведалася, што ўлады напалі на след падпольнай групы, у якую яна ўваходзіла... Так і не змагла паехаць у Вільню.

Пасля далучэння Заходняй Беларусі да БССР Н. Тарас працавала ў рэдакцыі лідскай раённай газеты "Уперад", дзе пазнаёмілася з Валянцінам Таўлаем. Дачакалася першай кнігі "На ўсход ідучы...", якая выйшла ў 1940 годзе.

Неўзабаве, як вядома, пачалася вайна. Як яе ні называй — Вялікай Айчыннай ці інакш, а выпрабаванняў хапіла. І, як найчасцей бывае, самымі безабароннымі сталі самыя сумленныя. Ніна Міхайлаўна, застаўшыся ў Лідзе, праз В. Таўлая наладзіла сувязі з партызанамі, з'яўлялася сувязной лідскай спецгрупы партызанскай брыгады імя С. Кірава і партызанскага атрада імя Р. Катоўскага брыгады імя Ф. Дзяржынскага, што дзейнічалі на тэрыторыі тагачаснай Баранавіцкай вобласці. У аўтабіяграфіі чытаем: "У часе вайны згарэў дом, дзе я жыла. Не ўдалося мне перахаваць ні рукапісаў, ні памятных кніг, ні іншых матэрыялаў".

Ці не таму так мала твораў, напісаных у гэты суровыя дні, увайшло ў яе другую, пасляваенную ўжо кнігу "Суніцы" (1946)? Запомнілася ж лепшае, не праходнае. Ды і з захаванага ў рукапісах дайшло, на шчасце, таксама лепшае. Як гэты верш:

**Слоў няма, каб цяпер гаварыць, —**
**Яны анямелі.**
**Слёз няма, каб наўзрыд праліць, —**
**Яны скамянелі.**

З пачатку вайны верш, унізе стаіць: "1942". Але відочна, што лірычная гераіня вяртаецца і на некалькі месяцаў назад: "На руінах стаю адна У суровым маўчанні. А навокал — вайна, вайна, Папялішчы ды камні". А яшчэ адчувальны ў вершы баладны пачатак:

**Я спытала паўшых байцоў:**
**— Што рабіць мне, скажыце, героі?**
**І, здаецца, шапнулі слаўцо:**
**"Да зброі! Да зброі!!**

Пазней жа, калі гэтыя першапачатковыя — такія страшныя і гэткія важныя для творцы ўражанні — неаднойчы пераасэнсуюцца, у Н. Тарас з'явяцца творы, што з поўным на тое правам можна аднесці да лепшых набыткаў беларускай паэзіі пра мінулую вайну. І найперш — балада "Хлопцы-партызаны".

І ўжо куды пазней, у 1970 годзе, напішацца верш "Сувенір": "Прыехаў к нам госць з-за граніцы — Як лунь, пабялелыя скроні". Канечне ж, такому госцю загадзя падрыхтавалі шмат падарункаў. Ды жменька зямлі для старога куды даражэй. Бо гэта родная зямля, бо гэтая зямля беларуская...

У Н. Тарас не так і шмат кніг. Акрамя згаданых, выйшлі "Вершы" (1952), "Кветка шчасця" (1958), "Пад белым явярам" (1966), "У тапаліную замець" (1976), "Прыметэю прыйду пакланіцца" (1981), "Праз вятрызавеі" (1986)... Трэба дадаць сюды яшчэ кніжкі для дзяцей "Казкі пра абавязкі" (1955), "Наш бор" (1968)...

Але калі шукаць словы для душы, для сэрца, дык, вядома ж, дастаткова і некалькі твораў. Каб назаўсёды запомніліся. І пры кожнай чарговай сустрэчы з імі кранялі гэтаксама, як і пры першай. А яны ў Ніны Міхайлаўны ёсць. І ці не самы папулярны — верш, што даўно стаў народнай песняй:

**Сонца за хмаркамі ўранні**
**Скрылася — болей не свеціць.**
**Што ж ты мне сэрца параніў,**
**Мой найдарожшы на свеце?**

Папулярнымі песнямі сталі і іншыя вершы Ніны Міхайлаўны, і вельмі часта тыя, хто любіць іх спяваць за бясёдным ці вясельным сталом, нават не здагадваюцца пра аўтарства.

Што ж, "песня дубраўная" звычайна на апладысменты не разлічана "і для славы зусім не зручная".

Сваё запаветнае жаданне паэтэса выказала ў адным з вершаў:

**Каб толькі недарма пражыць мне век**
**на свеце,**
**Не сорамна было б глядзець**
**у вочы людзям.**

Гэта — не паэтычная дэкларацыя. За гэтымі словамі — само жыццё. Няхай і нялёгкае, няпростае, ды сумленнае, таму і вартае ўвагі. Як і творчасць, народжаная гэтым жыццём і талентам, узгадаваным на яго жыццядайнай глебе.

**Алесь МАРЦІНОВІЧ**

# "НАМ ТРЭБА ВЕЛЬМІ ДОБРА ПІСАЦЬ..."

Гэтымі словамі Максіма Лужаніна пачынае свой ліст настаўнік-ветэран Л. Раманенка ("ЛіМ", 1.03.96). Слушныя парады "старэйшыны беларускіх літаратараў" ён адрасуе сваім завочным апанентам — "аматарам-эксперыментатарам літаратурна-мовазнаўчых новатвораў". Да ліку "аматараў-эксперыментатараў" аўтар ліста адносіць і "нашых айчынных перакладчыкаў", і "маладую пісьменніцу", і "Газэту Свабода".

Л. Раманенка абураецца некаторымі "наватворамі", якія, на яго думку, з'явіліся "на схіле XX стагоддзя". У цэнтры ўвагі — слова *спрэс.* Яно, парадыйна падкрэсленае, выносіцца ў загаловак допісу "Спрэс мудрагелістыя пярліны", каб адразу і адпаведна настроіць чытача. Але гэтае, ды і некаторыя іншыя словы, што так раздражняюць настаўніка-ветэрана Л. Раманенку, у чытача (маю на ўвазе сябе) адмоўных пачуццяў не выклікаюць.

Слова *спрэс* да мяне ўпершыню прыйшло (у роднай гаворцы яго не было) праз знаёмства з багатай і самабытнай мовай Кузьмы Чорнага ў школьныя гады (цяпер я таксама, калі можна гэтак сказаць, настаўнік-ветэран). Пазней часта яго сустракаў у творах іншых майстроў літаратуры, у прыватнасці Р. Сабаленкі, А. Чарнышэвіча, Б. Сачанкі дый Максіма Лужаніна. Такім чынам, слова *спрэс* у маім успрыманні мае нават своеасаблівую мастацка-паэтычную акрасу. Як, дарэчы, і слова *перлы* (ад яго ўтвораны назоўнік *пярліна*), якое з высокім мастацкім густам ужывае, кажучы словамі Л. Раманенкі, "слынны паэт і мой зямляк" Максім Танк.

Зусім натуральна, што палемічна завостраны загаловак "Спрэс мудрагелістыя пярліны" не зрабіў на мяне таго ўздзеяння, на якое разлічваў Л. Раманенка. Скажу нават больш. Гэты сказ (ці словазлучэнне) мне загучаў накшталт засвоенага таксама з дзяцінства "Сквозь волнистые туманы..." Калі не верыце, павымаўляйце ў парах гэтыя радкі, паўслухоўвайцеся, паўзірайцеся... Зрэшты, маё такое ўспрыманне. А яно грунтуецца не толькі на семантыка-гукавых характарыстыках канкрэтных слоў і іх спалучэнняў, але і на мастацка-эстэтычным досведзе, на стаўленні да роднай мовы.

Як адзначалася, слова *спрэс* Л. Раманенка адносіць да "літаратурна-мовазнаўчых наватвораў". Тэрмін гэты вельмі ж "саматворны" і недакладны. Але ён нібы пацвярджае актуальнасць Лужанінавага напаміну, як нам трэба "сачыць за спалучэннямі слоў" — не толькі пісьменнікам, перакладчыкам і журналістам, але і настаўнікам, і чытачам-рэцэнзентам. Папраўдзе ж слова *спрэс* — з жывых народных гаворак, і з'явілася яно не "на схіле XX стагоддзя", а куды раней. Цяпер гэтае слова набыло статус літаратурнага, яго падае акадэмічны Тлумачальны слоўнік беларускай мовы (далей — ТСБМ) без памет "абласное" ці "ўстарэлае".

Незразумела, чаму аўтар газетнага допіса гэтак рашуча выступае супраць наватвораў. Бо ж не толькі настаўнік, а і студэнт-філолаг павінны ведаць, што без новых слоў не абыходзіцца ніводная жывая мова, а індывідуальна-аўтарскія наватворы — пашыраны і "ўзаконены" сродак мастацкага стылю.

Дзівіць і тое, што Л. Раманенка фактычна не прыводзіць прыкладаў наватвораў. Словы ж, якія ў допісе прапануюцца ўвазе чытача, — гэта або спрадвечныя (*камінар, трунар*), або галоўным чынам паланізмы — запазычанні з польскай мовы (*філіжанка, капэрта* і інш.). Можна меркаваць, што аўтар недакладна карыстаецца лінгвістычнымі тэрмінамі — пад словам *наватвор* разумее і запазычанні.

Вядома, кожны чалавек мае свой моўны густ, і ад гэтага залежыць у пэўнай меры выбар сродкаў выказвання. Напрыклад, звычайна пішуць: яе Мікола, яе сяброўка, яе паперы, а вось "маладая пісьменніца" аддае перавагу варыянту *ейны:* ейны Мікола, ейная сяброўка, ейныя паперы. Але гэты варыянт не выдуманы, ён існуе ў мове. Дый, калі быць справядлівым, яго зрэдку ўжываюць не толькі "маладыя". Народны паэт Беларусі Рыгор Барадулін у новым вершы ("Полымя". 1996. N 1) піша: "Пакуль што замерваюць **ейныя** [дзяржавы] межы вятры, дзяржаву вітае цыганскае сонца ўгары".

Калі чытаеш ліст Л. Раманенкі, міжволі ўзнікае думка, што, ацэньваючы слова, ён не ўлічвае таго, што слоўнік літаратурнай мовы не тоесны лексікону асобнага чалавека, у тым ліку настаўніка. Так, Л. Раманенка піша: "Можна пагадзіцца з тым, што "коміны агледзеў **камінар**", але так і цягнецца рука пералагнуцца, калі "**трунар** Альфонса Гарсіа сказаў, што жыве на вуліцы Морг". Навошта гэтае паблажлівае "можна пагадзіцца"? Слова *камінар* літаратурнае, не мае сінонімаў, каб без яго, нават пры жаданні, абысціся. Невядома, з якой прычыны трэба "пералагнуцца", убачыўшы слова *трунар.* Што ж, яно не надта прыемнае і жаданае, але, як і *камінар* — літаратурнае, называе чалавека, што робіць нам, людзям, апошнюю дамоўку. Абодва гэтыя словы падаюцца ў ТСБМ як стылістычна нейтральныя.

Не з'яўляецца наватворам і слова *тастамент.* Яно здаўна ўжываецца ў беларускай мове. Падае яго і ТСБМ, праўда, з пазнакай "устарэлае". Літаратурная практыка сведчыць (гэта прызнае і Л. Раманенка), што слова *тастамент* выходзіць з пасіўнага запасу мовы ў актыўны ўжытак. Дарэчы, гэтае слова ў форме *тастамент* выкарыстаў Максім Лужанін у кнізе "Колас расказвае пра сябе", назваўшы адзін з раздзелаў кнігі "**Тастамант** старога грыбніка".

Нельга не пагадзіцца з Л. Раманенкам, што частка прыведзеных ім слоў — паланізмы *фатэль, шатня, філіжанка, капэрта* і інш. — могуць быць незразумелыя сённяшняму чытачу. І яго перасцярога аўтарам мае падставу. Аднак і ў дачыненні да паланізмаў пазіцыя катэгарычнага непрымання праблемы не вырашае. Да іх таксама павінен быць, як кажуць, індывідуальны падыход. Слова *фатэль* — хацелі б мы таго з аўтарам допісу ці не — усё часцей сустракаецца ў друку, яно прайшло пэўную ступень асваення беларускай мовай. Мае традыцыю ўжывання ў народных гаворках і ў мове мастацкай літаратуры слова *валізка.* Спынімся яшчэ на такім прыкладзе.

У 1946 годзе Якуб Колас пісаў маладому паэту: "Заўважаюцца ў Вас і паланізмы: "пералагнаўся". Наш народ ужывае гэта слова, не зважае, што яно польскае <...>. Вам трэба заняцца вывучэннем мовы народа і ставіцца да яе крытычна".

Слова *пералагнацца* фіксуе ТСБМ з паметай "устарэлае", якая, відавочна, ужо не адпавядае моўнай рэальнасці, бо гэтае слова досыць часта ўжываецца, асабліва ў мастацкіх і публіцыстычных тэкстах. І што цікава, ужыў яго ў сваім допісе і Л. Раманенка, хоць ён "у тэорыі" не прыхільнік запазычанняў. Зразумела, за гэта наўрад ці хто папракне яго, калі не зважаць на нязвыклую, ненарматыўную форму дзеяслова *пералагнуцца* (замест *пералагнацца*). Але ж як не зважаць на такія моўныя "пярліны", калі ў маленькім аўтарскім тэксце допісу іх некалькі. Напрыклад:

"...спыніць русіфікацыю (паланізацыю), роўна як і яе (мовы) мудрагелізацыю". Спалучэнне *роўна як* — русізм (беларускае — *таксама як*). Апрача таго, сам аўтар (Л. Раманенка) тут выступіў у ролі "аматара-эксперыментатар", ужыўшы наватвор *мудрагелізацыя.*

Не "ўклаўся" ў слоўнік літаратурнай мовы аўтар і яшчэ раз, калі залучыў у свой тэкст **слова** *скукожыць,* зразумець якое не **дапам**ожа і ТСБМ (у ім такога слова няма).

**Вых**одзіць, з мовай, з яе ужываннем не так усё проста і адназначна, як гэта ўяўляецца Л. Раманенку.

У лісце даецца рэцэпт, як эфектыўна лячыць моўную "хваробу": "...а ці не патрэбен аматарам розных "спрэс" на іх гарачыя галовы халодны кампрэс?" Сапраўды, спакойны, разважлівы падыход патрэбны і тым, хто піша, і тым, хто публічна ацэньвае мову мастацкіх твораў і сродкаў масавай інфармацыі.

**Алесь КАЎРУС**

Віншуем!

# Льву КАРАІЧАВУ — 60

Леў Караічаў родам з горада Разані (Расія), але разам з бацькамі жыў у вёсцы Рудакоў Хойніцкага раёна. Перад вайной сям'я перабралася ў Мінск. У 1953 годзе Леў Сяргеевіч скончыў сярэднюю школу N 15 і пачаў працаваць тэхнікам-канструктарам у інстытуце "Белдзяржпраект", адначасова вучыўся на вячэрнім аддзяленні Беларускага політэхнічнага інстытута, які скончыў у 1960 годзе.

З 1958 года Л. Караічаў — тэхнік-канструктар, старшы архітэктар, старшы інжынер-канструктар Інстытута будаўніцтва і архітэктуры Акадэміі навук Беларусі, затым быў кіраўніком групы тэхнічнай інфармацыі трэста "Аргтэхбуд", працаваў у Міністэрстве будаўніцтва БССР. У 1967—1976 гадах загадваў рэдакцыяй тэхнікі, будаўніцтва і спорту "Беларускай Савецкай Энцыклапедыі", затым быў карэспандэнтам газеты "Звязда", рэдактарам-кінадраматургам сцэнарнай майстэрні кінастудыі "Беларусьфільм", супрацоўнікам часопіса "Нёман", загадчыкам літаратурнай часткі Беларускага тэатра юнага гледача, прадстаўніком выдавецтва "Известия" на Беларусі...

Як публіцыст, тэатральны і кінакрытык выступае з 1958 года. Напісаў п'есы "І выхавай сына" (пастаўлена ў 1967 годзе), "Зорныя ночы" (пастаўлена ў 1977 годзе), "Слова гонару" (змешчана ў аднайменным зборніку ў 1983 годзе) і іншыя. Л. Караічаў інсцэніраваў аповесць І. Шамякіна "Гандлярка і паэт", што была пастаўлена ў 1989 годзе. Акрамя таго, ён аўтар шэрагу інсцэніровак, якія прагучалі па радыё, сцэнарыяў для аб'яднання "Летапіс" кінастудыі "Беларусьфільм".

З днём нараджэння, шаноўны Леў Сяргеевіч! Новых Вам жыццёвых і творчых поспехаў!

# "ПОМНІК" ЦІ "КАШТОЎНАСЦЬ"?

## ТЭРМІНАЛАГІЧНЫЯ АСПЕКТЫ Ў СПРАВЕ ЗАХАВАННЯ СПАДЧЫНЫ

18 красавіка, у Міжнародны дзень помнікаў і памятных мясцін, аддзелам навуковай тэрміналогіі Нацыянальнага навукова-асветнага цэнтра імя Францішка Скарыны сумесна з Камітэтам па рэстаўрацыі і кансервацыі помнікаў Міністэрства культуры і Беларускім рэстаўрацыйна-праектным інстытутам быў праведзены "круглы стол" па тэме "Унармаванне тэрміналогіі ў справе захавання культурнай спадчыны". Да ўдзелу ў абмеркаванні былі запрошаны актывісты Таварыства аховы помнікаў, навукоўцы акадэмічных інстытутаў, навучальных і адукацыйных устаноў, спецыялісты рэстаўрацыйнай і горадабудаўнічай галін краіны.

Зацікаўленая гаворка вялася па двух накірунках: унармаванне тэрміналогіі сферы захавання спадчыны ў нацыянальным заканадаўстве і праект англійска-беларускага тэрміналагічнага слоўніка, за аснову якога ўзяты спіс міжнародных тэрмінаў, афіцыйна прынятых спецыялістамі рэстаўрацыйнай галіны. Патрэба такой дыскусіі вынікае з тэрміналагічных разыходжанняў, якія маюцца ў дзеючых законах і нарматыўных дакументах і патэнцыяльныя да пранікнення ў тыя, што пакуль абмяркоўваюцца Вярхоўным Саветам Рэспублікі Беларусь. Гэта акалічнасць была падкрэслена літаральна ўсімі ўдзельнікамі "круглага стала".

Дактарат Інстытута этнаграфіі, мастацтвазнаўства і фальклору АН Беларусі А. Калбаска адзначыў, што прыняты вышэйшым заканадаўчым органам краіны ў першым чытанні праект Закона аб музеях утрымлівае тэрміналагічныя хібы, калі пры вызначэнні вядомых у музейнай справе з'яў ці фактаў прыменены далёкія ад іх сутнасці новатворы. Выкладчык політэхнічнай акадэміі архітэктар-горадабудаўнік Г. Баранец акцэнтаваў увагу на неадпаведнасці прымянення тэрмінаў у беларускім і рускім варыянтах аднаго закона. Не менш небяспечнай з'явай стала прымяненне ў розных заканадаўчых актах уласнай тэрміналогіі па адной праблеме, як і разыходжанні пры яе трактоўцы. У такіх выпадках узнікаюць не толькі прававыя калізіі, але і жыццёвыя. У прыватнасці, Законам аб прыватызацыі жыллёвага фонду забараняецца прыватызацыя дамоў і кватэр, "што з'яўляюцца помнікамі гісторыі і культуры...". У той жа час, Закон аб ахове спадчыны вызначае, што "каштоўнасці могуць знаходзіцца ва ўласнасці любой формы".

Варта сказаць, што тэрміналагічныя працэсы ў сферы зберажэння спадчыны маюць свае традыцыі. Яшчэ ў 80-я гады, калі актывізавалася работа па падрыхтоўцы спецыяльных энцыклапедый, дастаткова актыўна выдавалася літаратура па пытаннях аховы, рэстаўрацыі, вывучэння, папулярызацыі нацыянальнай спадчыны. Гэта тэма дыскутавалася як на вузкапрофільных канферэнцыях, так і ў друку. Вынікам такога абмеркавання стала напрацоўка значнага пласта ўласна беларускай тэрміналогіі, якая красамоўна сведчыла пра гістарычныя, культурныя, моўныя традыцыі народа Беларусі.

Моўныя і культуралагічныя працэсы ў мінулым дзесяцігоддзі набылі натуральны характар, што і мела, відаць, свой станоўчы вынік. Удзельнікі "круглага стала" адзначылі пэўны дыскамфорт, які з'явіўся ў спецыялістаў сферы зберажэння спадчыны пасля прыняцця ў 1992 годзе Закона аб ахове гісторыка-культурнай спадчыны, у якім, напрыклад, тэрмін "помнік" быў заменены на "каштоўнасць". Такія працэсы, як адзначыў старшыня Тэрміналагічнай камісіі пры Міністэрстве адукацыі і навукі Беларусі, доктар філалагічных навук Г. Цыхун, вядомыя ў псіхалінгвістыцы. Далёка не заўсёды "рэвалюцыйнае" ўвядзенне нейкага паняційнага пласта прыносіць карысць і прымаецца асноўнымі яго карыстальнікамі. Мінае час і само жыццё адбірае найбольш прыдатную для перадачы сутнасці з'явы і працэсаў тэрміналогію.

Нешта падобнае сталася і з Законам аб ахове спадчыны. Значная частка ўведзеных у яго тэрмінаў не выкарыстоўвалася не толькі спецыялістамі, але і ў грамадскім абыходжанні. Варта сказаць, што і ў міжнародных дакументах паняцце, напрыклад, "гісторыка-культурная каштоўнасць", калі і ўжывалася, то ў іншым кантэксце ў дастаткова аддалены перыяд станаўлення справы зберажэння спадчыны. Інтэрнацыянальная тэрміналогія, што было вызначана дасведчанымі ў перакладчыцкай дзейнасці навукоўцамі, у адносінах да аб'ектаў аховы і рэстаўрацыі мае дастаткова дакладныя і тэрміналагічна вызначаныя паняцці. У дадзеным выпадку, пры скарыстанні гэтага досведу, спалучанага з беларускімі культурнымі традыцыямі, ёсць магчымасць правядзення ўнармавання нацыянальнай тэрміналогіі ў справе захавання спадчыны.

Важным момантам у тэрміналагічнай дзейнасці з'яўляецца, што падкрэсліў намеснік старшыні Тэрміналагічнай камісіі В. Вячорка, пільнае адсочванне спецыфікі беларускай мовы. Несумненна, што вялікае значэнне тут адыгрывае, з аднаго боку, шматгадовая традыцыя выкарыстання пэўнага тэрміналагічнага пласта, з іншага ж, нельга не ўлічваць уздзеянне рускай мовы і культуры. Разам з тым, трэба памятаць пра існаванне элементарных філалагічных законаў. Здарылася ж так, што складаны прыметнік "гістарычна-культуровы", які гучыць "гісторыка-культурны", набыў некалькі іншы сэнс. Мы ж раздзяляем паняцці "адукаваны" ў адносінах да асобы, чалавека і "адукацыйны", калі гаворым пра неадухоўленую форму, установу, у прыватнасці. У наватворы "гісторыка-культурная каштоўнасць" у дачыненні неадухоўленага прадмета назіраецца падвоенае змяшчэнне: разбурэнне складанага прыметніка і асабовая яго скіраванасць.

Удзельнікі "круглага стала" выказалі меркаванне аб неабходнасці больш цеснага супрацоўніцтва з дэпутатамі Вярхоўнага Савета па пытаннях тэрміналагічнай адпрацаванасці заканадаўчых актаў. Выклікала зацікаўленасць сама тэма захавання культурнага набытку і патрэба ўсталявання перыядычнасці пры яе абмеркаванні. Гэта дазволіць вярнуць тэрміналагічныя працэсы на глебу натуральнага развіцця, што будзе спрыяць усталяванню метадычнай і нарматыўнай асновы дзейнасці па ахове і рэстаўрацыі старасвецкіх аб'ектаў з улікам назапашанага сусветнага вопыту і нацыянальных традыцый.

**Л. ЧАРНЯЎСКАЯ,**
**навуковы супрацоўнік Аддзела навуковай тэрміналогіі Скарынаўскага цэнтра**

# ІЛАРЫЁН СВЯНЦІЦКІ — "З КУПАЛАМ У СЭРЦЫ"

**Услед за вечарынамі Кандрата Крапівы, Ніла Гілевіча, Ларысы Геніюш, Інстытута літаратуры імя Я. Купалы, праведзенымі намаганнямі Міжнароднага фонду Янкі Купалы і Літаратурнага музея Янкі Купалы пад дэвізам "З Купалам у сэрцы", у Доме Купалы адбылося ўшанаванне 120-годдзя піянера ўкраінскай беларусістыкі, знакамітага славяназнаўца, прафесара Львоўскага універсітэта імя І. Франка Іларыёна Сямёнавіча Свянціцкага (1876—1956). Выпускнік дзвюх вышэйшых навучальных устаноў (Львоўскага універсітэта і Пецярбургскага археалагічнага інстытута), арганізатар і дырэктар (у 1905—1952 гг.) Львоўскага нацыянальнага музея (цяпер — Музей украінскага мастацтва), загадчык кафедры славістыкі Львоўскага універсітэта на працягу некалькіх дзесяцігоддзяў, І. Свянціцкі назаўсёды застаўся б у гісторыі ўкраінска-беларускага духоўнага яднання толькі за ягоныя наватарскія працы па беларускай літаратуры і культуры, сярод якіх вяршынна ўзвышаюцца "Адраджэнне беларускага пісьменства" (1908), "Асновы адраджэння беларускага пісьменства" (1913) і "Росквіт культурна-нацыянальнага жыцця Усходняй Беларусі" (1928). А ён жа яшчэ ў выніку сваіх паездак па Беларусі ў 1905—1910 гг. стварыў пры Львоўскім нацыянальным музеі выдатны беларускі аддзел (па сутнасці, першы Беларускі нацыянальны музей), выратаваўшы, як пасля аказалася, ад несумненнага знішчэння ў полымі войнаў 1914—1920 гг. 23 слуцкія паясы, 12 кніг "Біблii" Ф. Скарыны, шматлікія абразы, рукапісы, старадрукі... А яшчэ ж ён выбавіў ад немінучага арышту паэтэсу-рэвалюцыянерку Цётку, дапамог ёй у 1905 г. эміграваць у Аўстра-Венгрыю, паступіць у Львоўскі універсітэт, выдаць яе знакамітыя кніжкі "Скрыпка беларуская" і "Хрэст на свабоду"... А яшчэ...**

**Пра ўсё гэта і многае іншае (у тым ліку пра І. Свянціцкага, як чалавека, настаўніка, сямейніка, грамадзяніна) гаварылі на вечарыне прэзідэнт Міжнароднага фонду Я. Купалы, прафесар Вячаслаў Рагойша, выпускніца Львоўскага універсітэта, цяпер дацэнт БДУ Таццяна Кабржыцкая, колішняя навучэнка Львоўскага універсітэта, пісьменніца Валянціна Коўтун, выпускнік Львоўскага ваенна-палітычнага вучылішча, сённяшні вучоны сакратар Купалаўскага музея, паэт Сяргей Панізнік. З асаблівай увагай было выслухана выступленне-ўспамін былога аспіранта ўкраінскага вучонага, сённяшняга загадчыка аддзела Інстытута мовазнаўства імя Я. Коласа АНБ, заслужанага дзеяча навукі Беларусі, прафесара Віктара Мартынава, які падараваў Літаратурнаму музею Я. Купалы кнігу "Росквіт культурна-нацыянальнага жыцця Усходняй Беларусі" з дарчым надпісам аўтара свайму вучню.**

**Правядзенне вечарыны І. Свянціцкага менавіта ў Доме Купалы мае сваю грунтоўную падставу. Янка Купала і І. Свянціцкі неаднойчы сустракаліся, падтрымлівалі цёплыя таварыскія стасункі. У Львоўскай навуковай бібліятэцы імя В. Стафаніка, дзе цяпер знаходзіцца кнігазбор І. Свянціцкага (а сярод кніг — поўныя падшыўкі "Нашай Нівы" за 1906—1915 гг., усе прыжыццёвыя выданні Цёткі, падпольныя гектаграфічныя "Калядная пісанка на 1904 год", "Вялікодная пісанка" і іншыя рарытэты), захоўваецца і некалькі кніг Я. Купалы з дарчымі надпісамі "шчырапаважанаму прафесару". У архіве Літаратурнага музея Я. Купалы можна пазнаёміцца з лістамі-ўспамінамі І. Свянціцкага пра аўтара "Жалейкі". У "Адраджэнні беларускага пісьменства" вучоны ўпершыню апублікаваў забароненыя ў царскай Расіі рэвалюцыйныя вершы Я. Купалы "Там" і "Што ты спіш?", якія аўтар даследавання атрымаў у 1907 г. у Пецярбурзе падчас сустрэчы, як ён пазней прыгадваў, "з дужа мілым, нясмелым малайчынай-аўтарам". Публікацыі купалаўскіх вершаў было зусім дастаткова "для забароны брашуры з нявыдачай просьбітам" і яе канфіскацыі ў дарэвалюцыйнай Расіі. Дарэчы, у кнізе І. Свянціцкага быў надрукаваны таксама і адрасаваны ўкраінцам палымяны верш Цёткі "Суседзям у няволі", у якім паэтэса заклікала беларусаў і ўкраінцаў да інтэрнацыянальнага яднання ў агульнай барацьбе за сацыяльнае і нацыянальнае разняволенне, "за свабоду перад катам"...**

**Пра плённыя кантакты І. Свянціцкага і Я. Купалы, духоўную ўзаемападтрымку беларускага і ўкраінскага народаў на цяжкіх гістарычных шляхах гаварылі таксама на вечарыне надзвычайны і паўнамоцны пасол Украіны ў Рэспубліцы Беларусь У. Жаліба і гаспадыня Дома Купалы, унучатая пляменніца песняра Ж. Дапкюнас. А добры музычны настрой стварылі сябры ўкраінскага зямляцтва з Мінска Міхайла і Ірына Хаецкія, Надзея Гаведзіна і Валянціна Логвін, у прыгожым выкананні якіх прагучала нямала цудоўных украінскіх песень.**

**В. КАЧАНОВІЧ**

# ПРАДВЕСЦЕ

## ПРЫСВЯЧАЮ ПАМЯЦІ МАЙГО СЯБРА БАРЫСА САЧАНКІ

*Дасть вамъ тамо Господь Богъ сердце боязливо и очи недостаточные и душу погыблющу жалостию, и будеть животъ вашъ яко бы висяй пред вами. Страшитися будете во дни и в ночи, и не будете верити сами собе.*

Скарына, Библия Руска,
Книги Моисеовы Вторый Законъ,
глава ки. [1]

Царкоўны званар Назар быў простым чалавекам. Гаспадарка ў яго была слабенькая. Жыў ён бедна, але старэнькая хаціна, што аж па вокны ў зямлю ўрасла, у яго ўсё ж не пуставала: туліліся ў ёй пяцёра дзетак. Хоць і жыла сямейка ў цеснаце, ды не ў крыўдзе. Бацькі былі людзьмі добрага сэрца і дзеці, на іх гледзячы, на прыстойных людзей выраcталі.

Назар надта ж шанаваў свае царкоўныя абавязкі. Можна сказаць, яны перайшлі на яго з дзеда, бо той доўгія гады быў псаломшчыкам, за што ўвесь іхні род у вёсцы па-вулічнаму звалі Псаломшчыкавымі. Клапаціўся Назар Псаломшчыкаў, каб і ў храме было чысцюсенька і вакол яго — усё "на глянц", як ён казаў. Аднак самым улюбёным яго заняткам было званіць. Да гэтай справы ён ставіўся з глыбокай павагай.

Ці то ў нядзелю, ці ў свята падымаўся Назар, бывала, па крутой і скрыпучай лесвіцы на званіцу. Паволі расчыняў створкі галасніковых вокан. Тройчы хрысціўся пад замацаванай пад самым вільчыкам старэнькай, на дошцы яшчэ пісанай, патрэсканай іконкай святога Міколы Цудатворцы. Тады асцярожна, далікатна, з любасцю кранаў, быццам гладзячы, вяроўкі, прымацаваныя да языкоў у званах. Зазіраў у грушу кожнага звана, нібы ўпэўніваўся, ці ў ім нічога не парушана, ці не сфальшывіць ён падчас трызвону. І толькі тады, пацёршы адну далонь аб другую, намотваў канцы вяровак на рукі і прыступаў да справы. У яго выкананні гэта не было звыклае званенне на ютраню, абедню ці вячэрню. У ягоных рухах і галасах званоў чулася ўрачыстае апавяшчэнне пра велічную падзею: Заутранію, святую Літургію, Акафіст ці Вялікую або Малую Вячэрню. Дзяліўся Назар з усім светам радаснай весткай, трызвонячы маладой пары, калі яна выходзіла ад шлюбу, і з балючым стогнам галоўнага звана праводзіў у апошні шлях нябожчыка.

Шанавалі людзі Назара ва ўсім прыходзе, нягледзячы на ягонае ўбоства. Нават бацюшка называў яго па імю і па бацьку, ды і мужчыны падыходзілі і першыя руку яму падавалі. І гэтак сустракаліся і спраўляліся святы, адпраўляліся трэбы колькі гадоў, а мо і дзесяцігоддзяў.

Ажно аднойчы, а здарылася тое якраз на святых Кірылу і Мяфодзія — нябесных апекуноў прыходу, сталася небывалае. Як толькі ўзышло сонейка, Назар заспяшаўся ў царкву, бо ж абяцаліся прыбыць благачынны і некалькі святароў, збярэцца багата народу. Трэба ж было дагледзець, каб усё было ў чысціні ды ў парадку.

Адамкнуў Назар царкву, увайшоў у сярэдзіну і аслупянеў ад нечаканасці: царскія дзверы насцеж расчынены, у сямісвечніку мільгацяць запаленыя лампадкі, а перад аналоем стаіць старэнькі згорблены яго родны дзед і з разгорнутага ў руках "Апостала" добравядомым Назару сваім грамавітым голасам чытае:

—"Аще ли же Духъ воскресившаго Iисуса от мертвыхъ живет в васъ, воздвигій Христа из мертвыхъ, оживотворитъ и мертвенная телеса ваша, живущимъ Духомъ его въ васъ..."[2]

Назар і не памятаў, як ён выскачыў з царквы і апынуўся ў доме святара. Матушка з дачкою ўжо тупалі на кухні, рыхтуючыся да прыёму гасцей, а бацюшка, відаць, толькі што падняўся з пасцелі і канчаў ранішнюю малітву. Званар, заікаючыся ды блытаючы словы, паведаміў здзіўленым, што ён бачыў у царкве.

Яны з бацюшкам подбежкам падаліся ў храм. Але там нікога не аказалася: царскія дзверы зачынены, заслона засунутая, сямісвечнік патушаны. Назар не стрываў, наблізіўся да прастола і дакрануўся да адной лампадкі:

— Бацюшка, цёплая! — з жахам у голасе ўсклікнуў ён.

Святар, ахінуўшы сябе знакам крыжа, памацаў дзве-тры лампадкі і сумніўся:

— Нібы цёплыя. — Але, глянуўшы на яскравае сонейка, што заглядала праз шыбіны, дадаў: — Магло і сонца нагрэць... — Затым ён падазрона зірнуў на званара: — Назар Сідаравіч, ці вы ўчора часам не глытнулі лішняга?

— Бацюшка, нават і кроплі ў роце не меў, ісціны Бог! — і званар гучна ўдарыў кулаком у свае грудзі.

— "Не приемли имене Гопода Бога твоего всуе", — напомніў святар трэцюю запаведзь Божую і дадаў: — Гэта вялікі грэх, Назар Сідаравіч, бажыцца, тым болей попусту.

Хоць і крыўдна стала Назару, але ён змаўчаў.

На фэст сышлося надзіва многа народу. І шмат каму здалося, што Назар неяк неўпапад званіў: на "Верую" крыху прыпазніўся, а на "Отче наш" пачаў ранавата. Падчас хроснага ходу ўрачысты трызвон у яго зусім не выходзіў, і сярод людзей ад перашэптаў пра дзівосную з'яву ў царкве аж шумела.

Але ж прамінуў фэст, прайшлі іншыя святы і нядзелі. Пакрысе людзі пра той выпадак пачалі забывацца. Хоць калі-нікалі, за сталом, у бяседзе, падсмейваліся з Назара, як той пачынаў шчыраваць пры кілішку: "Назар, глядзі, а то зноў які нябожчык табе з'явіцца. Мо ўжо не дзед твой, а гожая маладзіца!.." Цярпеў званар кепікі, хоць яму зусім не да жартаў было.

Недзе каля Галавасека, як у той мясціне называюць свята Усячэння галавы Іаана Хрысціцеля, паехаў Назар у лес, каб з падцярэбленай хваіны забраць галлё, пасечанае і павязанае ў пуччо яшчэ перад сенакосам. Пад'ехаў пад першы кастрог, паклаў пучкі ў драбкі, пад'ехаў да другога, а ля трэцяга згледзеў, што на пяньку нехта сядзіць, адвярнуўшыся плячыма. Зайшоў званар збоку, заглянуў — а гэта ж той жа ягоны дзед з раскладзеным на каленях "Апосталам", карткі перагортвае!.. Назару аж млосна стала. Ужо не браў ён трэцяга кастрога: ледзь сам уваліўся ў драбкі, дубцом па кані ды адно на падворку і ачуняў.

— Божа, Ісусе Хрысце, Збавіцелю, няўжо гэта мой канец надыходзіць?! — упаўголаса шаптаў Назар, кленчачы ў хаце перад іконамі.

Пра з'яву ў лесе сказаў толькі жонцы, наказаўшы строга-настрога, каб нікому пра тое і слова не пікнула: яму кепікі слухаць апрыкла.

Прамінула перападзістая восень, насталі зазімкі. Пад Міколу лужыны зацягнула лядком. Пад падкаванымі чобатамі дарога адгукалася, быццам трэснуты "лебедзь"-звон. Назар з жонкаю выбраліся ў горад, каб нешта з адзежы і абутку на зіму прыкупіць. Яшчэ ўпоцемку заспяшаліся на аўтобусны прыпынак. Баяліся не спазніцца, і прыйшлі на паўгадзіны раней. Прапацелага ад хуткага ходу Назара пачаў браць за плечы зуд. Ён заварушыўся, захадзіў туды і назад па слізкім асфальце. Аўтобус спазняўся. Званар, прытупваючы, хадзіў усё хутчэй. Раптам ён крута павярнуўся і кінуўся бегчы да жонкі, што стаяла на прыстанку.

— Дзе-э-э!.. Дзе-э!.. — крычаў ён і нечакана паслізгнуўся і ўпаў.

У той момант з-за павароту выскачыў аўтобус і ягоны крык патануў у рокаце матора, піску тармазоў і енку хрыплага сігналу. Шафёр не здолеў авалодаць машынай, і аўтобус, слізгаючыся па абледзянелым асфальце, усім сваім цяжарам падмяў Назара пад колы.

Калі званара выцягнулі з-пад машыны, ён яшчэ жыў. Прыбегла жонка, упала каля яго на калені, загаласіла і тут жа заціхла. Назар глядзеў на яе гаснучым позіркам, а з рота скрозь хліпаткую крывавую пену пачулася:

— Дзе-э-э...

— Дзяцей кліча, бедненькі... — зашапталі жанчыны ў натоўпе пасажыраў.

Удава заламала рукі, загаласіла надрывіста, балюча. Яна адна зразумела прашаптанае мужам: Назару на шашы з'явіўся ягоны дзед-псаломшчык.

Калі тое было?

Здарылася яно зусім нядаўна, можна сказаць: учора. Бо ж зусім нядаўна, пазаўчора ці ўчора, жылі нашы продкі, прадзеды і прабабулі, дзяды і бабулі. Яны і цяпер пры нас, побач, тут!

Скажаце:

— Няпраўда. Няма іх. Яны адышлі...

"А чаму ж яны павінны пакідаць гэтую зямлю, якую гэтак палюбілі і на якой яшчэ жывуць іх родзічы і сябры? Гэтую зямлю, якой прах наведала святасць Госпада. Яны знаходзяцца тут, вельмі блізка, на другім баку таго, што бачнае, у Божай міласэрнасці. Калі мы іх не бачым, дык наша недалужнасць паходзіць з абмежавання, нашай духоўнай слепаты. Яны тут у лучнасці са святымі і неабмежаванай прысутнасці Хрыста. У Яго любові мы непадзельныя", — разважаў патрыярх Афінагор.

**Мікола ГАЙДУК**

[1] *"І дасць вам там Гасподзь Бог сэрца баязлівае і вочы малавідучыя і душу знемагаючую ад жалю, і будзе жыццё ваша быццам вісець перад вамі. Будзеце дрыжэць са страху днём і ноччу, і не будзеце верыць самі сабе".*

[2] *"Калі ж Дух Таго, Хто ўваскрасіў з мёртвых Ісуса, жыве ў вас, дык Той, Хто ўваскрасіў Хрыста з мёртвых, ажывіць і вашы смяротныя целы Духам Сваім, што жыве ў вас".*

З "Паслання св. Апостала Паўла да Рымлянаў", 8, 11.

# ВЕДАЎ І РАБІЎ БОЛЬШ, ЧЫМ ІНШЫЯ

*(Працяг. Пачатак на стар.7)*

ў сітуацыях зусім не тыповых, нечаканых, каб спасцігнуць саму сутнасць людской душы, каб па-сапраўднаму зразумець чалавека. Ды і ў выпадках, здавалася б, звычайных таксама ўмеў заставацца самім сабой. А ўсё таму, як слушна сказаў некалі В.Каваленка, што Б.Сачанка "чалавечна піша пра чалавека". А гэтая яго чалавечнасць добра дала знаць аб сабе ў такіх розных і непадобных па сваёй праблематыцы "ваенных" творах як аповесці "Мальвіна", "Палон", "Пакуль не развіднела", "Апошнія і першыя", "Загадка аднаго падполля", раман "Чужое неба".

І, канечне ж, нельга не згадаць раман "Вялікі Лес". На жаль, гэты шматпланавы эпічны твор не знайшоў належнага асэнсавання і ацэнкі з боку крытыкі. Прычына не ў апошнюю чаргу ў тым, што па сваёй праблематыцы ён блізкі асобным раманам з "верамейкаўскага цыкла" І.Чыгрынава. Ды і галоўныя героі Іван Дарошка і Васіль Кулага ў нечым падобныя на Радзівона Чубара і Дзяніса Зазыбу. Але ж гэта само па сабе яшчэ нічога не гаворыць. Як тут не прыслухацца да меркавання П.Дзюбайлы, выказанага яшчэ пасля з'яўлення першай кнігі "Вялікага Лесу" (а іх, як вядома, тры): "Б.Сачанка стварaў свой раман, калі ўжо быў апублікаваны твор І.Чыгрынава ("Плач перапёлкі" — А.М.), ён нярэдка выкарыстоўвае нават аналагічныя сітуацыі, падобныя сцэны, не баючыся, што яго могуць папракнуць за перайманне, за другаснасць матэрыялу. Наадварот як бы спаборнічае з І.Чыгрынавым, часта паўтараючы, пацвярджаючы думкі, іншы раз удакладняючы, а ў некаторых выпадках палемізуючы з імі. Для Б.Сачанкі было вельмі важным паказаць, як у адных і тых жа абставінах пачатку вайны вельмі па-рознаму думаюць і паводзяць сябе людзі. І праз гэта мноства выявіць адносіны сялянства, народа да фашысцкай навалы, да Савецкай улады".

І на самай справе гэта так. Ідучы свядома на падобны крок, Б.Сачанка пісаў арыгінальны твор. І пісаў з думкай пра Беларусь, але пры гэтым адштурхоўваўся ад лёсу сваіх землякоў, ад лёсу вялікаборцаў. Невыпадкова назва раманаў так пераклікаецца з назвай роднай пісьменніку вёскі... Вялікі Бор... Вялікі Лес... Вялікая Бацькаўшчына... І ствараючы "Вялікі Лес, ён пісаў калі не сваю галоўную кнігу, дык, ва ўсякім разе, адну з галоўных.

Выступаючы песняром Палесся, Б.Сачанка заставаўся і цудоўным знаўцам яго сучаснасці. А гэта найлепш пацвердзіла кніга "Ваўчыца з Чортавай Ямы", у 1982 годзе адзначаная Дзяржаўнай прэміяй БССР імя Якуба Коласа. І не ў апошнюю чаргу цыкл апавяданняў з яе, што так і называецца — "Палессе", які яшчэ раз пацвердзіў, наколькі Б.Сачанка майстра так званага "малога жанру". Прытым як бы абмежаванага пэўнымі тэматычнымі рамкамі — суадносіны чалавека і прыроды, чалавека і Палесся. У гэтых творах, кажучы словамі С.Андраюка, "тактоўна, неназойліва, самой логікай разгортвання падзей, усім эмацыянальным ладам сцвярджаецца думка: усякая бяздумная жорсткасць у адносінах да жывога і нежывога навакольнага свету выклікае жорсткасць у адказ, парушае ўсталяваную ў прыродзе раўнавагу, пэўнасць".

Заставацца самім сабой... І ў творчасці, і ў жыцці гэта вельмі няпроста. Б.Сачанка заставаўся. Нават і тады, калі браўся, здавалася б, за модную ў свой час гарадскую тэму (аповесці "Запіскі Занядбайлы", "Не на той вуліцы", шэраг апавяданняў, ці не самае характэрнае сярод якіх "Іван Патапавіч Белахвосцік — кніжны Шэрлак Холмс"). А таму і заставаўся, што тэма горада для яго — гэта была зусім не так званая вытворчая тэма. Ён паказваў гараджан іншага кшталту: сучасных мяшчан, якія, хоць і далучыліся да культуры, культурнымі, інтэлігентнымі людзьмі не з'яўляюцца. Па-свойму — бескампрамісна, прынцыпова, без аглядкі, што нехта нешта зразумее не так — выкрываў сучаснае мяшчанства, прыстасаванства, у тым ліку і ў пісьменніцкім асяроддзі. А тым самым нажыў сабе ворагаў і сярод некаторых літаратараў і іх блізкіх.

# ЯК ЛУГАВЫЯ КРАСКІ...

ЗГАДКА

Недзе пад канец сямідзесятых гадоў мая пісьменніцкая дарога прывяла мяне ў Дом творчасці Піцунда. Там я пазнаёміўся з рускім пісьменнікам Яўгенам Суворавым. Ён жыў у Іркуцку. Сібірак беларускага паходжання. Дзяды яго ў мінулым стагоддзі ў пошуках лепшай долі пераехалі ў Сібір з Магілёўшчыны.

Другі раз наша сустрэча з Яўгенам Адамавічам адбылася неўзабаве ў Мінску. Ён прыехаў у Беларусь, каб пагасцяваць на зямлі продкаў. У сталіцы, у Магілёве хадзіў у тэатры, музеі, у кнігарні. Накупляў беларускіх кніг. У яго чамадане паехала ў Іркуцк і кніжка Барыса Сачанкі "Ваўчыца з Чортавай Ямы".

У сярэдзіне васьмідзесятых гадоў давялося мне быць у Іркуцку. Там праводзіўся Тыдзень дзіцячай кнігі — наладжваў вялікі Саюз пісьменнікаў такія літаратурныя мерапрыемствы падчас веснавых школьных канікулаў то ў адным, то ў другім кутку неабсяжнай краіны. І зноў я пабачыўся з Суворавым. Разам у палацах культуры, у школах, дзіцячых бібліятэках выступалі...

Сонечным сакавіцкім ранкам з Іркутска мы паляцелі ў Брацк. У самалёце Яўген Адамавіч падарыў мне сваю малюсенькую кніжачку "Мне сказали цыгане..." Я там жа і прачытаў яе. Лірычнае апавяданне пра цыганоў было прасякнута шчырымі светлымі чалавечымі пачуццямі аўтара. Па духу твор у чымсьці нагадваў паэму Пушкіна "Цыгане". Я сказаў пра свае ўражанне Яўгену Адамавічу і пажартаваў:

— Суvotаў перагукваецца з Пушкіным.

Ён усміхнуўся, памаўчаў, а сказаў зусім пра іншае:

— Што ні кажы, а ў добрага твора шчаслівая доля: яму дадзена глыбока ўзрушваць, прасвятляць чалавека. Не-не, я не пра сваіх цыганоў... Шкадую, што не прачытаў вашага Сачанку тады ў Мінску.

— Чаму? — жыва зацікавіўся я.

— Пашукаў бы знаёмства з ім.

Мы разгаварыліся.

— Калі дома чытаў яго кніжку, мне іншы раз здавалася, быццам ледзь улоўна чуў здалёку жывыя галасы. Перагарнуў апошнюю старонку і падумаў: якое глыбокае арганічнае спалучэнне праўды жыцця і праўды мастацтва! Зноў жа, слова... Такое ёмкае, сакавітае беларускае слова! Во яно быццам запахла водарам весніх лугавых красак, а во — як паклалася ў радок, нібы крамяны, налітны беларускі яблык на далоню...

Ён называў творы, згадваў эпізоды і характары, пейзажныя замалёўкі, сюжэтныя хады.

— Ці вось паслухайце. — І працытаваў глухаватым голасам: "...Кампазітары амаль кожны яго радок кладуць на музыку. Сам паэт, хоць і немалады ўжо, даўно сівы, як лунь, але ўсё яшчэ высокі, стройны, з арліным паглядам вачэй, ціха, задуменна смяецца, калі хто-небудзь напамінае яму пра славу".

Гэта былі радкі з апавядання "Пра аднаго паэта". Апавяданне гэтае я ведаў з таго часу, калі яно рыхтавалася да друку ў штотыднёвіку "Літаратура і мастацтва", дзе я тады працаваў.

— Палюбіў я таго паэта — сціплага, высакароднага, таленавітага. І ведаеце — пасля: чытаю беларускую паэзію — аднаго, другога аўтара, а ўяўляецца, што ўсё напісаў ён, высокі, стройны, з арліным паглядам...

Яўген Адамавіч прачытаў на памяць яшчэ колькі радкоў з апавядання Сачанкі. Я слухаў, і ў мяне раптам усплыло на думку, як некалі ў школьны свой час вучыў на памяць з Коласа: "Тысячамі дарог і ў розных кірунках збягае вясною снегавая вада. Як многа гэтых дарог і як разнастайны яны ў сваім руху, у сіле свайго імкнення! Ёсць нейкія завабліва чары ў гэтых пуцінах-ручаях, што пракладаюць дарогу вясне і аднаўленаму жыццю на зямлі. Тысячамі дарог ідуць і людзі..." Вучыў, упіваючыся асалодаю і ад Коласавых слоў, і ад свайго чытання на школьных вечарах, са сцэны ў нашым вясковым клубе.

Нечаканы ўспамін ярка мільгануў і быццам прасвятліў маю душу. Прыемна ўражаны ім, я весела спытаў у Суворава:

— Завучылі, каб на якой літаратурнай сустрэчы прачытаць? У Сібіры ж і беларусаў шмат.

Яўген Адамавіч крутнуў галавой:

— Не завучваў, само запомнілася. Калі перачытваў апавяданне.

За акном самалёта, акаймаванае тайгой, раскінулася Брацкае мора. Снегавы покрыў на яго лёдавым панцыры нагадваў агромністы іскрыста-белы абрус. Неўзабаве самалёт збавіў гул рухавікоў, пайшоў на зніжэнне. У ілюмінатары пабачылася стужка Ангары, перагароджаная магутнай плаціной, панесліся насустрач шматпавярховыя камяніцы маладога горада, залітага надзвіва яркім сонцам. Мы прыпалі да ілюмінатара.

— А вы ведаеце, што сказаў пра наш цуд дваццатага стагоддзя відны амерыканскі палітык Аверэл Гарыман? — пачуў я каля вуха голас Суворава. — "Хто не пабываў у Брацку, той мае недахоп у сваёй адукацыі". Вось так... Перадайце Барысу Сачанку, што я пасылаю яму сваю глыбокую чытацкую ўдзячнасць і самыя добрыя пажаданні. Няхай завітае да нас — і ў Брацк наведаемся, і на Байкал...

Шасі самалёта глуха гупнулі ў бетон...

**Аляксандр КАПУСЦІН**

Ды ўсім добрым, а тым больш добранькім не будзеш. І ён не імкнуўся такім быць. Ён жыў і працаваў так, як лічыў патрэбным. А што і трэба было жыць і працаваць так, а не інакш, з цягам часу становіцца ўсё больш зразумелым.

Менавіта дзякуючы Б.Сачанку мы ўпершыню так шырока пазнаёміліся з літаратурай беларускага замежжа. І па кнізе "Сняцца сны аб Беларусі..." (яна ў 1991 годзе атрымала Літаратурную прэмію імя І.Мележа), і па шматлікіх публікацыях, якія ў не ўвайшлі. Гэта ён ці не першы на поўны голас загаварыў аб вяртанні з небыцця некалі рэпрэсіраваных літаратараў, творы, кнігі многіх з якіх не адно дзесяцігоддзе былі забаронены, пыліліся ў "спецхранах". І ён жа першы пачаў разбірацца ў загадцы з трагічнай смерцю Я.Купалы.

У апошняе ж дзесяцігоддзе асабліва ярка праявілася дзейнасць Б.Сачанкі на выдавецкай ніве. Пачалося гэта з 1986 года, калі ён пачаў працаваць загадчыкам рэдакцыі перакладной літаратуры выдавецтва "Мастацкая літаратура". Тады і нарадзілася задумка выпуску шматтомнай серыі "Скарбы сусветнай літаратуры"... Тады ж выйшлі, складзеныя ім, кнігі "Туга па Радзіме" (паэзія беларускай эміграцыі), "Белы сон" Л.Геніюш і іншыя. А што ўжо казаць пра працу на пасадзе галоўнага рэдактара "ЭнБел"?!

Мала, недаравальна мала было адведзена Богам і лёсам Барысу Іванавічу часу на гэта. І як шмат, надзіва шмат зроблена ім! Не буду называць энцыклапедыі і энцыклапедычныя даведнікі, якія выйшлі дзякуючы яму за гэты час — той, хто лічыць сябе свядомым, культурным беларусам, не можа пра іх не ведаць. Скажу адно... Ужо аднаго таго, што Б.Сачанка дамогся падрыхтоўкі выдання 18-томнай нацыянальнай энцыклапедыі (літаральна за якія два з паловай тыдні да яго 60-годдзя выйшаў першы том яе), дастаткова, каб называць Барыса Іванавіча адным з самых выдатных сучасных адраджэнцаў.

І яшчэ пра адно не магу не згадаць напаследак. Не будзем крывіць душой: апошнім часам сяму-таму, хто надта ўжо прывык "рубить из-за плеча" не падабаліся палітычныя погляды Б.Сачанкі. Як і погляды І.Чыгрынава. Гэтаксама як не падабаюцца сёння погляды І.Шамякіна. Што наконт гэтага сказаць? Ды, бадай, нічога гаварыць не трэба. Зноў жа лепей за іншых пра ўсё сказаў сам Барыс Іванавіч. У артыкуле "Шчодры талент", прысвечаным І.Мележу: "Сапраўдны пісьменнік заўсёды слухаў і слухае больш сябе, чым іншых. Ён думаў і думае не пра тое, што сёння выгадна ці не выгадна. за што хваляць, за што лаюць, а пра тое, як лепш сказаць, данесці да чытача запаветнае, што ведае ён адзін і "лучше всех на свете" і пра што, калі ён не скажа, нікто, ніхто не скажа..."

Б.Сачанка ведаў шмат таго, чаго іншыя не ведалі. І ён шмат сказаў таго, чаго іншыя не сказалі і не могуць сказаць. На жаль, многага і многага ён так і не паспеў здзейсніць.

Наўмольны лёс... Заўчасная смерць...

І вечная памяць... І заўсёдная чалавечая ўдзячнасць!

**Алесь МАРЦІНОВІЧ**

# У РЭЧЫШЧЫ НАЦЫЯНАЛЬНАЙ ТРАДЫЦЫІ



У самым цэнтры Мінска, у раёне плошчы Я. Коласа, кожную раніцу ў нядзелю можна ўбачыць дзяцей розных узростаў, якія ідуць кудысьці разам з бацькамі, бабулямі і дзядулямі. Ідуць яны ўсе... у школу. У нядзельную яўрэйскую школу. Вось ужо шэсць гадоў адзіная такога роду навучальная ўстанова нашага горада адчыняе свае дзверы для дзяцей, якія хочуць спазнаць яўрэйскую культуру, мову іўрыт, гісторыю і традыцыі яўрэйскага народа. Вучацца ў ёй не толькі яўрэйскія дзеці, а і тыя, хто цікавіцца яўрэйскай самабытнай і старажытнай культурай.

Створаная для далучэння яўрэйскіх дзяцей да сваіх страчаных традыцый, нядзельная школа выйшла за межы прызначаных ёй спачатку функцый. Дзеці тут адкрываюць для сябе свет духоўных арыенціраў свайго народа, іх рэлігійныя абрады і духоўныя законы жыцця, гісторыю нацыі і мову іўрыт. Выхаваўчы патэнцыял школы надзвычай вялікі, і каштоўна тое, што традыцыі спазнаюцца ў ненавязлівай, часцей за ўсё гульнявой форме, у атмасферы цяпла і добразычлівасці.

Шмат стагоддзяў жывуць яўрэі побач з беларусамі, зжыліся з гэтай зямлёй і яе народам. Палітычныя катаклізмы XX стагоддзя прывялі да трагічнага адчужэння людзей ад сваёй духоўнай традыцыі. Некалькі пакаленняў яўрэяў былога СССР былі выхаваны ў адрыве ад сваёй роднай мовы, рэлігіі і культуры. І таму так важна тое, што цяперашняе маладое пакаленне мае магчымасць сувязей са сваёй традыцыяй, яно спасцігае мудрасць свайго народа, багацце яго духоўнай спадчыны, пафас яго гісторыі.

Заняткі праходзяць у памяшканні школы N 23. Навучальны дзень пачынаецца з рэпетыцый творчых калектываў: танцавальнага гуртка, вакальных ансамбляў малодшых і старэйшых груп, тэатральнай студыі, лялечнага гуртка. Дзеці даюць канцэрты, ставяць цікавыя спектаклі, у пастаноўцы якіх яны выступаюць сааўтарамі разам з настаўнікамі.

У гуртках нядзельнай школы пануе дух святочнасці і інтэлектуальнай напружанасці. Вынікі сваёй творчасці дзеці дэманструюць як на ўнутрышкольных канцэртах, так і на больш адказных сцэнах. Добрай традыцыяй у дзяцей школы стаў удзел у святах, якія яны праводзяць разам з пажылымі людзьмі — валанцёрамі яўрэйскай арганізацыі, створанай для аказання дапамогі адзінокім і састарэлым людзям.

У школе навучаецца звыш 100 чалавек. Вучэбны план і расклад заняткаў у іх індывідуальны і разлічаны на канкрэтны ўзрост. Усе групы маюць урокі іўрыта, традыцый, англійскай мовы, музыкі, а старэйшыя дзеці вучацца рабоце з камп'ютэрам і спасцігаюць асновы "міласэрнасці" — так называецца спецыяльны курс, які праводзіцца па ініцыятыве кіраўніка яўрэйскай амерыканскай арганізацыі "Джойнт" у Мінску Зеева Абрамсона. Рэгулярна працуе ў нядзельнай школе "Клуб яўрэйскай сям'і", які загадвае С. Старобінец. Бацькі дзяцей з цікавасцю наведваюць яго, дзе даведваюцца аб тым, як арганізаваць свята па старых запаветах, як прыгатаваць ежу нацыянальнай кухні, які сэнс тых або іншых абрадаў, рытуалаў і блаславенняў.

Асаблівая ўвага аддаецца гістарычнай радзіме яўрэйскага народа — Ізраілю, яго мінуламу і сённяшняму дню, яго геаграфіі, эканамічным і культурным дасягненням, мастацтву і рэлігіі. Вялікую дапамогу і падтрымку нядзельнай школе аказвае Ізраільскі культурна-інфармацыйны цэнтр, яго дырэктар сп. Элі Шэзаф, дырэктар адукацыйных праграм Іна Герасімава. З іх дапамогай створана матэрыяльная база школы — вучэбныя дапаможнікі, аўдыя- і відэатэхніка, стэнды і апаратура. Вялікую дапамогу аказваюць яўрэйская абшчына Вялікабрытаніі, амерыканская яўрэйская арганізацыя "Джойнт".

У школе працуе высокапрафесійны педагагічны калектыў, якім кіруе энтузіяст сваёй справы Ала Барысаўна Вольфсан. Сярод найбольш любімых дзецьмі настаўнікаў — Д. Немзер, Н. Палявая, С. Быхоўская, Ж. Кірэева.

Толькі па нядзелях збіраецца калектыў гэтай школы. Магчыма, яна не вырашае нейкіх вялікіх праблем асвет падрастаючага пакалення, але, тым не менш, для яўрэйскага насельніцтва сталіцы нашай краіны ўсё, што яна робіць, мае неацэннае значэнне.

**Н. СЦЯПАНСКАЯ,**
**кандыдат мастацтвазнаўства**

**Калектыў і рэдкалегія часопіса "Полымя" выказваюць глыбокае спачуванне намесніку галоўнага рэдактара Жуку Алесю Аляксандравічу з прычыны напаткаўшага яго гора — смерці маці.**

**Калектыў рэдакцыі "Літаратура і мастацтва" выказвае глыбокае спачуванне таленавітаму пісьменніку, свайму былому галоўнаму рэдактару Алесю Аляксандравічу Жуку з прычыны напаткаўшага яго гора — смерці маці.**

**Саюз беларускіх пісьменнікаў выказвае глыбокае спачуванне пісьменніцы Лідзіі Арабей з прычыны напаткаўшага яе гора — смерці мужа Ганкіна Яўгена Маркавіча, заслужанага дзеяча мастацтваў Беларусі.**

ЛІСТ З ЛОНДАНА

Джым ДЗІНГЛІ

# “ГЭТА БЫЛО НАКАНАВАНА ЛЁСАМ”

## Веры РЫЧ — 60

Калі ў Веры запыталі, што прывабіла яе да Беларусі, беларускіх мовы і літаратуры ў першую чаргу, яна адказала: “Гэта было мне наканавана лёсам”, — а затым дадала, што як першага перакладчыка беларускай літаратуры на англійскую мову Беларусь і сапраўды “адкрыла” яе, бадай, у найбольшай ступені.

На Захадзе не знойдзеш чалавека, які б тым ці іншым чынам быў далучаны да вывучэння беларускай літаратуры і які б не чуў пра Веру. Між тым, гэтая далучанасць Веры да беларушчыны можа засланіць яе глыбокую і палкую адданасць многім іншым сферам, звязаным з пазнавальнымі памкненнямі чалавека. некаторыя з Верыных захапленняў, напрыклад, матэматыка, медыцына, ісландская паэзія, могуць падацца надта ўжо далёкімі ад Беларусі, аднак сама Вера, і ў гэтым яна непараўнаная ані з кім іншым, здольная лучыць усё гэта ў адно гарманічнае цэлае.

Па словах самой Веры, у яе радаводзе няма славянскіх каранёў. Яе бацька — англічанін, а ў змешаным паходжанні маці перапляліся ірландскія, шатландскія, французскія і дацкія карані. Незвычайнае і само месца нараджэння Веры (24 красавіка 1936 года) — палата Джорджа Вашынгтона лонданскай бальніцы, якая была своеасаблівым амерыканскім “анклавам” у сталіцы Англіі. У дзяцінстве, якое прыпала на час вайны, Веру выхоўвала бабуля. У тым раннім узросце Вера прывыкла чуць у доме мешаніну з самых розных моў — у прыватнасці, дом, здавалася, ні на дзень не адпачываў ад чэхаў і венграў. Бабуля навучыла Веру чытаць і пісаць і, што яшчэ больш важна для будучай паэткі і перакладчыцы паэзіі, — рыфмаваць. У дзесяцігадовым узросце Вера пачала пісаць вершы, а ў 15 гадоў друкавала свае паэтычныя спробы ў маладзёжным часопісе суполкі аматараў паэзіі.

У многіх адносінах Веры пашчасціла ў тым, што тычылася яе навучання і развіцця. У адзінаццаць гадоў яна мела ўсе магчымасці развіваць свае разнастайныя здольнасці і задавальняць сваю лінгвістычную дапытлівасць. Якраз у гэты час яна пазнаёмілася з грэчаскім алфавітам, а крыху пазней, з падказкі шчаслівага лёсу, пачала наведваць манастырскую школу, дзе магла вывучаць і саму грэчаскую мову. Заўважыўшы зацікаўленасць Веры ў грэчаскай мове, як царкоўны апякун прывёў дзяўчынку на беларускую грэка-каталіцкую службу ў Фінчлі — каб паказаць заадно, што каталіцызм не заўсёды азначае лаціну. Першае знаёмства Веры з беларускай суполкаю Лондана і асабліва з групай уніяцкіх святароў, якая і ўтварала інтэлектуальны цэнтр беларускай дыяспары, зрабіла на яе глыбокае ўражанне. Цягам доўгіх гадоў Вера з’яўляецца членам кангрэгацыі беларускай уніяцкай царквы, да апошняга часу была актыўнай удзельніцай царкоўнага хору.

Калі прыйшоў час выбіраць прадмет для універсітэцкага вывучэння, Вера ўжо адкрыла для сябе, што яе схільнасці тычацца фізікі і англійскай мовы. Перамагла апошняя, і Вера паступіла ў Оксфард, і гэта, на шчасце, было тады, калі вывучэнне англійскай азначала таксама і вывучэнне старажытнаанглійскай і старажытнаісландскай моў і літаратур. На вечарынцы, прысвечанай яе дваццацігоддзю. Вера нечакана атрымала прапанову аб перакладзе ўкраінскай паэзіі, а неўзабаве паследавала і запрашэнне перакладаць беларускую паэзію. Але і матэматыка яе не адпускала. Для вывучэння матэматыкі Вера перайшла з Оксфарда ў Лонданскі універсітэт, аднак вучоба была перапынена... падрыхтоўкай да сотых угодкаў з дня смерці Шаўчэнкі (1961 г.). Кульмінацыяй яе ўдзелу ў шаўчэнкаўскіх урачыстасцях з’явіўся выхад кніжкі яе перакладаў з Кабзара “Пісня з темряви”, а таксама сцэнічная пастаноўка, прысвечаная жыццю Шаўчэнкі і заснаваная на гэтых перакладах. Пазней Вера перакладала творы Івана Франка, Лесі Украінкі і многіх сучасных украінскіх аўтараў, напісала нямала артыкулаў аб украінскай літаратуры.

Але я вярнуся трошкі назад, у 1960 год. Тады Вера пабывала на Джэрсі, адным з астравоў у праліве Ла-Манш, які быў акупаваны немцамі ў часе Другой сусветнай вайны. Вера паехала туды з мэтай даследавання лёсу савецкіх ваеннапалонных, якіх фашысты ўтрымлівалі там і сярод якіх было нямала беларусаў і ўкраінцаў. Само сабою, зацікаўленасць лёсам ваеннапалонных беларусаў і ўкраінцаў была ўжо свядомай, акрэсленай, вызначанай зацікаўленасцю лёсам гэтых народаў наогул.

Дваццатыя ўгодкі з дня смерці Янкі Купалы ў 1962 годзе былі адзначаны чытаннем перакладаў Веры ў Брэдфардзе (Паўночная Англія). Тым часам яна працягвала перакладаць беларускую паэзію ўжо згодна з кантрактам ЮНЕСКА. І ў 1971 годзе выйшла кніга перакладаў Веры з беларускай паэзіі “Як вада, як агонь”. Якасць перакладаў відавочна выяўляе майстэрства Веры, дасканалае веданне ёю беларускай і англійскай моў, а заўвагі да твораў адкрываюць глыбіню яе дасведчанасці ў многіх іншых інтэлектуальных галінах. Тым не менш аўтарытэты ў Савецкай Беларусі не замарудзілі выказаць сваё неадабрэнне кніжкі, найперш падборам аўтараў і твораў, і гэта быў той выпадак, які ў іншым кантэксце апісваў Эзра Паўнд — выпадак, недаступны для звычайнага чалавечага разумення. Узважаны погляд на Веру-перакладчыцу з’явіўся ў Беларусі толькі ў 1978 годзе ў артыкуле Язэпа Семяжона “Чуцен голас наш далёка” на старонках штогадовага літаратурнага альманаха “Далягляды”.

Наступным галоўным выданнем у галіне перакладаў з беларускай стаўся ў 1982 годзе зборнік выбраных твораў Багдановіча, Гаруна і Бядулі “Снуецца зданняў рой”. А двума гадамі пазней з’явілася значнае даследаванне вобраза яўрэя ў беларускай літаратуры, напісанае Верай сумесна з Я.Блюмам.

Якімі б каштоўнымі ні былі пераклады з беларускай і ўкраінскай, пражыць на іх Вера, безумоўна, не магла. У 1960-я гады яна працавала вольным (не звязаным з пэўнай рэдакцыяй) перакладчыкам навуковых артыкулаў, скажам,з польскай мовы (згадаем тут кніжку аб лазерах у тэлекамунікацыях), рэдагавала ўласны паэтычны часопіс “Manifold” (“Шматстайнасць”). Акрамя таго, выпусціла тры кніжкі ўласнай паэзіі — “Outlines” (“Абрысы”), “Portents and Images” (“Мары і вобразы”) і “Heritage of Dreams” (“Спадчына сноў”). Апошні зборнік — гэта паэтычны альбом аб Аркнейскіх астравах на поўначы Шатландыі, багатых на міфы і легенды кельтаў і вікінгаў. Любоў да нарвежцаў і беларусаў Вера спалучыла і ўвасобіла ў перакладах з Арсенневай “Каб сэрцы вікінгаў мы мелі”, апублікаваных у “The Orcadian”.

На працягу дваццаці гадоў (1969—89) Вера рэгулярна пісала аб навуцы ва Усходняй Еўропе для прэстыжнага тыднёвіка “Nature”. У тыя ж гады яна пачала браць актыўны ўдзел у руху за правы чалавека. Упершыню яна апынулася ў Польшчы на канферэнцыі па пытаннях перапрацоўкі адкідаў і сцёкавых вод у той час, калі Караль Вайтыла быў абраны рымскім папам. Яе кантакты з польскай андэграўндскай прэсай выліліся ў тое, што Вера пачала пісаць для яе артыкулы пад самымі рознымі псеўданімамі. Навуковая журналістыка закідвала яе ў Венгрыю, на экалагічны круіз па Дунаі (тады, калі яшчэ былі Чэхаславакія, Югаславія, Румынія Чаушэску), у Ізраіль (для вывучэння праблем адаптацыі там савецкіх вучоных) і ў Індыю. А наогул праца журналіста прыводзіла Веру ажно ў 35 краін свету.

Чарнобыльскі выбух у 1986 годзе з новай сілай збудзіў і навуковыя інтарэсы Веры, і яе любоў да Беларусі і Украіны. Ад імя Каралеўскага інстытута па міжнародных справах Вера прысутнічала на першай міжнароднай канферэнцыі, прысвечанай праблемам Чарнобыля, што праходзіла ў жніўні 1986-га. Яе ўдзел у справах, звязаных з Чарнобылем, усё больш паглыбляўся, яна актыўна працавала дзеля таго, каб адкрыць людзям вочы на тое, што вучоныя звычайна лічаць за лепшае не выносіць за межы “навуковай супольнасці” і трымаць у сакрэце ад грамадства.

Падчас знаходжання ў Маскве ў маі 1991 года, куды Вера прыехала на канферэнцыю па правах чалавека, яна сустракалася з Сахаравымі і Аляксандрам Люцко, цяперашнім рэктарам Інстытута Сахарава ў Мінску. Гэтыя кантакты ў многім і пасадзейнічалі развіццю сувязяў, якія цяпер ужо трывала ўсталяваліся паміж інстытутам у Мінску і Кінгстанскім універсітэтам паблізу Лондана.

Сёння Вера па-ранейшаму працуе журналісткай і супрацоўнічае з “Times Higher Educatioal Supplement”, “Phusics World”, “Tablet” (інтэлектуальны тыднёвік рымскіх католікаў), “Catholic World Report”. Яна рэдагуе англамоўны часопіс, што выходзіць раз у квартал і называецца “The Ukrainiah Review”, зусім нядаўна апублікавала ў ім артыкул аб адносінах брытанскага ўрада да ўкраінскай незалежнасці (з нагоды чарговай гадавіны пачатку Другой сусветнай вайны). У пэўнай ступені менавіта Вера пасадзейнічала перадачы Украінскай Акадэміі навук брытанскім урадам даследчай станцыі ў Антарктыдзе “British Faradau Antarctic”.

Вера па-ранейшаму актыўна перакладае. Не так даўно ў спецыяльным выпуску часопіса “Inde on Censorship” з’явілася падборка яе перакладаў сучаснай беларускай прозы, а толькі што скончыла працу над перакладам славутага верша Наталлі Арсенневай “Магутны Божа”. Многія пераклады з беларускай і ўкраінскай моў чакаюць чаргі на публікацыю.

Вера — часты госць у Беларусі. У адзін са сваіх апошніх візітаў на Беларусь яна прачытала там даклад на тэму “Беларусь у старажытнаісландскіх сагах” — вось і яшчэ адна сувязь!

Апошнія набыткі Веры — камп’ютэр і мадэм да яго; яна падумвае і аб тым, каб аднавіць свой паэтычны часопіс. І — хто ведае? — можа, неўзабаве мы будзем гаварыць з Верай праз камп’ютэрную сетку “Інтэрнета”!

Адзін з галоўнейшых момантаў ва ўсёй дзейнасці Веры — яе палкая адданасць свабодзе выказвання. І яна вельмі ганарыцца тым, што з’яўляецца першым замежным сябрам Беларускага ПЭН-цэнтра.

Напрыканцы нядаўняй гутаркі з Верай я запытаўся ў яе наконт ейных спадзяванняў адносна лёсу Беларусі ў сённяшніх варунках. Не вагаючыся,яна адказала, што спадзяецца, верыць у тое, што Беларусь выжыве як суверэнная, незалежная дзяржава, дзеля чаго важна, каб яе бачылі на сусветнай арэне ў такіх сферах, як навука, тэатр, спорт.

Усе мы, далучаныя ў той ці іншай ступені да беларушчыны, шчыра віншуем цябе, Вера, з днём нараджэння і зычым табе доўгіх-доўгіх гадоў жыцця. Зычым і спадзяёмся, што нас чакаюць яшчэ многія гады плённых кантактаў з табой, з плёнам тваёй працы ва ўсіх сферах тваіх чалавечых і творчых інтарэсаў.

*Лондан, Вялікабрытанія*

**Пераклад з англійскай**

---

Вера РЫЧ

### ПЕСНЯ

**Маё каханне — маленькае белае гняздзечка,**
**Крытае шэрымі пёркамі,**
**Дзе ты можаш спыніцца, співаючы песню,**
**а пасля — пайсці.**

**Маё каханне — нястрымны лівень вішняцвету,**
**Які падае на нас у ружова-залаты вечар,**
**Адценены барвовай заслонай неба.**

**Маё каханне — келіх, напоўнены ценямі,**
**Дзе зданi фіялетава-блакітных мадрыгалаў,**
**І матылькамі-вачмі ўзіраецца**
**ў цябе цішыня.**

**Маё каханне — як почкі бярозы і вераса,**
**Дзе мільёнамі варыянтаў выспявае Будучыня.**
**Маё каханне — кроплі расы,**
**што падаюць з нябёсаў.**

### КОНЬ ІДЗЕ ДАДОМУ

**Скача па сцяжынцы у ноч сонцастаяння;**
**У марознай смузе, быццам прывіды, цісы.**
**І трывожная поўня, як агеньчык у твані.**
**Галавою каня прабіваецца ноч, а ў начы чалавек.**

**Галавешкай смуродзіць заход.**
**Выбягаюць насустрач —**
**агеньчыкі крамы, акенца.**
**Людзі твораць звычайнае —**
**ежа, шытво, распрананне,**
**Каб назаўтра ізноўку ўсё пачынаць...**
**Але конік дадому ідзе.**

**Ён на плошчы сягоння скакаў, і ківаў, і вітаўся.**
**І атрымліваў медзякі,**
**што ляцелі ў намаляваны рот.**
**А пасля — далей, у палатняны страўнік.**

**Але зараз ён ідзе дадому скрозь вастрыі цісаў,**
**І чалавек пад палатном — адзін, і адна поўня.**
**І драўляныя сківіцы лязгаюць словамі,**
**якія былі не сказаныя**
**Усе пяць тысяч гадоў.**

●

**Мае рукі — падняты келіх,**
**Што збірае расу з яснай начы, якая**
**Пакрывае аксамітам невядомыя, дзіўныя сонцы,**

**Мае вочы не адрываюцца ад люстэркаў,**
**дзе белая**
**Аўрора ўзлятае і, адлюстраваўшыся,**
**Мяняе свой колер і зноў ляціць.**

**Мае думкі выраслі ў “перагонным кубе”,**
**дзе дыстылююцца**
**Птушкі-задумкі, азарэнні,**
**і Вавілонская вежа не перашкаджае**
**Разумець другіх.**

**Мае рукі — зялёнае ложа кветкі, дзе сонца**
**Паэзіі садзіцца, дзе вуда маёй ручкі**
**Выцягвае на паверхню спакой**
**і залаты круг масла на сподку.**

**Пераклад Вольгі ІПАТАВАЙ**


ЛіМ ЛІТАРАТУРА і МАСТАЦТВА

ЗАСНАВАЛЬНІКІ

**Саюз беларускіх пісьменнікаў; Міністэрства культуры і друку Рэспублікі Беларусь; калектыў рэдакцыі газеты "Літаратура і мастацтва"**

**ВЫХОДЗІЦЬ З 1932 ГОДА**

*Газету рэдагавалі:*

| | |
|---|---|
| *Х.Дунец* | (1932-35) |
| *І.Гурскі* | (1935-41) |
| *А.Куляшоў* | (1945-46) |
| *М.Горцаў* | (1947-49) |
| *П.Кавалёў* | (1949-50) |
| *В.Вітка* | (1951-57) |
| *М.Ткачоў* | (1957-59) |
| *Я.Шарахоўскі* | (1959-61) |
| *Н.Пашкевіч* | (1961-69) |
| *Л.Прокша* | (1969-72) |
| *Х.Жычка* | (1972-76) |
| *А.Асіпенка* | (1976-80) |
| *А.Жук* | (1980-86) |
| *А.Вярцінскі* | (1986-90) |

**Галоўны рэдактар Мікола ГІЛЬ**

**РЭДАКЦЫЙНАЯ РАДА:**
**Святлана БЕРАСЦЕНЬ, Міхась ЗАМСКІ, Галіна КАРЖАНЕЎСКАЯ, Жана ЛАШКЕВІЧ, Алесь МАРЦІНОВІЧ, Барыс ПЯТРОВІЧ —** *першы намеснік галоўнага рэдактара,* **Юрась СВІРКА, Віктар ШНІП —** *намеснік галоўнага рэдактара*

**АДРАС РЭДАКЦЫІ:**

**220600, ГСП, Мінск, вул. Захарава, 19**

**ТЭЛЕФОНЫ:**

**прыёмная рэдакцыі — 332-461**
**намеснікі галоўнага рэдактара — 332-525, 331-985**
**аддзелы:**
**публіцыстыкі — 332-525**
**пісьмаў і грамадскай думкі — 331-985**
**літаратурнага жыцця — 332-462**
**крытыкі і бібліяграфіі — 331-985**
**паэзіі і прозы — 332-204**
**музыкі — 332-153**
**тэатра, кіно і тэлебачання — 332-153**
**выяўленчага мастацтва і аховы помнікаў — 332-462**
**навін — 332-462**
**мастацкага афармлення — 332-204**
**фотакарэспандэнт — 332-462**
**бухгалтэрыя — 268-640**





**Набор і вёрстка камп'ютэрнага цэнтра тыднёвіка "ЛіМ"**

Выходзіць раз на тыдзень па пятніцах

Друкарня "Беларускі Дом друку" (г. Мінск, пр. Ф. Скарыны, 77)

Індэкс 63856. Наклад 7332.
Нумар падпісаны 17.5.1996 г.
Заказ 2348/Г

П 123456789101112
М 123456789101112